ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

7 кастрычніка 1994 г. № 40 (3762) Кошт 75 руб.





## І ТОНКІМ АДЧУВАННЕМ КОЛЕРАВАЙ ГАРМОНІІ...

Вядомаму жывапісцу, педагогу, заслужанаму дзеячу мастацтваў Рэспублікі Беларусь, прафесару Пятру Серапіёнавічу Крахалёву 5 кастрычніка споўнілася 75 год. Лёс яго, ураджэнца Курганскай вобласці, назаўжды звязаў з беларускай зямлёю. Тут, пад Чачэрскам, у час вайны быў ён цяжка паранены і выратаваны толькі дзякуючы турботам мясцовых жыхароў.

Да прафесійнага мастацтва Пётр Серапіёнавіч ішоў доўга і складана. Скончыў педагагічны інстытут — і пайшоў у свярдлоўскую мастацкую вучэльню. Але ўсё перапынілі шэсць гадоў фінскай і айчыннай войнаў. У 1945 г. П. Крахалёў стаў студэнтам Ленінградскага інстытута імя Рэпіна (цяпер Акадэмія мастацтваў Расіі), скончыўшы, які прыехаў у Мінск. Тут сталася яго педагагічная кар'ера ад мастацкай вучэльні, політэхнічнага інстытута да Беларускай акадэміі мастацтваў, дзе працаваў апошнія трыццаць год, быў загадчыкам кафедры жывапісу. На Беларусі сцвердзіўся ён і як мастак. Кола яго тэм надзвычай шырокае — пейзажы, партрэты, нацюрморты, вясковыя і ваенныя матывы. Але ва ўсіх работах ён адметны тонкім адчуваннем колеравай гармоніі, чалавечнасцю і лірызмам у адлюстраванні самых жорсткіх матываў.

Работы мастака захоўваюцца ў многіх музеях Беларусі, ён удзельнік практычна ўсіх рэспубліканскіх выстаў. Пётр Серапіёнавіч працягвае працаваць...

# ЛІТ КОЛА ДЗЁН

***Год назад, 3—4 кастрычніка, быў трагічна развязаны вузел парламенцка-прэзідэнцкага крызісу ў Расіі. Сёлета, менавіта ў гэтыя ж дні, пачаў завязвацца вузел прэзідэнцка-парламенцкага крызісу ў Беларусі. Прэзідэнт быў настроены рашуча: разумеючы, што сённяшні «савецкі» Савет савецкую ўладу на месцах можа не здаць, ён загадзя заявіў, што гатовы праігнараваць такое рашэнне і, нягледзячы ні на што, стварыць сваю «вертыкаль» — паставіць «сваіх» людзей — ад Мінска да самага далёкага сельсавета. Але канфрантацыі пакуль не ўзнікла. Вярхоўны Савет учора падтрымаў Прэзідэнта. Што чакае нас заўтра?..***

## *НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ*

Прэзідэнт і яго каманда з першых дзён улады заклапочаныя эканамічнымі праблемамі і ў сферу дзейнасці нашага выдання — культура, творчасць і г. д. — пакуль не ўнікалі. Ці не таму няма пакуль у нас і «свайго» міністра... Тым больш цікавыя нам тыя адзінкавыя рашэнні прэзідэнта, што тычацца нашае сферы. Першы ж указ прэзідэнта аб перайменаванні Урадавай бібліятэкі ў Прэзідэнцкую з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі, мякка кажучы, здзівіў. Днямі стала вядома ад «кампетэнтнага» Белінфарма, што рыхтуецца ўказ Прэзідэнта аб перадачы дзяржаўных прапрыемстваў народных промыслаў у падпарадкаванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Зноў тыя ж пытанні: навошта, дзеля чаго, ці тое гэта, чым трэба займацца Самому Прэзідэнту? Цяжка паверыць, што Прэзідэнт узяў пад сваё крыло народныя промыслы, каб дапамагчы народным майстрам, бо ведаем, як ставіцца ён да ўсяго нацыянальнага... Няўжо зацікавіў той кволы ручаёк валюты, што цёк з Захаду за творы народнага мастацтва?

## *СХОДКА ТЫДНЯ*

Народны рух Беларусі правёў 1 кастрычніка свой другі кангрэс. Удзел у ім не прынялі неакамуністы і камсамольцы, а таксама прадстаўнікі Берасцейскай вобласці. Калі першыя адкалоліся яшчэ падчас прэзідэнцкіх выбараў, то апошнія толькі зараз. Але выступіць на кангрэсе з тлумачэннем сваёй пазіцыі берасцейцам не далі. Берасцейцы ж супраць стварэння на аснове НРБ Партыі Машэрава ці імя Машэрава. Кангрэс паказаў, што і сярод чырвоных на Беларусі адзінства няма.

## *ВІЗІТ ТЫДНЯ*

Раней па вуліцах Шклова А. Лукашэнка хадзіў вольна і мала каму быў патрэбны. Сёння ён тут нарасхват. Кожны хоча параіцца з Прэзідэнтам, расказаць пра свае клопаты і праблемы, падтрымаць яго ў нялёгкай барацьбе з мафіяй, падзякаваць за павышэнне цэнаў і замарожванне заробкаў. Словам, візіт на радзіму атрымаўся плённым і, галоўнае, патрэбным.

## *ПРАЖЭКТ ТЫДНЯ*

Міністэрства сувязі і інфарматыкі распрацавала праграму развіцця сродкаў сувязі Беларусі да 2000 года. Паводле яе ў 90 працэнтах гарадскіх кватэр і 45 працэнтах сельскіх сем'яў да пачатку новага тысячагоддзя будуць устаноўлены тэлефоны. Былі на нашай памяці «Харчовая праграма», «потым «Жыллёвая...», будзе і «Тэлефонная». Ствараць прыгожыя планы за 70 гадоў мы навучыліся, колькі ж гадоў будзем вучыцца іх выконваць?

## *НАВІНА ТЫДНЯ*

Краіны СНД адмовіліся ад беларускай бульбы. «Замежная» — італьянская, галандская альбо польская — абыходзіцца сёння ім танней, чым наша. Да таго ж імпартная бульба не мае славы чарнобыльскай.

## *ЛІЧБА ТЫДНЯ*

2600 трактароў «Беларусь» будзе пастаўлена да канца гэтага года ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Можам жа!

## *ВЯРТАННЕ ТЫДНЯ*

30 верасня летувіская чыгунка перадала чыгунцы беларускай часткі ўчасткаў Друскенікі—Парэчча—Марцінконіс, уключаючы станцыі Парэчча, Кена, Гудагай, Пабраддзе—Лынтупы—Гадуцішкі. Усяго перададзена 63 кіламетры шляху і станцыі Парэчча і Лынтупы. Лёс станцыі Гадуцішкі з двума кіламетрамі шляху ля яе застаецца нявырашаным.

## *ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ*

Сёлетняя зіма будзе для нас халоднай. І папярэджваюць нас аб гэтым не сіноптыкі, а энергетыкі. Па словах віцэ-прэм'ера В. Кокарава, гарачая вада зімою будзе ўключацца толькі тройчы на тыдзень, а ацяпленне давацца ў залежнасці ад надвор'я. «Запасайцеся цёплым адзеннем», — раіць віцэ-прэм'ер. І слушна заяўляе, што шлях да незалежнасці ляжыць праз «выпрабаванне на холад». Гэтым шляхам ў свой час прайшлі і Прыбалтыка і Украіна. Але ці да незалежнасці мы ідзём?

## *ЦЫТАТА ТЫДНЯ*

«У працэсе рэалізацыі прэзідэнцкай праграмы жыць будзе значна цяжэй. Ужо ў бягучым годзе істотна скароцяцца датацыі дзяржавы на жыллёва-камунальныя паслугі, утрыманне грамадскага транспарту, паліва... Паколькі праграмай намечана рэзкае абмежаванне выдачы льготных крэдытаў, то многія дзяржаўныя прадпрыемствы напэўна абанкруцяцца. У выніку на вуліцу будуць выкінуты дзесяткі тысяч людзей, што ўзмацніць сацыяльную напружанасць. Ці можна выйсці з крызісу без такіх драконаўскіх мераў? Такая магчымасць была раней. Тры—чатыры гады назад наш урад мог пайсці шляхам прыбалтыйскіх дзяржаў і сёння большасць нашых праблем была б вырашана. Замест гэтага нашы кіраўнікі пасмейваліся над Эстоніяй і Латвіяй, дзе насельніцтву давялося пайсці на пэўныя цяжкасці дзеля лепшай будучыні. Але гэтыя цяжкасці прывялі да стабілізацыі эканомікі, і яны былі непараўнальныя з тымі ахвярамі, якія прынясе зараз і ў бліжэйшай будучыні беларускі народ».

*(«Што ў канцы тунеля: святло ці паравоз», «Звязда», 5 кастрычніка г. г.)*

## *АДЛІГА ТЫДНЯ*

Усім, пэўна, вядома абяцанне Прэзідэнта замарозіць цэны. Апошнім часам прыгадваецца яно ўсё часцей і часцей, пасля чарговых паведамленняў у друку пра павышэнне цэнаў на паслугі, тавары, прадметы. На гэтым тыдні «парадавалі» нас транспартнікі: з 10 кастрычніка ў 1,5 раза павялічыцца кошт праезду на чыгунцы і 2,5 раза на гарадскім грамадскім транспарце. Паслухмяным Прэзідэнту застаецца пакуль толькі наш мінімальны заробак: над ім трашчыць моцны мароз, а ў цэнаў даўно ўжо адліга.

## *АБСУРД ТЫДНЯ*

«Заўтра старшыня Народнага руху Беларусі С. Гайдукевіч, разам са сваімі сустаршынямі — лідэрамі Славянскага сабора, баталістаў-марыністаў, беларускіх «жырыноўцаў», фізкультурнікаў і галоўным рэдактарам «Новай народнай газеты» Н. Машэравай выпраўляюцца ў Маскву». — паведамляе «Звязда». — Там яны збіраюцца прыняць удзел у парламенцкіх слуханнях на тэму «Аб становішчы суайчыннікаў за мяжой». Наколькі вядома, большасць сяброў арганізацый і партый, што ўваходзяць у НРБ, — беларусы. Дык інтарэсы якіх «суайчыннікаў» і ад каго збіраецца абараняць беларуска Н. Машэрава і К°?

*З нагоды*

# НЯЛЮБЫЯ ДЗЕЦІ

Раней было як?

Выступленні першых асоб дзяржавы абавязкова дзесьці напрыканцы ўтрымлівалі два-тры абзацы, звернутыя да творчай інтэлігенцыі. Па іх, па гэтых абзацах (а галоўным чынам — па інтанацыі, з якой вымаўляліся), «дзеячы літаратуры і мастацтва» беспамылкова здагадваліся, чаго хоча ад іх улада «на чарговым этапе абвастрэння ідэалагічнай барацьбы», за што пахваліць, а за што, як кажа адзін мой знаёмец, «дасць гумы».

У часы «эканомнай эканомікі» і «стварэння твораў, вартых эпохі», калі ўзнікалі праблемы з цэнзурай і ніколі — з паперай, сістэме былі аднолькава неабходныя і прыдворныя жывапісцы, і гнаныя дысідэнты. Першыя аздаблялі фасад рэжыму, наяўнасць другіх дазваляла бязбедна існаваць цэлай арміі цынічных краснабаяў-ідэолагаў.

Савецкі тып дачыненняў улады і інтэлігенцыі вызначаўся рытуальнасцю, размеранасцю і пэўнасцю. Зрэшты, ён не быў чымсьці новым у гісторыі. Ідэалам такіх дачыненняў варта прызнаць ... адукаваную манархію. Верылася ў з'яўленне на палітычным Алімпе чалавека, які, наблізіўшы да сябе мудрых дарадцаў, будзе спрыяць росквіту «навук і рамёстваў».

Найбольш выразна гэтыя спадзяванні выявіліся ў часы перабудовы, калі сцены калідораў улады зрабіліся больш празрыстымі. У прынцыпе, беларуская інтэлігенцыя можа сім-тым ганарыцца ў гэтым сэнсе. Настойліва доўбячы ў адну кропку, яна ўсё ж прымусіла кіраўніцтва дзяржавы засвоіць хоць бы мінімум адраджэнцскай тэрміналогіі.

Але — вельмі мала і вельмі позна...

Што цяпер?

Апошнія месяцы пазначаны незвычайнай палітычнай актыўнасцю ў вярхах. Ідзе беспрэцэдэнтная кадравая перастрэска. Робяцца і руйнуюцца кар'еры. Адбываецца перадзел паўнамоцтваў і сфер уплыву. Распрацоўваюцца і прымаюцца антыкрызісныя праграмы.

І толькі словам «культура» новая ўлада ніводнага разу не зняважыла сваіх вуснаў.

Пра дачыненні прэзідэнта з «тонкімі матэрыямі» вядома вельмі і вельмі мала. Неўзабаве пасля выбрання ён, помніцца, накіраваў прывітанне мастаку Паўлу Масленнікаву з нагоды персанальнай выстаўкі ў Магілёве. Потым была крытыка нацыяналістычных матываў у новых падручніках па гісторыі. На мінулым тыдні А. Лукашэнка нібыта меўся паглядзець у Купалаўскім тэатры прэм'еру спектакля «Дон Жуан вяртаецца з вайны», але перашкодзіла здароўе. У гэтым кантэксце варта згадаць таксама прэзідэнцкі загад скласці спісы таленавітых людзей, — каб нейкім чынам стрымаць працэс уцечкі мазгоў.

Вось, бадай, і ўсё.

Куды больш істотныя сведчанні пра адсутнасць у прэзідэнцкай каманды нават намёку на нейкую культурную палітыку, што выявілася ўжо на этапе рэфармавання ўладных структур, чаму надаецца асаблівая ўвага. Спачатку было вырашана зноў падзяліць Міністэрста культуры і друку на два асобныя ведамствы, а ў рэшце рэшт пашырылі яго кампетэнцыю яшчэ і на спорт з рэлігіяй.

Праблемам культуры, увогуле духоўнай сферы не знайшлося месца ні ў прэзідэнцкім палітычным пасланні-прадстаўленні праграмы антыкрызісных захадаў, ні ў выступленнях вышэйшых дзяржаўных асоб, якія канкрэтызавалі пэўныя яе палажэнні. Паказальным быў адказ М.Чыгіра на пытанне аднаго дэпутата наконт лёсу творчых саюзаў. «Як будуць працаваць, так і будуць жыць», — сказаў прэм'ер-міністр.

У сваім імкненні спыніць абвальныя працэсы ў эканоміцы прэзідэнт вызначае прыярытэты і з уласцівай яму імпульсіўнасцю адкідае ўсё тое, што здаецца другасным, непатрэбным. У разрад бутафорыі адразу ж трапіла дзяржаўная мова, якой былое кіраўніцтва пачынала карыстацца хоць бы дзеля прыліку.

Зрэшты, было б наіўна чакаць ад нашых прагматыкаў, якія прыйшлі да ўлады, чагосьці іншага. Для іх усе гэтыя спектаклі, канцэрты, кнігі ўяўляюцца ўсяго толькі яшчэ адной прарэхай у бюджэце. І мы наўрад ці адшукаем неабходныя словы і аргументы, каб пераканаць іх у адваротным.

Не трэба забываць і пра тое, што на мінулых прэзідэнцкіх выбарах інтэлігенцыя рабіла стаўку зусім не на А.Лукашэнку. Гэта таксама ўскладняе магчымасць дыялога. Прымаючы непапулярныя меры, прэзідэнт сёння найперш хоча быць зразуметым у асяроддзі свайго электарату, асабліва не зважаючы на ціхі стогн бюджэтнай культуры.

Чаго можна чакаць?

Магчыма, тыя, хто надта сумуе па звыклых дачыненнях інтэлігенцыі і ўлады, неўзабаве ўсё ж пачуюць звернутыя да іх два-тры абзацы. Маўляў, помнім, з разуменнем ставімся да вашых праблем, імкнёмся дапамагчы...

Але хутчэй за ўсё давядзецца нам звыкацца з роляй нялюбых дзяцей. Успомніць, што калісьці прафесіі нашы называліся «вольнымі». Зразумець, што, нягледзячы на мяркуемую халодную зіму, канец свету зноў адкладаецца на няпэўны тэрмін.

Вось што сказаў з гэтай нагоды знаны грузінскі рэжысёр Роберт Стуруа:

«Самае прыкрае ўсведамляць: палітыка настолькі брудная справа, што просты чалавек непазбежна аказваецца ахвярай ці то інтрыг наверсе, ці то грашовых афер. Табе тычуць у нос патрыятычныя лозунгі, а на самай справе ёсць толькі бруд, і ты адчуваеш сябе то цацкай у руках нягоднікаў, то пясчынкай глабальных працэсаў.

Ды нягледзячы на ўсе беды, грузінскі тэатр не толькі не згубіўся, але нават апынуўся на ўздыме... Маёй месячнай зарплаты — а ў мяне яна самая высокая ў тэатры — хапае на 2 кг бульбы. Ратуе, што тэатр хоць бы зрэдчас ездзіць за мяжу. Новых дэкарацый і касцюмаў няма — перарабляем са старых. Але спытайце ў акцёраў: яны скажуць, што апошнія гады — гэта лепшы іх час. Таму што ёсць адчуванне незалежнасці, усведамленне, што ты не з'яўляешся ўдзельнікам усеагульнага псіхозу».

У Грузіі — так...

**Андрэй ГАНЧАРОЎ**

*Парламент*

# НЕАД'ЕМНАЕ ПРАВА НАРОДА

У нашым палітызаваным грамадстве закон «Аб палітычных партыях», нарэшце зацверджаны на бягучай сесіі Вярхоўнага Савета (пішу — нарэшце, бо нараджаўся ён досыць пакутліва), безумоўна, не пройдзе незаўважаным. Я б наважыўся нават сказаць, што з усіх законаў, прынятых нашым вышэйшым органам заканадаўчай улады ў посткамуністычны перыяд, гэты стаіць асобна і з'яўляецца пэўнай вяхой на шляху краіны да дэмакратыі, дэмакратычных свабод.

Па існуючай працэдуры, закон прымаўся паартыкульна і, назіраючы за табло, дзе высвечваліся вынікі галасавання (пераважная большасць артыкулаў адразу набірала «прахадны бал»), не мог адвязацца ад трывіяльнай думкі — як хутка мы пачынаем прымаць за належнае, зусім натуральнае тое, пра што на самай блізкай нашай памяці нават выказацца ўголас здавалася рызыкоўным, бо само паняцце шматпартыйнасці было несумяшчальнае з пануючай камуністычнай ідэалогіяй, якая ўсякую палітычную канкурэнцыю ўспрымала, як смяротную для сябе пагрозу. І, між іншым, мела ў гэтым рацыю.

Бадай, кожная частка закона выклікае пэўныя асацыяцыі. Вось, да прыкладу, артыкул трэці: «Забарона абмежавання правоў і свабод грамадзян у сувязі з іх прыналежнасцю ці не прыналежнасцю да палітычных партый». Хто падлічыць, колькі ў эпоху панавання КПСС было закатавана за гулагаўскім дротам людзей толькі за тое, што яны яшчэ «за царом» належалі да кадэтаў, меншавікоў, нават левых эсэраў, якія, дарэчы, дапамаглі бальшавікам здзейсніць кастрычніцкі пераварот? Хто калі думаў, што ў нас народзіцца закон, дзе будуць і такія словы: «Дзяржава гарантуе захаванне правоў і законных інтарэсаў палітычных партый, стварэнне ўмоў для выканання імі сваіх статутных мэт і задач»? Артыкулам 23 закона палітычным партыям дадзена права свабодна распаўсюджваць інфармацыю аб сваёй дзейнасці, прапагандаваць свае ідэі, мэты і рашэнні, утвараць свае друкаваныя выданні, праводзіць мітынгі, дэманстрацыі, сходы і да т. п.

Разам з тым, было б і перабольшаннем гаварыць, што дакумент гэты складзены ідэальна і пазбаўлены недахопаў. У дыскусіі, што разгарнулася па ходзе паартыкульнага прыняцця закона, пра гэта гаварылі многія выступоўцы. У прыватнасці, некаторых з іх не задаволіла прадугледжаная законам адна з умоў стварэння палітычнай партыі, а менавіта — наяўнасць не менш як пяцісот заснавальнікаў. Былі выказаны прапановы зменшыць гэтую квоту, што б паспрыяла з'яўленню новых палітычных партый. Пакуль што іх у нас усяго 26, што для дзесяцімільённай рэспублікі, па марках, прынятых у дэмакратычных краінах, — мала.

Выклікалі пярэчанні і абумоўленыя ў законе абмежаванні ў фінансаванні палітычных партый. Пагадзіўшыся з тым, што не павінна дапускацца фінансаванне партый з дзяржаўнага бюджэту, некаторыя выступоўцы аспрэчвалі прадугледжаныя законам перашкоды на шляху папаўнення партыйных кас за кошт грамадскіх фондаў, ахвяраванняў прыватных асоб, што практыкуецца амаль ва ўсіх дэмакратычных краінах.

Але ў цэлым, паўтараю, закону была дадзена станоўчая ацэнка і ён быў прыняты належнай большасцю галасоў.

У перапынку я пагутарыў з Анатолем Вярцінскім, намеснікам старшыні пастаяннай камісіі ВС па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, якая распрацоўвала гэты закон і выносіла яго на разгляд сесіі. Паводле слоў Анатоля Ільіча, Беларусь ці не адзіная пакуль што краіна СНД, дзе прыняты такі закон. Няма яшчэ падобнага заканадаўчага акта і ў Расійскай Федэрацыі, чым і тлумачыцца, і ў гэтым можна было поўнасцю пагадзіцца з маім суразмоўнікам, з'яўленне там партый з фашысцкай, чарнасоценнай ідэалогіяй, адкрыта заклікаючых да гвалтоўнага змянення канстытуцыйнага ладу. Забарону менавіта такіх палітычных фарміраванняў прадугледжвае артыкул шосты нашага закона: «Забараняецца стварэнне палітычных партый, якія маюць на мэце гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу ці прапаганду вайны, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці».

Адным словам, краіна наша атрымала закон, які сцвярджае неад'емнае права народа на дэмакратычныя свабоды.

**М. ЗАМСКІ**

# І ДБАЕ АБ ЯКАСЦІ...

Яшчэ не так даўно работнікі выдавецтваў, паліграфісты, усе, хто мае непасрэднае дачыненне да выпуску кніг, рэгулярна збіраліся на так званыя дні якасці, каб абмеркаваць узровень мастацкага афармлення і паліграфічнага выканання сваёй прадукцыі. Потым добрая завядзёнка забылася — не да дзён якасці стала.

Цяпер, на шчасце, нягледзячы на ўсе цяжкасці, становішча пакрысе выпраўляецца. Таму зноў узнікла патрэба паглядзець, наколькі тая ці іншая кніга адпавядае высокім запатрабаванням, як пры выданні яе захоўваюцца нарматывы ДАСТу.

У аўторак па ініцыятыве Міністэрства культуры і друку зноў адбыўся дзень якасці. Хаця, як слушна зазначыў на яго адкрыцці міністр А. Бутэвіч, гэтае мерапрыемства з поўнымі на тое падставамі можна назваць і выстаўкай бракаробаў. І з Анатолем Іванавічам нельга не пагадзіцца. Кнігі, што былі выстаўлены на некалькіх стэндах, вельмі рэзка розніліся між сабой. Безумоўна, вылучаліся выданні, адзначаныя на традыцыйным рэспубліканскім конкурсе «Мастацтва кнігі», узнагароджаныя дыпломам, а таксама выданні так званай палепшанай якасці. А поруч — кнігі, што з'яўляюцца сведчаннем «пагоршанага» паліграфічнага выканання і мастацкага афармлення. Іх не адзін дзесятак набраўся.

Міністр падкрэсліў, што мінуўся ў галіне той час, калі неабходна было любой цаной даваць толькі колькасць, не клапоцячыся аб якасці. І дзяржаўныя выдавецтвы, і недзяржаўныя імкнуліся зарабіць грошы, «гналі» тыраж (а ён, як правіла, разыходзіўся). Цяпер сітуацыя рэзка змянілася. Пакупнікі сталі вельмі патрабавальнымі. Упалі тыражы нават так званай камерцыйнай літаратуры. А што тычыцца беларускай кнігі ўвогуле, дык, падкрэсліў Анатоль Іванавіч, не варта забываць, што ўзровень яе мастацкага афармлення, паліграфічнага выканання заўсёды быў вельмі высокім. І ніжэй гэтага ўзроўню апускацца нельга. Міністр заклікаў выдаўцоў смялей уключаць у свае планы выданні палепшанай якасці — маўляў, міністэрства гатова падтрымаць намаганні ў гэтым кірунку.

Намеснік міністра С. Нічыпаровіч паведаміў, што са жніўня 1993 года па жнівень сёлетняга года ў нашай дзяржаве ўсімі выдавецкімі структурамі выпушчана 3318 кніг і брашур агульным тыражом 97 мільёнаў 617 тысяч экземпляраў, у тым ліку 999 кніг з'явілася ў дзяржаўных выдавецтвах тыражом больш за 33 мільёны экземпляраў. На сённяшні дзень у Беларусі ліцэнзіі на кнігавыданне маюць звыш 800 (!) выдавецтваў, арганізацый, устаноў і г. д. Здавалася б, гэтаму толькі радавацца, тым больш, што недзяржаўныя выдавецкія структуры падключаюцца да выпуску беларускамоўнай літаратуры, у тым ліку і дзіцячай. Але мала дбаць аб выпуску кніг, трэба, каб яны пры гэтым заставаліся і творамі мастацтва.

Пра гэта гаварылі і іншыя прадстаўнікі міністэрства, Нацыянальнай кніжнай палаты. Безумоўна, не забывалі сказаць і пра аб'ектыўныя цяжкасці. У прыватнасці, адсутнічаюць якасныя паліграфічныя матэрыялы, не хапае высокіх гатункаў паперы, многія высокакваліфікаваныя мастакі, якія шмат гадоў працавалі ў дзяржаўных вылавецтвах, пакінулі іх. Але і ў сённяшніх умовах, пры выкарыстанні адных і тых жа матэрыялаў, канчатковыя вынікі бываюць зусім розныя. Асабліва шмат папрокаў гучала ў адрас Маладзечанскай і Баранавіцкай друкарняў. Гучалі папрокі і ў адрас работнікаў друкарні імя Ф. Скарыны. А ёй, як вядома, у асноўным даецца «зялёнае святло» кнігам выдавецтва «Навука і тэхніка».

У далейшым падобныя мерапрыемствы мяркуецца зноў зрабіць традыцыйнымі.

# ТУТ ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ...

## ЛІЦЭЙ ІМЯ БРАНІСЛАВА ТАРАШКЕВІЧА Ў БЕЛЬСКУ-ПАДЛЯСКІМ АДЗНАЧЫЎ СВОЙ 50-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ.



*Беларускі ліцэй у Бельску-Падляскім.*

Беларускі ліцэй на працягу ўсёй гісторыі свайго існавання з'яўляецца не толькі агульнаадукацыйнай навучальнай установай. Гэта, у першую чаргу, адзін з цэнтраў беларускасці ў Польшчы. І, несумненна, умацаванню ліцэя як цэнтра беларускай культуры садзейнічалі, у першую чаргу, яго дырэктары і цудоўныя педагогі Анатоль Тымінькі і Яраслаў Кастыцэвіч, Мікола Гайдук і Аляксей Карпюк. Зараз традыцыі ліцэя прадаўжае яго дырэктар Зінаіда Навіцкая і педагагічны калектыў, які складаецца, у асноўным, з выпускнікоў гэтай навучальнай установы.

У дні юбілею тут адбылася сустрэча выпускнікоў і адкрыццё мемарыяльнай дошкі Яраславу Кастыцэвічу, які без малога дваццаць гадоў аддаў ліцэю. Мемарыяльная дошка выраблена і падаравана ліцэю Міністэрствам культуры і Кабінетам міністраў Беларусі.

**Яўген КАЗЮЛЯ,**
**БЕЛІНФАРМ**




*Мемарыяльная дошка, прысвечаная Яраславу Кастыцэвічу.*
*Фота аўтара*

# НЯМА СВАБОДЫ БЕЗ УЛАСНАСЦІ

У Міністэрстве культуры і друку адбылася сустрэча прадстаўнікоў літаратурна-мастацкіх, культурна-асветніцкіх, дзіцячых і педагагічных выданняў з экспертам «ЮНЕСКА» містэрам Бегуінам. Ён давёў прысутным, што задача экспертаў — вывучыць эканамічную, палітычную і сацыяльную абстаноўку на Беларусі і даць практычныя рэкамендацыі для беларускай прэсы, каб яна магла служыць грамадскім патрэбам, каб жыхары рэспублікі актыўней удзельнічалі ў дэмакратычным жыцці.

Недастаткова выбраць парламент і прэзідэнта, падкрэсліў містэр Бегуін. Галоўнае — праўдзіва інфармаваць грамадскасць, што магчыма толькі пры ўмове незалежнасці сродкаў масавай інфармацыі.

Пытанні эксперта ААН да прысутных былі самыя розныя. Яго цікавіла і тое, чаму ў нас так мала плацяць настаўнікам, і як мы растлумачым сваім дзецям трагедыю Курапатаў. Ён праявіў разуменне тых праблем, якія прыйшлі да нас разам з курсам на рынкавыя адносіны. Рынак не забяспечвае ні культуры, ні дэмакратыі, яны развіваюцца, калі частку эканамічнай адказнасці бярэ на сябе дзяржава.

Галоўныя рэдактары і супрацоўнікі часопісаў і газет выказалі трывогу ў сувязі з тым, што выданні, якія карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай, Міністэрства фінансаў рэкамендуе перавесці на самаакупнасць. Лозунг незалежнасці прэсы пэўным кіраўнічым колам адно на руку. Бо нацыянальныя выданні, якія фінансуюцца з бюджэту, спавядаюць свабоду слова, крытыкуюць урад і прэзідэнта, прама выказваюць свае погляды. Натуральна, гэта не ўсім даспадобы. Нас хочуць адпусціць на волю, як сялян у 1861 годзе, — без уласнасці. А без уласнасці няма і свабоды. Так можна закрыць беларускія тэатры, музеі, выдавецтвы, што выпускаюць беларускія кнігі... Прадастаўце нам стартавы капітал, вызначце долю ўласнасці (паліграфічная база, рэдакцыйныя плошчы і да т. п.), а без гэтага так званая незалежнасць — проста галеча.

Падзякаваўшы містэра Бегуіна, прысутныя зазначылі, што творчай і навуковай інтэлігенцыі, журналістам давядзецца шмат працаваць, каб Беларусь ведалі ў свеце.

**НАШ КАР.**

# КАСЦЮШКУ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

29 верасня ў Гародні на будынку Новага Замка ўпершыню ў Беларусі па-дзяржаўнаму, пад трохразовы аўтаматны залп і пад гукі «Пагоні» ўрачыста адкрылі памятную дошку, прысвечаную паўстанню 1794 г. 200 гадоў таму ў гэты дзень кіраўнік паўстання, наш знакаміты зямляк Тадэвуш Касцюшка наведаў Гародню, якая на той час стала сталіцай паўстаўшага народа. Ён правёў вайсковую нараду і ўручыў узнагароды кіраўнікам паўстання на Беларусі і Літве, баявым афіцэрам. У якасці ўзнагароды былі спецыяльныя пярсцёнкі з патрыятычнымі надпісамі.

На адкрыцці дошкі сабралася шмат гарадзенцаў, людзей, якім дорага незалежнасць і вольнасць Беларусі. Прыехалі на гэтыя ўрачыстасці з Мінска прадстаўнікі нацыянальнага аргкамітэта на чале з А. Грыцкевічам.

Асаблівую значнасць гэтым падзеям надавала прысутнасць дыпламатычнага корпуса з краін, з якімі лёс сутыкнуў Т. Касцюшку: часовы пераваны ЗША ў Беларусі Джордж Кроул, вайсковы аташэ пасольства ЗША ў Беларусі Зігус Томас, вайсковы аташэ Францыі ў Беларусі Жан Уф Бурыс, надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Эльжбета Смулэк і пасол Літвы ў Беларусі Віктарас Баўбліс. У гэтых краінах шануецца імя Касцюшкі. Толькі на Беларусі яго нашчадкі да гэтага часу не ўшанавалі яго імя і справы.

Час бяспамяцтва прайшоў. Хораша, што гарадскія ўлады Гародні далі прыклад новаму ўраду Беларусі, як трэба праводзіць святы, якія б дасягалі дзяржаўнага ўзроўню, спрыялі б фарміраванню нашай свядомасці, умацаванню незалежнасці, дзяржаўнасці.

Памятную дошку, якую адкрыў першы намеснік гарвыканкама М. Калацэй сумесна з пасламі, выканаў гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў.

У Новым Замку ў гонар двухсотых угодкаў была адчынена выстаўка гарадзенскіх мастакоў, творы якіх прысвечаны падзеям паўстання 1794 г. і яго кіраўнікам.

Вечарам у Тэатры Тызенгаўза, дзе некалі выступаў Касцюшка, быў наладжаны ўрачысты вечар, на якім выступілі старшыня гарвыканкама Г. Крупенка, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса, прадстаўнік нацыянальнага аргкамітэта М. Купава. Пасля быў адмысловы канцэрт, большыня рэпертуару якога складалі творы ўдзельнікаў паўстання 1794 г. Т. Касцюшкі, М. К. Агінскага, М. Радзівіла і іншых аўтараў той эпохі.

**А. БЕЛЫ**

## ДОРЫЦЬ РАДАСЦЬ

У вёсцы Дайлідкі Астравецкага раёна жыве мастачка Тэрэза Іосіфаўна Варановіч (на здымку). Скончыўшы Беларускую акадэмію мастацтваў, яна вярнулася ў сваю вёску. Відаць, дзіцячая ўлюбёнасць у родныя мясціны аказалася мацней за ўсе перспектывы гарадскога жыцця. Цяпер яна працуе мастаком-афарміцелем у калгасе імя Калініна і піша карціны. Многія дорыць аднавяскоўцам.

*Фота Рамана КАБЯКА,*
*БЕЛІНФАРМ*



# ЗА ВЕЛІЧ ДЗЯРЖАВЫ

***Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь зарэгістравана Беларуская нацыянальная партыя (БНП).***

Устаноўчая канферэнцыя БНП праходзіла 9 красавіка 1994 г. у г. Мінску. Адметна тое, што на канферэнцыі, акрамя Статута партыі, была прынята праграма, дзе ў лаканічнай форме выкладзены мэты, прынцыпы і падыходы БНП ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. БНП узнікла ў выніку якаснага пераўтварэння Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, дакладней, той яе часткі, што прытрымлівалася права-радыкальных поглядаў. БНП лічыць, што многія сучасныя дэмакратычныя партыі і рухі з'яўляюцца, па сутнасці, толькі псеўдадэмакратычнымі. Дух бальшавізму яшчэ моцны ў гэтых арганізацыях. Таму БНП лічыць, што пра дэмакратыю, як бліжэйшую мэту, гаварыць яшчэ рана. Было вырашана не выкарыстоўваць у назве партыі слова «дэмакратычная», а засяродзіцца на галоўным: нацыянальнай ідэі. БНП лічыць, што нацыянальная ідэя — галоўны з усіх чалавечых набыткаў у сферы грамадскага жыцця. З гэтай высновы вынікае, што БНП — дзяржаўная партыя, бо нацыянальнымі прынцыпамі павінны кіравацца грамадзяне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

Адным з галоўных прынцыпаў БНП з'яўляецца нацыяналізм, як лепшая духоўная якасць асобы чалавека. На таў час вярнуць гэтаму слову яго спрадвечны станоўчы сэнс. Нацыяналізм — гэта адданасць сваёй нацыі, гэта змаганне за яе волю і незалежнасць, за яе духоўную і фізічную моц, за права нацыі быць роўнай сярод роўных.

Навізна праграмы БНП яшчэ ў адным прынцыпе, не адзначаным ні ў адной праграме іншых партый. Гэты прынцып — ідэя нацыянальнай велічы Беларусі. Народ Беларусі павінен усвядоміць сваю нацыянальную веліч і магутнасць, як гэта было ў часы беларускай дзяржавы Вялікага княства Літоўскага. Традыцыі ВКЛ павінны аднавіцца, а Беларусь павінна стаць адным з буйнейшых асяродкаў Еўрапейскай палітыкі.

Мэта БНП — адбудова незалежнай дзяржавы Беларусь, якую насяляе толькі адзін народ — беларускі. Але, акрамя беларускага народа, на гістарычнай тэрыторыі Беларусі, безумоўна, жылі і будуць жыць этнічныя групы — расейцы, палякі, украінцы, яўрэі і іншыя.

Структуры БНП створаны ва ўсіх абласцях Беларусі. Найбольш значныя сілы БНП, акрамя г. Мінска, згуртаваны ў г. Гродне, Віцебску. Ёсць арганізацыі ў Жлобіне, Бабруйску, Гомелі, Наваполацку, Лунінецкім раёне і іншых месцах.

**Анатоль АСТАПЕНКА,**
**старшыня БНП**

## ТАЛЕНТЫ РОБЯЦЬ СВЯТА



Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пачаў свой чарговы сезон. І зноў за дырыжорскім пультам малады таленавіты нямецкі маэстра Інга Эрнст Райль, які ўжо другі год кіруе гэтым калектывам.

— Я стаў мастацкім кіраўніком гэтага аркестра па просьбе майго даўняга сябра, выдатнага музыканта і кампазітара Алега Янчанкі, які калісьці яго арганізаваў, — паведаміў І. Э. Райль.

У канцэрце выконваліся творы А. Карэлі, Й. Гайдна, П. Чайкоўскага. Слухачоў зачаравала мяккасць, пявучасць гучання. А маэстра ад Бога (ён пачаў дырыжыраваць яшчэ з трынаццаці гадоў) вёў аркестр, што называецца, на адным подыху.

Яшчэ колішні кіраўнік камернага аркестра Юры Цырук, якога ўжо, на жаль, няма з намі, вёў размову з мастацкім кіраўніком Маладзёжнага камернага хору Цэнтра культуры чыгуначнікаў Н. Жураўленкай наконт сумеснага выканання маленькай арганнай месы Й. Гайдна. І вось, нарэшце, збылася гэтая мара. Усе выканаўцы — і аркестр, і хор, і салістка — лаўрэат рэспубліканскага і міжрэспубліканскага конкурсаў Алена Шведава, і выканаўца партыі аргана Аляксандр Рудніцкі — паспяхова справіліся са сваімі партыямі. Дарэчы, памянёны харавы калектыў існуе толькі два гады. Аднак ён ужо шырока вядомы, вызначыўся на Міжнародным фестывалі «Магутны Божа». А з камерным аркестрам гэты хор яшчэ будзе выступаць. Як паведаміла Н. Жураўленка, напэўна, вясной яны сумесна выканаюць твор Моцарта або Брукнера.

Сапраўдным упрыгожваннем гэтага цудоўнага канцэрта стаў лаўрэат міжнародных конкурсаў семнаццацігадовы віяланчэліст Мікаэл Самсонаў, які выканаў з аркестрам Канцэрт N 1 до мажор Й. Гайдна. Літаральна на вачах у паклоннікаў, развіваецца талент маладога музыканта. На думку ягонага педагога Яўгена Ксавергева, такога ўзроўню віяланчэліста яшчэ не было на Беларусі за ўсе 25 гадоў, на працягу якіх ён кіруе кафедрай віяланчэлі Беларускай акадэміі музыкі. Юнак таленавіты, працавіты, гранічна патрабавальны да сябе. Аднак, у яго няма добрага інструмента. Наогул няма віяланчэлі ў калекцыі музычных інструментаў Міністэрства культуры. Вось чаму неабходна звярнуцца з просьбай да паноў прадпрымальнікаў дапамагчы матэрыяльна юнаму таленту ў набыцці віяланчэлі. Патрэбна ж усяго толькі 16 тысяч долараў. Міжволі ўспамінаюцца словы нашага прэзідэнта пра тое, што сапраўдным талентам у нашай краіне будзе аказана ўсялякая падтрымка і дапамога.

...Завяршыўся канцэрт «Серэнадай для струннага аркестра» П. Чайкоўскага. Удзячныя слухачы апладзіравалі доўга-доўга. Нікога не пакінулі абыякавымі лёгкасць, выразнасць, сапраўдны прафесіяналізм выканаўцаў.

Наперадзе ў Дзяржаўнага камернага аркестра цікавыя, разнастайныя канцэрты.

— Мы будзем выконваць з хорам пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова псалмы Бернстайна, а ў канцы сезона прагучыць твор Алега Янчанкі «Мікеланджэла», — сказаў Інга Эрнст Райль на развітанне.

**Вера КРОЗ**

*На здымку: дырыжыруе І. Э. Райль.*
*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

## І ЦІ НЕ ЎСЁ — ПРА КАХАННЕ...

Першага кастрычніка спектаклем «Чорная нявеста» па аднайменнай п'есе Ж. Ануя пачаў свой трэці тэатральны сезон Мінскі абласны драматычны тэатр у Маладзечне. Светлую і адначасова трагічную гісторыю кахання ўвасобіў на сцэне мастацкі кіраўнік тэатра М. Мацкевіч. Ролі выканалі Т. Кавалеўская, Я. Іўковіч, А. Карпук, Б. Донін, І. Кляпацкая, А. Доніна, Д. Глазычаў.

У кастрычніцкай афішы тэатра з'явяцца яшчэ дзве прэм'еры: казка «Дзве Бабы Ягі» па п'есе Р. Сефа і Т. Карэлінай, а таксама трагікамедыя У. Канстанцінава і Б. Рацара «Дыяген».

**М. Ш.**

# БЕЛАРУСЬ БЫЛА ПРАБЕЛАМ...

***Герман Бідэр не ўпершыню наведаў Беларусь. На гэты раз ён вёў курс лекцый па нямецкай мове для навучэнцаў і выкладчыкаў філфака БДУ. Выкладчык Зальцбургскага універсітэта, відны славіст Аўстрыі, ён мае шмат артыкулаў па сацыялінгвістычных аспектах развіцця беларускай мовы, выступаў з дакладамі і рэфератамі на міжнародных канферэнцыях і сімпозіумах.***



**— Пан Герман, што было непасрэдным штуршком для абуджэння вашай цікавасці да беларускай мовы і гісторыі?**

— Венскі універсітэт даваў грунтоўную падрыхтоўку ў галіне русістыкі, паланістыкі, багемістыкі і г. д. Трэба сказаць, што кафедра славянскай філалогіі існавала там з сярэдзіны мінулага стагоддзя і мела даўнія трывалыя традыцыі. Што такое Украіна і Беларусь, там, аднак жа, доўгі час проста не ведалі, і на тое ёсць свае прычыны. Не было ні практычных заняткаў, ні тэарэтычных выкладаў па мовах гэтых немалых славянскіх народаў, і я адчуў, што тут белая пляма, прабел. Я самастойна спрабаваў знайсці доступ да крыніц, адшукваў старыя беларускія і ўкраінскія тэксты, паглыбляўся ў гістарычную праблематыку, вывучаў граматы і да т. п. Для мяне сталася сапраўдным адкрыццём, што ёсць у Беларусі вялікая культурна-гістарычная спадчына, што старабеларуская мова ўжывалася працяглы час у самых розных сферах жыцця. Між тым былі цяжкасці, адсутнічалі ксеракопіі крыніц і мікрафільмы. А галоўнае, што займацца гэтай галіной было і не вельмі прэстыжна, і ў нечым рызыкоўна. З пастулатаў руска-савецкай навукі вынікала, што цікавіцца ўкраінскімі і беларускімі аспектамі — гэта значыць спрыяць мясцоваму нацыяналізму і сепаратызму. Так што я пайшоў новым шляхам, праігнараваўшы, можна сказаць, традыцыі.

**— Калі ўпершыню вы наведаліся да нас і як складваліся вашы навуковыя кантакты?**

— З 1971 г. я выкладаю славістыку ва універсітэце ў Зальцбургу. У 1977 упершыню прыехаў у Мінск. Два месяцы працаваў пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук: вывучаў германізмы ў старабеларускай мове. Меў намер выдаць слоўнік, але пазней прадмет даследавання пашырыўся. Германізмаў шмат і ў іншых славянскіх мовах, а гэта ўжо праца для цэлага навуковага аддзела.

Тут мяне прыязна прынялі, у мяне нямала знаёмых у акадэміі і на філфаку, мне дараджаюць, дапамагаюць кантактамі і інфармацыяй, прадастаўляюць свае картатэкі. Згадаю прафесара Шакуна, доктара навук Цыхуна, кандыдата навук Запрудскага. Апошні быў маім выкладчыкам падчас Міжнароднай летняй школы, удзельнічаць у якой мне давялося колькі год таму. Са свайго боку я арганізаваў сімпозіум беларусістаў у Зальцбургу, прысвечаны новаму беларускаму Адраджэнню, на які прыехала група навукоўцаў з Беларусі.

**— Пытанне, якое звычайна задаюць пісьменнікам: над чым працуеце?**

— Рыхтую дзве манаграфіі: «Моўная палітыка на Беларусі ў 19—20 стст.» і «Царква і мова на Беларусі».

**— Досыць актуальныя для нас тэмы, асабліва другая. Колькі слоў пра тое, якой жа вам бачыцца роля царквы на Беларусі сёння.**

— У кожнай канфесіі ёсць патрыятычныя і антыпатрыятычныя плыні. Але афіцыйныя іерархіі па сутнасці супрацьдзейнічаюць беларушчыне і пры гэтым спасылаюцца на волю народа. Беларускае праваслаўе — філія Маскоўскага патрыярхата, а не ўласна беларуская царква. Досыць ваяўнічы ў вас польскі касцёл, а уніяцкая традыцыя слабая. Бяда беларусаў у тым, што ў 15—16 стст. не ўдалося стварыць сваёй царквы, і сёння гэта адгукаецца не лепшым чынам.

**— Падчас кантактаў са знаёмымі і незнаёмымі ці заўважылі вы розніцу ў нацыянальным характары паміж беларусамі і, скажам, бліжэйшымі суседзямі — рускімі?**

— Ну, у рускіх усё вялікае — дзяржава, мова, народ, тэрыторыя... У іх і прагноз надвор'я гучыць, як ода. Беларусам жа не хапае ўпэўненасці ў сабе, яны як бы камплексуюць, ім таксама хочацца жыць у вялікай краіне. Вазьміце для параўнання Славенію (два мільёны жыхароў), Славакію — краіны значна меншыя, але там адчуваецца выразны рух да незалежнасці. У 90-ым годзе ў вас, помніцца, панавала эйфарыя ў нацыянальным духу, узнёсласць. У людзей была надзея, што ўсё пераменіцца да лепшага. Цяпер жа настрой у большасці прыгнечаны, нават агрэсіўны, калі меркаваць па вуліцы і краме. Размаўляў нядаўна з дзядзькам у парку імя Горкага. Ён лічыць сябе дэмакратам, але беларуская мова яму непатрэбна. Для яго карыстанне роднай мовай — нацыяналізм, а нацыяналізм — тое самае, што і фашызм, розніцы ён не бачыць. І ён не адзін такі. Самасвядомасць размыта, усё пад пытаннем, у тым ліку палітычная незалежнасць, шляхі эканамічнага развіцця. Шмат прыйдзецца працаваць, каб разбудзіць у народзе нацыянальны дух.

**— І працаваць, вядома, на ўсіх узроўнях — ад побытавага да дзяржаўнага?**

— Так. Абуджэнне нацыянальнай годнасці — задача не вузкакультурная, а палітычная. Калі ўрад на яе не працуе, то, значыць, ён праводзіць антыдзяржаўную, антынародную палітыку.

**— А як, на ваш погляд, выконваюць гэтую задачу беларускія навукоўцы?**

— Я адчуваю прагрэс у развіцці перш за ўсё гістарычнай навукі. За апошні час у вас праведзена некалькі міжнародных канферэнцый, прысвечаных галіновым праблемам, з'явілася многа новай літаратуры, як навуковай, так і папулярнай. Па мовазнаўстве значна менш выходзіць кніг. Тэрміналагічныя слоўнікі з'яўляюцца, а вось грунтоўных прац не відаць. Кажуць, яны без руху ляжаць у выдавецтвах. Увогуле я чуў, што ў Акадэміі навук хапае праблем...

**— Праблемы ў нас яшчэ толькі пачынаюцца, пан Герман. Давайце пры канцы закранём пытанне беларуска-аўстрыйскага культурнага ўзаемадзеяння.**

— Усялякія сувязі пачынаюцца з ведання мовы. Я прыехаў сюды пры садзейнічанні Міністэрства замежных спраў Аўстрыі ў рамках развіцця культурнага супрацоўніцтва з еўрапейскімі краінамі. Тры тыдні наведвальнікі курсаў не толькі вывучалі граматыку нямецкай мовы, але і знаёміліся з культурай, краязнаўствам Аўстрыі. Былі дыскусіі па некаторых пытаннях палітыкі. Аналагічныя курсы, дарэчы, працуюць у Львове.

Не так даўно Мінскаму лінгвістычнаму інстытуту падаравана па лініі ўжо згаданага міністэрства цэлая бібліятэка мастацкай і іншай літаратуры. Гэтая бібліятэка не толькі для студэнтаў, што вывучаюць замежныя мовы, — яна для ўсіх, хто хоча лепей ведаць Аўстрыю. Так што жадаючыя могуць карыстацца ёю: другі паверх, пакой 208.

Беларускае прадстаўніцтва ў Аўстрыі не стараецца, на жаль, развіваць кантакты дзвюх краін. Яно неяк аднабакова скіравана, працей кажучы, — глядзіць у бок Масквы. Дасюль няма дамовы аб супрацоўніцтве нашых універсітэтаў. У будучым, спадзяюся, кантакты пашырацца.

**— Па ўсім бачна, што вы, пан Герман, асабістымі намаганнямі закладваеце падмурак будучага супрацоўніцтва Беларусі і Аўстрыі. Далейшых вам поспехаў на ніве беларусістыкі!**

**Гутарыла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Пошта*

# КАБ ДЗЕЦІ НЕ ПАЙШЛІ З ТОРБАМІ...

Паважаны «ЛіМ»! Я праз ваша выданне хацела б звярнуцца з адкрытым лістом да Прэзідэнта Беларусі. Боязна пісаць Прэзідэнту, бо я звычайная жанчына, аніякай уладай не надзеленая. Але страх за дзяцей, сваіх і чужых, жаль да састарэлых бацькоў, любоў да зямелькі сваёй — большыя. Вымушана пісаць адкрытым тэкстам, бо той ліст, што паслалі мы, жыхары «забранага дома» з подпісамі няшчасных яго насельнікаў да Прэзідэнта, ці дойдзе па прызначэнні.

Мы жывём у Дзяржынску па вул. Пратасава, д. 9, корп. 2. Гэты дом лічыцца службовым памяшканнем БУ-42. Нашы мужчыны і жанчыны пабудавалі яго ўласнымі рукамі ў 1991 годзе. Нічога зайздроснага: на ўсе 5 паверхаў — толькі 4 малюсенькія двухпакаёўкі — астатнія аднапакаёвыя клеткі. Але начальства й на гэткае дабро паквапілася, хоць само ўсё мае палацы ў параўнанні з нашымі шпакоўнямі. Мы былі б рады выкупіць і такое жыллё, каб адчуваць сябе гаспадарамі ў сваёй хаце, а не паднявольнымі, якімі з'яўляемся зараз. Але мы не маем такога права, бо жывём у службовым памяшканні. Праўда, начальнік БУ-42 Камушэнка П. Н. кажа, што можам выкупляць, і называе неймаверныя сумы. Наша ж будаўнічая арганізацыя вельмі кволая, таго й глядзі, што разваліцца. А мы прывязаны на кароткі ланцуг да гэтага тапельца. Натуральна, хто хоча жыць і ў каго ёсць для гэтага памкнення сілы — тыя рвуць ланцуг і бягуць упрочкі. Смельчакам прысылаюць паперкі, дзе пагражаюць высяленнем, судом. Сам начальнік з'яўляецца ў кватэры, сварыцца, пагражае абрэзаць электрычнасць, зневажае чалавечую годнасць гаспадара. І гэта яшчэ добра, калі ў хаце ёсць мужчына, здольны абараніць сям'ю. А калі яго няма? Тут надзвычай шырокае поле дзейнасці Лігі правоў чалавека (здаецца, так называецца гэтая арганізацыя). Я звяртаюся да сп. Я. Новікава. Узніміце, калі ласка, гэтае пытанне на сесіі Вярхоўнага Савета. Меней як два гады таму адбывалася ганебная гісторыя з квартплатай, калі за нашыя куткі (цяжка назваць іх кватэрамі) паднялі плату нашмат вышэй платы за сапраўдную дзяржаўную кватэру. Я тады не працавала, даглядала маленькага сына. Апроч яго, у мяне яшчэ двое большых дзяцей. Не вытрывала, схадзіла ў начальніцкі кабінет за «хлебам». Малады мужчына, надзелены дзяржаўнай пасадай, нецэнзурна абразіў мяне ў прысутнасці яшчэ адной жанчыны — старшыні прафкама!

Тады мы паслалі ліст у «Народную газету» і адбілі навалу, хоць і не адразу. Недзе праз паўгода зменшылася плата для рабочых БУ-42, і яшчэ праз паўгода — для непрацуючых у БУ-42. Тады ўмяшаўся раённы пракурор сп. Сасім. А цяпер вось мы просім Вашага заступніцтва, Аляксандр Рыгоравіч. Большасць людзей з нашага дома галасавала за Вас, у надзеі збавіцца ад ярма мястачковых начальнікаў. На маё жаночае разуменне, гэтую форму прыгонніцтва — службовае жыллё — трэба найхутчэй адмяніць. Скіньце цяжкія кайданы з людзей, дайце ім магчымасць працаваць на сябе і сваіх дзяцей — яны ж Вам горы звернуць! Трэба смялей праводзіць рэформы і ў сельскай гаспадарцы. Вядома, не мне даваць парады Прэзідэнту, я простая жанчына, але я вымушана гэта рабіць, каб мае дзеці не пайшлі з торбамі па сваёй зямлі, каб не ехалі ў свет шукаць шчасця й долі. Бо што ж атрымліваецца: пабудавалі мы дом самі сабе — нас з яго выганяюць. Змалку я працавала на зямлі, дапамагала бацькам урабляць яе. І дзяды й прадзеды мае тут жылі... І раптам кажуць, што бацькаўшчына не мая. Акурат так сказалі нам у сельсавеце, куды мы з бацькам звярнуліся наконт прыватызацыі зямлі: «Наши решения — это пустые бумажки, нет Государственного акта о приватизации земли». Значыць, Вам, Аляксандр Рыгоравіч, трэба выдаць такі акт, калі Вы, вядома, не жадаеце бачыць жабракамі Вашых суайчыннікаў. Бо павінна грамадскасць абапірацца на дзяржаўныя законы, якія будуць ахоўваць гонар, дабрабыт і маёмасць грамадзян сваёй дзяржавы. Будуць вольныя людзі — будзе й дзяржава наша вольная. Цяпер жа мы поўнасцю залежым ад свавольства мястачковых чыноўнікаў. Тыя абіраюць нас, як ліпку. Сустракаю неяк свайго знаёмага. Малады мужчына з вышэйшай адукацыяй, будуе дачу. Хваліцца мне, што ён у падраных шкарпэтках (не пасаромеўся, паказаў іх мне) вязе хабар начальству. Нешта яму не дазваляе закон — то ён заплаціць даніну чыноўніку (а не дзяржаве), і ўсё будзе дазволена. І мне тое раіў зрабіць. А я вось, такая наіўная, пішу Вам.

Мяне турбуе, што не прыняты закон аб альтэрнатыўнай службе ў войску. Падрастаюць у мяне два сыны. Большы хлопчык — дзіўнае па сваёй наіўнасці дзіця, захапляецца кнігамі, музыкай, мовамі. Мой сын і армія ў цяперашнім яе стане — падумаць жахліва...

Поспехаў Вам, спадар Прэзідэнт, бо ўзяліся Вы за надта ж цяжкую працу!

**Ганна СЦЕПУЛЁНАК**

*г. Дзяржынск*

Меркаванне

# АГРАРНАЯ РЭФОРМА: ЧЫЯ ПЕРАВАГА?



У друку час ад часу з'яўляюцца матэрыялы, прысвечаныя правядзенню аграрнай рэформы ў Беларусі. Эканамісты-аграрнікі прапануюць розныя шляхі рэфармавання адносін на вёсцы, каб вывесці сельскую гаспадарку Беларусі з крызіснага стану. Аднак гэтыя прапановы не знаходзяць падтрымкі ў сялян, бо яны альбо занадта радыкальныя, альбо ніякіх істотных змен у сельскай гаспадарцы не прадугледжваюць. Мы прапануем свой падыход да гэтай, адной з самых складаных, праблем пераходу нашага грамадства да рынычнай эканомікі.

Існуючыя канцэпцыі аграрнай рэформы, у тым ліку і нядаўна прапанаваная Акадэміяй аграрных навук Рэспублікі Беларусь («Белорусская нива», 9 чэрвеня 1994 г.), маюць, на наш погляд, агульны недахоп: аднабокі падыход да рэформы аграрнага сектара эканомікі.

Аўтары гэтай канцэпцыі паслядоўна прытрымліваюцца так званай тэорыі «перавагі» буйной формы арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці над дробнай і тэорыі «адмірання» прыватных сялянскіх гаспадарак па меры развіцця калгасна-саўгаснай формы гаспадарання. Гэтыя тэорыі ўзніклі напярэдадні гвалтоўнай калектывізацыі і на падставе іх палажэнняў было зроблена «навуковае» абгрунтаванне неабходнасці калгаснай сістэмы.

Сутнасць тэорыі «перавагі» буйной формы вытворчасці заключаецца ў тым, што, на думку яе прыхільнікаў, на буйных прадпрыемствах больш эфектыўна выкарыстоўваецца тэхніка, зямля, патрабуецца менш машын і г. д, чым у прыватных сялянскіх (фермерскіх) гаспадарках. Аднак буйныя прадпрыемствы маюць і шэраг недахопаў, якія перакрываюць перавагі. Так, з павелічэннем памераў гаспадаркі растуць выдаткі на транспартныя перавозкі, у 2—3 разы скарачаюцца тэрміны выкарыстання тэхнікі, больш як 10 працэнтаў працуючых у калгасе заняты ў апараце кіравання.

Разам з тым трэба нагадаць, што буйная вытворчасць так і не ахапіла поўнасцю сельскую гаспадарку. Побач з калгасамі і саўгасамі існуе ў Беларусі і каля паўтара мільёна прыватных сялянскіх гаспадарак.

Ідэолагі калектывізацыі сельскай гаспадаркі напрыканцы 20-х гадоў з існуючых у той час форм кааперацыі спыніліся на сельскагаспадарчай арцелі, форма арганізацыі якой была прыўнесена ў сельскую гаспадарку з прамысловасці, дзе яна, дарэчы, не была эфектыўнай. Гэта была найбольш падыходзячая форма для адміністрацыйнага ўціску і эксплуатацыі сялян з боку партыйна-дзяржаўнага бюракратычнага апарату.

Гэтая форма калектыўнага гаспадарання ахапіла толькі частку сельскагаспадарчай вытворчасці. На вёсцы падчас гвалтоўнай калектывізацыі разам з калектыўнымі гаспадаркамі ўтварыліся і некааперыраваныя дробныя прыватныя гаспадаркі калгаснікаў з прымітыўнымі сродкамі вытворчасці. Калгасна-саўгасная форма гаспадарання за ўвесь час свайго існавання здолела дасягнуць толькі каля 2/3 аб'ёму сельгасвытворчасці, а больш 1/3 так і засталася дробнай, некааперыраванай, ручной.

Тым самым практыка паказала, што калектывізацыя не вырашыла праблем кааперацыі і механізацыі сельскай гаспадаркі, заставалася вельмі высокай доля ручной працы.

Аграрная палітыка КПСС з часоў завяршэння калектывізацыі грунтавалася менавіта на тэорыях «перавагі» буйной формы таварнай вытворчасці і «адміранне» прыватных гаспадарак сялян. На развіццё калгасаў і саўгасаў выдзяляліся значныя матэрыяльныя і фінансавыя сродкі. Што ж датычыць асабістых падсобных гаспадарак, то ў кожны зручны момант рабіліся спробы іх знішчыць (напрыклад, падчас абвяшчэння ў 1961 годзе праграмы будаўніцтва камунізму). Але ўведзеныя тады абмежаванні на памер асабістых гаспадарак сялян выклікалі значны спад у сельгасвытворчасці, прывялі горад і вёску ў стан павышанай сацыяльна-палітычнай напружанасці, а ідэолагаў і выканаўцаў такога спосабу «будаўніцтва камунізму» ў вёсцы — да палітычнага банкруцтва.

Калі ж прааналізаваць аграрную палітыку заходнееўрапейскіх краін у апошнія сем дзесяцігоддзяў, то яна ўвесь гэты час грунтавалася на тэорыях кааперацыі і ўстойлівасці сялянскіх, а затым і фермерскіх гаспадарак.

У сучасны перыяд вызначыліся два крайнія падыходы, дзве канцэпцыі да правядзення аграрнай рэформы. Сутнасць першага падыходу заключаецца ў недапушчэнні прыватызацыі зямлі і іншых сродкаў вытворчасці, каб тым самым захаваць існуючыя калгасы і саўгасы, надаўшы ім больш гаспадарчай самастойнасці.

Гэтая канцэпцыя грунтуецца на ідэі далейшага развіцця буйных таварных форм гаспадарання шляхам касметычнага рэфармавання калгасаў і саўгасаў, накшталт такіх, што неаднаразова праводзіліся падчас панавання КПСС. Па-за ўвагай аўтараў гэтых канцэпцый застаюцца дробнапрыватныя гаспадаркі сялян-калгаснікаў, лёс якіх застаецца нявызначаным. Гэта не задавальняе вяскоўцаў, і яны скептычна адносяцца да такой «шыльдавай» рэформы.

Увогуле, яна грунтуецца на тэорыі «перавагі» буйной таварнай вытворчасці, увасабленне якой аўтары гэтай канцэпцыі бачаць толькі ў існуючых калгасах і саўгасах. Аднак жа зразумела, што з малаэфектыўнымі і стратнымі калгасамі і саўгасамі нельга ў рыначных умовах на роўных канкурыраваць на сусветным рынку сельгаспрадуктаў з таннай і высакаякаснай прадукцыяй кааперыраваных фермерскіх гаспадарак краін Еўрапейскага Саюза.

Палітычнымі прыхільнікамі такога шляху «правядзення» аграрнай рэформы з'яўляюцца: Партыя камуністаў Беларусі, Аграрная партыя Беларусі, Сацыялістычная партыя Беларусі і іншыя партыі з камуністычнай ідэалогіяй.

Другая канцэпцыя аграрнай рэформы грунтуецца на ідэі поўнай лібералізацыі вытворчых адносін на вёсцы. Пры гэтым прапануецца распусціць калгасы і саўгасы, частку зямлі (прыкладна 1/3) аддаць сялянам, а астатнюю прадаць з аўкцыёнаў.

Гэтую канцэпцыю падтрымліваюць некаторыя радыкальныя партыі і рухі.

Мы лічым, што ажыццяўленне рэформы на падставе гэтых канцэпцый цяжка адаб'ецца на становішчы сялян і ў цэлым сельскай гаспадаркі. На наш погляд, значна павысіць эфектыўнасць усёй сельскагаспадарчай вытворчасці магчыма толькі шляхам паступовай і добраахвотнай кааперацыі і інтэграцыі існуючых АПГ і ствараемых фермерскіх гаспадарак у фермерскія кааператывы, з адначасовай рэарганізацыяй калгасаў і саўгасаў. Як ні парадаксальна гэта гучыць, але наспела вострая неабходнасць аднавіць працэс каапeравання сельскай гаспадаркі. Тут мы трывала стаім на пазіцыі кааперацыі як галоўнага, магістральнага шляху развіцця сельскай гаспадаркі. Каапераванне сельскай гаспадаркі Беларусі павінна ўсё ж такі быць завершана.

Як вядома, аграрная рэформа ідзе з вялікімі цяжкасцямі. Працэс утварэння фермерскіх гаспадарак і трансфармацыя калгасаў і саўгасаў у новыя формы гаспадарання практычна спынены, а прапануемыя новыя формы гаспадарання ў большасці сваёй надуманыя і не адпавядаюць інтарэсам ні сялян, ні ў цэлым грамадства. Разам з тым, праведзеныя сектарам сацыяльнага развіцця БелНДІ эканамічных праблем АПК у 1993 годзе сацыялагічныя даследаванні менталітэту сельскага насельніцтва ва ўмовах пераходу да рынычнай эканомікі паказваюць, што звыш 3/4 колькасці калгаснікаў і рабочых саўгасаў не толькі выказаліся за рэарганізацыю калгасаў і саўгасаў, але і заявілі аб сваім намеры актыўна ўдзельнічаць у гэтай справе.

Вядома, што ў час калектывізацыі сяляне амаль поўнасцю былі пазбаўлены сродкаў вытворчасці, у тым ліку і зямлі, і права мець іх у прыватнай уласнасці. Каб выжыць у калгасе, бальшавікі-камуністы стварылі для іх аддушыну ў выглядзе асабістай падсобнай гаспадаркі і прадаставілі права мець у асабістай уласнасці толькі ручныя прылады працы (вілы, рыдлёўкі, косы, сярпы, граблі, матыгі і г. д.), тым самым паставілі гэтую форму гаспадарання ў вельмі цяжкі стан, спадзеючыся на хуткае адміранне гэтай формы гаспадарання.

Амаль поўнасцю пазбаўлены сродкаў вытворчасці селянін апынуўся ў вельмі цяжкім сацыяльна-эканамічным становішчы. За сваю працу ў калгасе першыя два пакаленні калгаснікаў атрымлівалі «палачкі». Яны жылі ў асноўным за кошт сваіх невялікіх асабістых гаспадарак.

У сацыяльна-псіхалагічным сэнсе селянін стаў разрывацца паміж сваёй асабістай гаспадаркай, дзе ён адчуваў сябе поўным гаспадаром і свабодным чалавекам, і калгасна-саўгаснай, дзе тапталі яго чалавечую годнасць і гаспадарчую ініцыятыву. Дваістасць становішча сялян-калгаснікаў і з'явілася адным з галоўных эканамічных спосабаў іх утрымання ў калгасе, які быў дапоўнены адміністрацыйнай забаронай выхаду з вёскі.

Галоўнай асаблівасцю канцэпцыі аграрнай рэформы, якая прапануецца нашай партыяй з'яўляецца карэнная змена сацыяльна-эканамічнага становішча сялян-калгаснікаў і пераадоленне іх дваістасці на падставе адначасовага рэфарміравання як калектыўных і дзяржаўных гаспадарак (калгасаў і саўгасаў), так і дробнапрыватных (асабістых падсобных гаспадарак грамадзян). З трох існуючых цяпер на вёсцы форм гаспадарання — калектыўнай, дзяржаўнай і дробнапрыватнай — утворыцца кааператыўная форма гаспадарання — кааператыў прыватных фермерскіх гаспадарак. У выніку сяляне атрымаюць назад у сваю ўласнасць гвалтоўна адабраную ў іх зямлю, сучасныя сродкі вытворчасці, права свабодна распараджацца сваёй працай і яе прадуктамі.

Асабістыя падсобныя гаспадаркі (АПГ), як асобая форма гаспадарання на зямлі, узніклі падчас гвалтоўнай калектывізацыі, як вымушаны кампраміс улад з сялянамі, якія не пагадзіліся, нават пад страхам поўнага знішчэння, стаць бяспраўнымі рабамі. Без гэтага кампрамісу сяляне збеглі б у горад і зямля цалкам засталася б без гаспадара. Захаванне ва ўласнасці сялян некаторых сродкаў вытворчасці, у тым ліку і невялікага кавалка зямлі, даваў ім надзею на недаўгавечнасць калгасаў.

Каб працэс рэфармавання пайшоў паспяхова, напачатку неабходна змяніць прававы статус АПГ грамадзян, надаўшы ім статус малых фермерскіх гаспадарак (МФГ) без рэгістрацыі іх юрыдычнай асобы, але з правам яе набываць па жаданні грамадзяніна-фермера. АПГ трэба прызнаць, як форму гаспадарання на зямлі. Тут мы зыходзім з таго, што лічым навукова неабгрунтаванай тэорыяй «адмірання» асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, як перажытка мінулага. АПГ гэта не перажытак мінулага, а адно з наступстваў калектывізацыі, і развіваліся яны разам з калгасамі і саўгасамі.

Прыхільнікі тэорыі «адмірання» да нядаўняга часу рознымі спосабамі імкнуліся прынізіць ролю асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, абмежаваць іх памер, а затым і знішчыць. Такая палітыка ў дачыненні да АПГ не магла доўжыцца бясконца, бо яна вяла да пралетарызацыі сялян, ператварэння іх у наёмных рабочых, да разарэння вёскі, да разбурэння сялянскага ўкладу жыцця і, як вынік такой палітыкі, да банкруцтва саміх калгасаў і саўгасаў.

Пасля разарэння сваёй асабістай гаспадаркі селянін, фактычна, ужо больш нічым не быў бы звязаны з вёскай і яму нічога не заставалася б рабіць, як збегчы ў горад, дзе сацыяльна-эканамічнае становішча гарадскіх пралетарыяў было ў некалькі разоў лепшым, чым вясковага ў калгасе ці саўгасе.

Сяляне ўсімі магчымымі спосабамі супраціўляліся такой палітыцы і імкнуліся ўмацаваць свае АПГ і ў першую чаргу за кошт калгасна-саўгаснай маёмасці.

Па нашым меркаванні, лёс АПГ павінен быць іншым. Яны паступова ўвойдуць састаўной часткай у кааператывы фермераў з усімі правамі члена кааператыву. Каб надаць ім большую ўстойлівасць, мы прапануем павялічыць памер зямельных участкаў, якія прадастаўляюцца грамадзянам для вядзення АПГ, а ў будучым і МФГ, для працуючых членаў калгасаў, рабочых і служачых саўгасаў да 3 гектараў, а тым, хто пражывае ў вёсках з колькасцю жыхароў менш як 100 чалавек — да 5 га.

АДНАЧАСОВА з рэфармаваннем асабістых падсобных гаспадарак грамадзян прапануецца карэнным чынам рэфармаваць і дзве існуючыя асноўныя формы гаспадарання на зямлі: калгасы і саўгасы. Галоўная мэта іх рэарганізацыі заключаецца ў тым, каб вярнуць сялянам свабоду, а зямлі — гаспадара.

Калгасы і саўгасы неабходна разглядаць як шматпрофільныя гаспадаркі, якія побач з сельскагаспадарчай вытворчасцю займаюцца аграсервісным абслугоўваннем сельскагаспадарчых галін, перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі, яе транспарціроўкай і рэалізацыяй, развіццём сацыяльнай сферы вёскі.

Аграрная рэформа, па нашым меркаванні, павінна закрануць не толькі гаспадарчы, а і сацыяльна-палітычны бок жыцця калгаснай вёскі.

Рэфармаванне гаспадарчых адносін неабходна ажыццявіць па прынцыпе раздзялення калгасаў і саўгасаў на ўласна сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і на аграсервісныя, перапрацоўчыя, збытавыя і г. д.

Тут магчымы розныя падыходы. Але пачынаць трэба з павелічэння правоў калгаснікаў і рабочых саўгасаў. Тут маецца на ўвазе даць права калгаснікам утвараць прыватныя фермерскія гаспадаркі сярэдняга памеру (ад 5 да 50 га) за кошт свайго маёмаснага і зямельнага паёў, не прыпыняючы членства ў калгасе або ў саўгасе. Паступова ўся зямля будзе перададзена сялянам і селянін-калгаснік ужо будзе апрацоўваць калгаснай тэхнікай не калгасную зямлю, а сялянскую. У гэтым выпадку калгас набудзе рысы ТОЗа (таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі), на базе якога, па меры набыцця сялянамі трактароў і другіх сельскагаспадарчых машын, будуць утварацца самастойныя арграсервісныя прадпрыемствы па абслугоўванні фермерскіх гаспадарак. Прадастаўленне калгаснікам такіх правоў будзе садзейнічаць працэсу фермерызацыі вёскі, паралельна з якім будзе ісці працэс кааперавання фермерскіх гаспадарак.

Паступова, шляхам стварэння фермерскіх гаспадарак сярэдняга памеру і пашырэння памераў асабістых гаспадарак грамадзян (малых фермерскіх гаспадарак) да 3—5 гектараў, уся зямля набудзе свайго гаспадара. Адначасова сярэднія і малыя фермерскія гаспадаркі будуць каапераваны. Пераход зямлі ва ўласнасць сялян будзе азначаць завяршэнне аграрнай рэформы без гвалту і прымусу ў інтарэсах вяскоўцаў і ўсяго грамадства.

За час існавання калгасна-саўгаснага ладу ў сельскай гаспадарцы былі пабудаваны буйныя тэхнічныя аб'екты а ў некаторых гаспадарках створана сацыяльная інфраструктура. Гэта механічныя майстэрні, гаражы, нафтабазы, зернеачышчальная гаспадарка, буйныя жывёлагадоўчыя фермы і комплексы, перапрацоўчыя прадпрыемствы і прадпрыемствы дапаможных вытворчасцяў, аб'екты сацыяльна-культурнага і бытавога прызначэння і г. д. Пры рэарганізацыі калгасаў і саўгасаў на іх базе ўтвараюцца юрыдычна самастойныя прадпрыемствы (кааператывы, карпарацыі і г. д.), якія б абслугоўвалі фермерскія гаспадаркі і былі б эканамічна і тэхналагічна цесна звязаны з фермерскім кааператывам. На гэтых прадпрыемствах маглі б працаваць па найме як фермеры, тым самым павялічваючы сваю занятасць у міжсезонны перыяд, так і вяскоўцы, якія не маюць асабістых прысядзібных гаспадарак.

Адначасова з гэтым рэфармаванню падлягаюць і буйныя прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны: малаказаводы, мясакамбінаты, агароднінакансервавыя заводы, крахмала-патачныя і г. д., а таксама раённыя аграсервісныя прадпрыемствы, якія размешчаны ў гарадах. Іх неабходна акцыяніраваць. Асноўнымі трымальнікамі акцый гэтых таварыстваў павінны стаць кааператывы фермераў, якія будуць пастаўляць сюды сыравіну для перапрацоўкі.

(Працяг на стар. 12)

## ГЭТА БЫЛО Ў ДУБУЛТАХ



Сярод носьбітаў беларускай культурнай духоўнасці ў даваеннай Латвіі быў мастак, педагог Міхась Калінін (1905—1975). Яго спадчына, грамадская дзейнасць чакае сваёй ацэнкі. Але аб нечаканым праменьчыку з гэтага радавода варта згадаць. У маім архіве знайшоўся малюнак з натуры ад 7.12.1976 года. Такі імгненны партрэт Уладзіміра Караткевіча зрабіла ў Доме творчасці ў Дубултах дачка Калініна — Святлана Міхайлаўна. Дарэчы, яна перадала ў Скарынаўскі цэнтр у Мінску некалькі акварэльных работ свайго бацькі. Астатнія застаюцца ў Рызе, яшчэ не запатрабаваныя Часам.

Сяргей ПАНІЗНІК

## БУДУЦЬ АЎТОГРАФЫ СЯБРАМ

Сорак пяць год працаваў у вытворчым аб'яднанні «Гомсельмаш» Міхаіл Буткевіч. Шаснаццацігадовым хлапчуком прыйшоў ён на завод, быў слесарам, кантрольным майстрам, начальнікам экспартнага бюро, а апошні час — начальнікам бюро тэхнічнага кантролю. І пісаў вершы, якія, дарэчы, не імкнуўся надрукаваць у салідных выданнях. Пісаў для камбайнабудаўнікоў, і яго трыбунай была шматтыражка «Сельмашавец». Але беражліва захоўвае Міхаіл Антонавіч і тыя нумары часопісаў і газет, дзе рэдка, але ўсё ж з'яўляліся яго падборкі: «Нёман», «Маладосць», «Советские профсоюзы», «ЛіМ», «Знамя юности», «Гомельскую праўду».

Яшчэ ў 1957 годзе заводскі паэт быў удзельнікам Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Маскве, куды трапіў як пераможца літаратурнага конкурсу. На працягу шэрагу гадоў М. Буткевіч кіраваў літаратурным аб'яднаннем «Крыніца» пры шматтыражцы.

А нядаўна ў жыцці Міхаіла Антонавіча адбылася радасная падзея — ён трымаў у руках сваю першую кнігу вершаў «Навікоўскі гай». Пабачыла свет яна не ў дзяржаўным выдавецтве, а на родным «Гомсельмашы», у аддзеле тэхнічнай дакументацыі, дзе сёння ёсць усё неабходнае, каб надрукаваць мастацкую кнігу на высокім узроўні. Адна акалічнасць — яна — бясплатная, і будзе прэзентавацца гасцям аб'яднання, каб тыя мелі ўяўленне не толькі аб тэхніцы, што вырабляецца, і аб заводскіх талентах.

250 асобнікаў — з 1000 — забраў для сябе аўтар. Будуць цяпер доўгачаканыя аўтографы сваім сябрам. А іх у заводскага паэта шмат — і па працы, і па творчасці.

Кнігу «Навікоўскі гай» склалі раздзелы «Балада пра «Гомсельмаш», «Лірыка», «Паэзія працы», «З песні не выкінеш...», «На раздарожжы», «Іронія, сатыра, шаржы», «Чатырохрадкоўі», «Маім крытыкам», што сведчыць аб усебаковым таленце паэта.

Прадмову да «Навікоўскага гаю» напісалі паэт Браніслаў Спрынчан і празаік Васіль Ткачоў, былыя сельмашаўцы. Яны далі высокую адзнаку творам заводскага паэта.

В. БАРХАНАЎ

Крытыка

# «І НЯМА НІЧОГА ВЫШЭЙШАГА...»

## «НА ІМПЕРЫЯЛІСТЫЧНАЙ ВАЙНЕ» М. ГАРЭЦКАГА Ў КАНТЭКСЦЕ ЗАХОДНЕЕЎРАПЕЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Неад'емнай і вызначальнай часткай жыццёвага вопыту шмат якіх пісьменнікаў XX ст. стаў іх асабісты ўдзел у першай сусветнай вайне. Глыбока ўзрушаныя бязмежнай жорсткасцю франтавой рэчаіснасці, яны не маглі не адлюстраваць яе ў сваёй творчасці. Зусім заканамерным быў зварот да ваеннай тэмы і Максіма Гарэцкага. Больш таго, яго цікавіла спецыфіка менавіта мастакоўскага адчування вайны. Так, у артыкуле «Беларуская літаратура пасля «Нашае Нівы» (Агульны агляд)» (1928) Гарэцкі пісаў: «Дагэтуль не даследавана пытанне, як беларускія паэты і пісьменнікі прынялі імперыялістычную вайну. А ў сувязі з гэтым пытаннем цікава б было прасачыць у сусветнай гісторыі літаратуры, як, наогул, уплывае на літаратурную творчасць вайна, рэвалюцыя і ўсякая вялікая катастрофа ў жыцці людзей. Каб толькі збольшага ўзяць усе лепш вядомыя прыклады ад Дантэ і да нашых дзён, дык можна сказаць, што творчасць пісьменніка ў часе катастрофы залежыць ад таго, як яго індывідуальнасць успрымае катастрофу, і ад таго, у якой меры катастрофа зачапіла яго асабістае, класавае і нацыянальнае жыццё».

Сам Гарэцкі лічыў час, праведзены на вайне, змарнаваным. Аб'ектыўна ж вынікам франтавых перажыванняў з'явіліся такія яго творы, як дакументальна-мастацкая кніга «На імперыялістычнай вайне» (1926), аповесць «За што?» (1917—1918), апавяданні «Літоўскі хутарок» (1915), «Генерал», «На этапе», «Хадзяка» (усе — 1916) і інш.

Кнігу «На імперыялістычнай вайне» даследчыкі даўно вылучылі з усіх твораў Гарэцкага. Адразу пасля выхаду ў свет асобным выданнем яна была пастаўлена ў адзін шэраг з лепшымі на той час творамі заходнееўрапейскіх раманістаў аб першай сусветнай вайне — такімі, як «Агонь» А. Барбюса, «Чалавек добры» Л. Франка. Той жа думкі прытрымліваюцца сучасныя літаратуразнаўцы і пісьменнікі. Так, А. Адамовіч, гаворачы, што ўся літаратура аб першай сусветнай вайне вучылася ў Л. Талстога, побач з імёнамі А. Барбюса, А. Цвейга, Р. Олдынгтана, Э. М. Рэмарка, Э. Хемінгуэя і іншых называе і імя М. Гарэцкага.

На жаль, далей канстатацыі таго факта, што «На імперыялістычнай вайне» адпавядае ўзроўню вядомых усяму свету твораў, беларускае літаратуразнаўства амаль не пайшло. Ці не выключэннем з'яўляецца артыкул М. Тычыны «На фоне «агульнаеўрапейскага прагрэсу», у якім праводзяцца асобныя паралелі паміж кнігай Гарэцкага і літаратурай «страчанага пакалення». Між тым гэтая кніга (як і творчасць Гарэцкага ў цэлым) даўно вымагае ўсебаковага аналізу ў сусветным кантэксце, разгляду ў тыпалагічным аспекце. Зразумела, не прэтэндуючы на паўнату даследавання пытання, паспрабуем паказаць супольнасць праблем і іх мастацка-вобразных рашэнняў у творах Гарэцкага і замежных пісьменнікаў аб першай сусветнай вайне.

Як вядома, на Захадзе і ў ЗША тая вайна выклікала вялікую літаратуру, разнастайную і па тэматыцы, і па паэтыцы. З пункту гледжання тэматыкі, з аднаго боку, шырокую вядомасць атрымала так званая літаратура «страчанага пакалення», прадстаўленая імёнамі Э. Хемінгуэя, Дж. Дос Пасаса, У. Фолкнера, Р. Олдынгтана, Э. М. Рэмарка і іншых; з другога боку, прычым значна раней, з'явіліся творы, сутнасць якіх не зводзілася да паказу глыбокага расчаравання і страты ідэалаў героямі (ды і аўтарамі), да бязмежна трагічнага ўспрымання падзей. Гэтая плынь прадстаўлена ў першую чаргу раманамі «Агонь», «Яснасць», аповесцямі і апавяданнямі французскага пісьменніка Анры Барбюса.

Да якой з гэтых плыняў увогуле і да якіх канкрэтна творцаў бліжэй Гарэцкі, адназначна адказаць, на наш погляд, даволі складана. У гэтым сэнсе зусім справядлівае меркаванне наконт адметнасці кнігі Гарэцкага на фоне заходнееўрапейскай антываеннай прозы выказаў Б. Сачанка: «Я чытаў гэтую аповесць пасля знаёмства, і даволі грунтоўнага, з такімі сусветна вядомымі творамі пра імперыялістычную бойню, як «На заходнім фронце без змен» Э. М. Рэмарка, «У агні» А. Барбюса, «Дабердоб» П. Воранца, «Жыццё пакутнікаў» Ж. Дзюамеля. М. Гарэцкі не толькі нідзе не паўтараецца... наадварот, адкрывае ўсё новае і новае, чаго ніхто да яго не ведаў і не бачыў, а калі і ведаў, бачыў, то не паказваў».

Вядома, у чымсьці істотным «На імперыялістычнай вайне» пераклікаецца і з літаратурай «страчанага пакалення». Вось толькі два прыклады. У Гарэцкага чытаем: «Што было ўчора? Я жыў, але ранейшага мяне навекі няма». Рэмарк, пачынаючы раман «На заходнім фронце без перамен», папярэджвае чытача, што яго кніга — «гэта толькі спроба расказаць пра пакаленне, якое загубіла вайна, пра тых, хто стаў яе ахвярай, нават калі ўратаваўся ад снарадаў». У Олдынгтана: «...страта дваццатага стагоддзя велізарная: само Юнацтва». Гэта з «Пралога» да «джазавага рамана» «Смерць героя». Той жа матыў гучыць у «Эпілогу»:

**Я зірнуў на запалыя шчокі,**
**На вочы, што глядзелі стамлёна,**
**і сівыя скроні**
**Старых, якія мяне акружалі, —**
**ім было каля сарака...**

Дарэчы, гэтыя радкі дзіўным чынам нагадваюць месца з кнігі Гарэцкага, дзе ён з горкай іроніяй цытуе (адвольна) англійскага паэта Т. Мура: «И сколько, сколько их в борьбе за край родной, удалых, молодых...».

І ўсё ж найбольш плённым уяўляецца аналіз кнігі «На імперыялістычнай вайне» ў супастаўленні з «Агнём» Барбюса. Падaбен-

# ВЫШЭЙ НОС, АЎЦЮКОЎЦЫ!

Цікава атрымалася: пра тое, што пісьменнік Уладзімір Ліпскі нанізвае аўцюкоўскія анекдоты, бы кавалачкі мяса на востры шампур, я даведаўся з газетных радкоў (анансіравалася гэта, заўважу, даволі сціпла), і адначасова недзе ў той самы час упершыню сам пазнаёміўся з аўцюкоўкай, цяпер гамяльчанкай. Лёс звёў нас на вясельнай бяседзе. Ну і сыпала ж маладзічка тая жартамі! «Нашы. Аўцюкоўскія. Слухайце!» Тады я шчыра пазайздросціў У. Ліпскаму: падабраў удала пад носам у іншых торбу з аўцюкоўскімі анекдотамі, малайчына — не праспаў, паказаў і тут сваю актыўнасць і пісьменніцка-публіцыстычны спрыт. На той час падумалася і наступнае: даўно пара было знайсці гэтых аўцюкоўцаў — можа, і не на Гомельшчыне, можа, пад Бярэсцем альбо Магілёвам, да прыкладу, аднак што ні робіцца, усё робіцца да лепшага...

Патрэбны назіральнасць і цікавасць да людзей, каб адшукаць кладоўкі скарбаў народных і рэанімаваць, ажывіць трапны жарт, прыгожым, акуратненькім, а не шырспажывецкім брыкецікам пакласці яго на стол: паспытайце, як смачна! Аўцюкоўцы — не брыдкасловы нейкія, яны — звычайныя сціплыя і шчырыя людзі, цалкам ад зямлі, з мазалямі на далонях. І ўсе разам яны яшчэ — і дзівакі, і хітруны, і разумнікі. Што хочаш пра іх кажы, а прачытаецца адно: таленавіты народ усё ж мы, беларусы!

Вялікія і Малыя Аўцюкі (сапраўдныя геаграфічныя назвы) — гэта наша Габрава. «Аўцюкоўцы» — аповесць пра Калінак ды Каласкоў, якія гаруюць і жартуюць» — такі жанр прычапіў на чало сваёй працы У. Ліпскі (часопіс «Полымя», N 5, асобныя старонкі надрукаваны ў трох чэрвеньскіх нумарах газеты «Рэспубліка»), і цяпер тую торбу жартаў можа патрымаць кожны жадаючы. Дык, значыць, аповесць? Можа, так яно і правільна, бо стрыжань — дасціпны гумар, ён тут галоўны герой, кум, брат і сват — даволі моцны, трывалы, надзейны.

«Смех не арэх — зуб не лупіць, — піша Уладзімір Ліпскі. — Пасмяяцца — не пакалечыць. Смех, аднак, можа да плачу давесці. Бывае смех скрозь слёзы. Смяецца той, каму няймецца, а каму баліць, той за гарачы камень бярэцца.

Вось і я ездзіў да аўцюкоўцаў з вялікім мехам для смеху. Сабраў туды не толькі дасціпныя жарты, а багата людскіх слёз, даўкіх і гарачых, ды яшчэ тое-сёе, што колецца, баліць і не дае спакою.

Аддаю на ваш суд, спагадлівыя чытачы, сабраны скарб. А вы ўжо самі рашайце — плакаць вам ці смяяцца? Ды яшчэ падумайце: чым нашы аўцюкоўцы горшыя за балгарскіх габраўцаў?

Ведаю адно: лепш жартаваць, чым гараваць. Пажыві чалавекам, а сабакам быць паспееш. Давайма, людзі, жыць весела і дружна, з міласцю і любасцю адзін да аднаго».

Давайма! А ў гэтым выпадку якая нам, чытачам, розніца, аповесць перад намі ці проста россып анекдотаў (толькі не блытаць з тымі анекдотамі, ад якіх ужо кругам галава — пісаных-перапісаных, казаных-пераказаных, калі, да прыкладу, палюбоўнік у шафу хаваецца ад мужа і г. д.). Галоўнае — ёсць чытэльны твор, а ў ім нацыянальны характар (памяркоўны, дасціпны), ёсць добрыя і шчырыя людзі (і жыта вырошчваюць, і слоўцам трапным напомняць пра сябе), ёсць — ў рэшце рэшт! — вёска, дакладней — дзве, як мы ўжо ведаем, са сваімі непадобнымі тварамі.

Вялікія і Малыя Аўцюкі блізка ад Калінкавіч, крышачку далей ад Гомеля, далекавата ад сталіцы і зусім блізка ад усіх нас, беларусаў. І той, хто прачытае аповесць у анекдотах (можа, так і сапраўды трэба было вызначыць жанр?), запомніць Аўцюкі, як свае Залессі, Кругліцы, Гуты, Хатоўні, Стараселлі... І зусім іншымі вачыма паглядзіць на сваіх землякоў: пачакай, а яны, выпадкова, не аўцюкоўцы? І адкрые нешта сваё ў земляках. Абавязкова. А пазней не адзін раз добрым словам і з усмешкай на твары ўспомніць іх: хораша табе, калі іншым добра — значыць, не ўсё зашмальцавана-згублена ў жыцці...

Аповесць «Аўцюкоўцы» — якраз той твор, які, прачытаўшы адзін раз, далёка не адкладваеш, таму і замурзаны крышачку майскі нумар «Полымя», што, вядома, надае яму гонару. Едзеш на дачу — часопіс у дыпламат, прабяжыш зноў вачмі па знаёмых старонках. Сусед папросіць што-небудзь прачытаць — яму прапануеш. Няхай і ён усміхнецца, бедалага, няхай уведае, што нешта яшчэ засталося ў нашага брата-беларуса, не ўсё абтрэслі з сябе і не ўсё здалі ў сучасныя нядоімкі і подаці.

У аўцюкоўскіх анекдотах — подых мінулых часоў, калі пан гаспадарыў, першыя гады новага ладу, лютыя дні боек з ворагамі, асэнсаванне апошніх год жыцця. Яны, анекдоты, — жывая гісторыя дзвюх вёсак, своеасаблівы летапіс, толькі напісаны ён не канцылярскім словам, груваcтым і непаваротлівым, а лёгкім — народнадасціпным, старанна адабраным і агледжаным. Можна прачытаць пузаты раман, які будзе ахопліваць той самы час, які

*Уладзімір Ліпскі. Аўцюкоўцы. Аповесць. «Полымя», N 5, 1994.*

ства твораў не можа не ўражваць. У абодвух расповяд вядзецца ад першай асобы, гэта своеасаблівыя споведзі. «Агонь» мае форму дзённіка, Барбюс дэкларуе гэта ў падзагалоўку «Дзённік узвода». Гарэцкі дае сваёй кнізе падзагаловак «Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы», але большая частка «Запісак» вызначана аўтарам таксама як «Дзённік». Паказальна, што першапачаткова Барбюс меў намер даць свайму раману падзагаловак менавіта «Нататкі франтавіка».

Вялікае значэнне мае і час напісання твораў: ён амаль адзін і той жа. «Агонь», як вядома, выйшаў у 1916 г. Праўда, Гарэцкі надрукаваў сваю аповесць асобным выданнем на дзесяцігоддзе пазней, але працаваў над ёю, згодна з яго «Храналогіяй маіх твораў», у асноўным у 1914—1919 гг. Што датычыцца літаратуры «страчанага пакалення», то яна пачынае выходзіць з сярэдзіны 20-х гг.

І «Агонь», і «На імперыялістычнай вайне» — кнігі, заснаваныя на біяграфічных фактах, дакументальныя як у вузкім, так і ў шырокім сэнсе слова. Дакументальнасць «Агню» падкрэсліваў сам Барбюс. Аб фактычнай аснове твора сведчаць франтавыя запісы Барбюса, апублікаваныя ў 1956 г. французскім пісьменнікам П'ерам Парафам, а таксама запісныя кніжкі аўтара, яго лісты да жонкі.

У Гарэцкага чытаем: «Тэрмін службы для вальнапісаных пачынаўся ў рускім войску 1 ліпеня. Дык у самым канцы чэрвеня 1914 года ехаў я ў бязлюдным вагоне трэцяга класа па знямелых ад пякоты і пылу і такіх убогіх жмудскіх палях у N-скую артылерыйскую брыгаду, што кватаравала ў глухім і невядомым мястэчку недалёчка ад нямецкае граніцы...». У сэнсе дакументальнасці гэтых і падобных да іх радкоў нельга не пагадзіцца з А. Адамовічам, які зазначыў: «І можаце быць упэўнены, што так і было ўсё, так і пачыналася ў самога Гарэцкага», і падкрэсліў далей, што «факт, рэальная падзея, дакладная фраза, лік, дата — усё гэта запісвалася М. Гарэцкім так, быццам загадзя адчуваў пісьменнік эстэтычную радасць ад факта, які паступова стане гісторыяй і, адфактураны часам, набудзе раптам эстэтычнае гучанне».

У абодвух выпадках дакументальнасць суправаджаецца, як бачым, аўтабіяграфічнасцю. Але якраз у сэнсе апошняга мае месца істотная розніца, якая не магла не адбіцца калі не на агульным пафасе твораў, дык на асобных інтэрпрэтацыях падзей. Герой Барбюса (як і сам аўтар) пайшоў у армію добраахвотнікам (тое ж, дарэчы, можна сказаць пра Хемінгуэя, Рэмарка і, адпаведна, іх персанажаў), калі вайна пачалася ўжо, і фронт стаў для яго літаральна школай прасвятлення, разумення неабходнасці барацьбы з мілітарызмам. Што датычыцца героя Гарэцкага (зноў жа, як і самога аўтара), то ён апынуўся ў арміі яшчэ да пачатку вайны, у якасці вальнапісанага, каб на год скараціць тэрмін службы.

Характэрнай уяўляецца першая рэакцыя Лявона Задумы на вестку аб пачатку вайны. Яго ўсцешвае, што цяпер «жыццё пойдзе ўжо цікавейшае». Можа здацца, што гэткая рэакцыя блізкая да ўспрымання падзей барбюсаўскім персанажам на пачатку яго знаходжання ў акопах. Але гэта на першы погляд. Задума тут жа саромеецца сваіх усцешных адчуванняў, абумоўленых толькі страхам перад аднастайным, чужым, «астрожным жыццём» у лагеры. (Увогуле параўнанне армейскай казармы з астрогам — адзін з лейтматываў «Запісак»). Галоўны ж герой Барбюса хутка ўсвядоміць таксама, якое гэта пекла — вайна.

Барбюс і Гарэцкі паказваюць, што вайна — крыніца сапраўднага здзічэння чалавека; перад намі жудасныя карціны знявечанай зямлі, знявечаных маральна і фізічна людзей, якія сышліся, каб забіваць падобных да сябе. Аўтары не ідэалізуюць сваіх герояў. Чытаем у Гарэцкага: «Я знайшоў новенькі нямецкі бінокль; узяў, пачапіў сабе цераз плячо... другія салдаты пруць рыжыя, касматыя нямецкія ранцы, поркаюцца ў іх. Цягнуць адтуль, з нейкай радаснай прагавітасцю і быццам небяспекаю, алавяную лыжку, мыла, ручнічок, кавалачак белага хлеба. Відэльцы і сталовыя нажы,выкідаюць набок, як непатрэбшчыну для салдата».

Вайна адбірае чалавечае аблічча, але нават яна не ў стане знішчыць у чалавеку гуманнага пачатку. Гарэцкі піша: «...у добрай, бліскучай, з вялікім залатым арлом, афіцэрскай касцы знайшоў я недапісаны ліст забітага... Мне запякло каля сэрца, зрабілася сорамна, цяжка...». Яшчэ шмат разоў будзе гэтак жа сорамна і цяжка Лявону Задуме. І вось, нарэшце, яго размова з палонным немцам: «Калі яго канваір... адышоўся, ён сказаў мне:

— Вашы хахлатыя такое звяр'ё...

— А мы аб вас так думаем, — адказаў я ў тон.

— Нашто вайна? — сказаў ён, памаўчаўшы. — У Расіі і так зямлі няма куды дзяваць.

— Ваш кайзер абвясціў вайну.

— Не, ваш цар. А пан ест поляк?..

— Не... Але не бойцеся мяне, бо я не хачу вайны...».

Гэта размова зусім не ворагаў. Прыйдзе час, і такія, як яны, будуць брататцца ў акопах, як гэта адбылося з французамі і немцамі ў рамане Барбюса.

Аб зусім іншай вайне пачынаюць думаць салдаты. У раздзеле «Заранак» рамана «Агонь» адзін з іх заўважыць, што яшчэ «прыйдзецца біцца, можа быць, не з іншаземцамі». Амаль тыя ж словы мы чуем і з вуснаў Задумы: «І недарма ж мы тут ваюемся, — да нечага ж даваюемся. І калі тут не заб'юць, прыйдзе пара — паваюем і за што другое...».

Паказальна, што і Барбюсам, і Гарэцкім, і літаратурай «страчанага пакалення» вайна неаднаразова трактуецца як самагубства. Асабліва выразна гэты матыў гучыць у «Запісках» Гарэцкага, дакладней — у тым з эпізодаў, дзе распавядаецца, як батарэя Задумы пабіла сваю ж пяхоту.

Чалавечы пачатак жывіць франтавую дружбу паміж героямі як Барбюса, так і Гарэцкага. Барбюсаўскі Ламюз — майстра выкручвацца, каб не рызыкаваць жыццём, але забывае пра сябе, калі ў небяспецы таварышы. Або славуты эпізод, калі малады салдат Эдор і яго жонка, якія марылі аб сустрэчы, так і не змаглі застацца адны, бо далі прытулак салдатам — спадарожнікам Эдора. Прыкладаў франтавой дружбы нямала і ў Гарэцкага. Калі пад шалёным абстрэлам Задума, ратуючыся, ускочыў на дула гарматы, «нехта ж... — запісвае ён, — схапіў спераду за гімнасцёрку і цягнуў, каб я не адваліўся набак». У шпіталі, дома Задума будзе пастаянна ўспамінаць сваіх батарэйцаў. Дарэчы, у радзеле «Шпіталь» закранаецца тэма тылу, якая ў Барбюса падаецца ў больш разгорнутым выглядзе. «Тут, спаміж гэтых ваяўніча настроеных жыхароў тылу, — запісвае герой Гарэцкага, — ніхто не можа ўявіць сабе, што перажывае батарэя. Яны пытаюцца і пытаюцца, як там нашым бедненькім салдацікам у акопах, але брыдка гаварыць з імі пра гэта».

Ці не галоўнае, што сведчыць аб глыбока гуманістычнай накіраванасці абодвух твораў, — уменне аўтараў за неабсяжнай, невымернай драмай усяго чалавецтва ўбачыць драму аднаго, асобнага, канкрэтнага чалавека, паказаць, што з такіх індывідуальных драм і складваецца агульная трагедыя. Узяць хоць бы эпізод з «Агню», калі салдаты ноччу ідуць на пошукі агню, трапляюць у варожую траншэю, забіваюць нямецкага афіцэра, у кішэні якога і знаходзяць запалкі. Ці ў Гарэцкага гісторыі з Яхімчыкам, які да вайны заўсёды «толькі сварыўся з сваім бацькам», ды так і загінуў, не выканаўшы зароку больш не зводзіць жыццё сабе і родным.

Супольнасцю пазначана і паэтыка кніг Гарэцкага і Барбюса. У абедзвюх ёсць элементы натуралізму, якія праяўляюцца ва ўвазе аўтараў да ўмоў матэрыяльнага існавання чалавека на вайне, яго лагернага і акопнага побыту. Цікавую заўвагу ў свой час зрабіў Я. Карскі: рэалізм у творах Гарэцкага «даходзіць да дэталёвай анатомікі, да фатаграфавання атамаў». Шматлікія эпізоды «Агню» і «Запісак» нагадваюць аб мастацкай манеры мэтра натуралізму Э. Заля. Натуралізм апісанняў у Гарэцкага і Барбюса (як і ў Хемінгуэя, Рэмарка і іншых) — не самамэта: ён абумоўлены тэмай твораў, жаданнем аўтараў данесці праўду аб першай у гісторыі чалавецтва трагедыі такога маштабу.

Агульнасць не выключае і тыпалагічных разыходжанняў, абумоўленых найперш нацыянальнай прыналежнасцю пісьменнікаў. Гарэцкі неаднойчы звяртаецца да пытання мовы, з болем разважае аб «культурнасці», якую ён бачыў у той жа Прусіі і ад якой гэтак далёка на яго радзіме. Герой Гарэцкага бліжэй да прыроды, да зямлі; ці не таму з глыбінь яго душы ўзнімаецца цікавасць да «патаёмнага».

Абодва творы звернуты да будучых пакаленняў, таму зусім заканамерная наяўнасць у іх сімвалаў, філасофскіх абагульненняў. Некаторыя разважанні персанажа Гарэцкага выклікаюць асацыяцыі з Дастаеўскім. «Ці гэта дзве душы ўва мне — усходняя і заходняя?» — пытаецца ў сябе Задума. Ці яшчэ: «І нашто яно гэта? І што ж гэта такое? Жыў чалавек — і памірае. Проста ўсё. І няма нічога вышэйшага... І вечная загадка...». Тым не менш «Агонь» мае значна больш абагульнены характар, асабліва ў плане канцэпцыі часу. Апроч таго, аповяд Гарэцкага маналагізаваны, дзеянне разгортваецца найперш у свядомасці героя.

Тыпалагічны аналіз дае магчымасць выявіць этыка-эстэтычную супольнасць твораў аб першай сусветнай вайне беларускага і замежных (у прыватнасці, французскага) мастакоў слова і, адначасова, іх адметнасць, пацвярджае неабходнасць даследавання творчасці Гарэцкага ў кантэксце сусветнай літаратуры.

**Ева ЛЯВОНАВА,**
**дацэнт БДУ**

адлюстроўваюць анекдоты, і значна менш даведацца і пра людзей, і пра справы іхнія, і пра норавы.

Аповесць сама па сабе як бы дзеліцца на тры часткі — па сацыяльнай значнасці анекдотаў. Першая — гэта горкі смех, якраз той выпадак, калі і смешна, і грэшна. Бабулі ды дзяды, якія апавядаюць пісьменніку пра сваё жыццё-быццё, і самі не заўважаюць, пэўна ж, што вяшчуюць яму чарговы анекдот — пра сябе, пра калгас, пра наш лад сацыялістычны, калі і холадна табе, і галадна, і са столі капае, калі зусім нявыкрутна на гэтым свеце нямогламу, адзінокаму чалавеку, для якога загадка і страх — як жыць заўтра. Напомню: гэта — горкія анекдоты, яны і назвы адпаведныя маюць: «На вуліцы Савецкай», «Хата багата, а гасцей малавата», «Усё пакралі, цяпер — п'юць», «Баба-дзеўка», «Людзі на снезе», «Сур'ёзныя жарты», «Як разбагацець», «Няроўная доля»... І ва ўсіх гэтых сумных анекдотах — жывыя, канкрэтныя людзі: баба Валя, загадчык хаты-чытальні Есьман, Волька Хведарава, баба Марыля, Арына і многія іншыя. Але ж пра беды свае расказваюць яны неяк цёпла, зусім не так, калі чалавек скардзіцца. І тады яшчэ больш пачынаеш спачуваць гэтым людзям.

Вось кароценькі анекдот «Жывому аб яго смерці», цалкам прывесці хочацца яго таму, што з усіх горкіх — ён найбольш светлы, як падалося.

«...Клэпае да сельсавета дзед. Даганяю.

— Як жывеш, дзядуля?

— Як я жыў, каласок? Праз адны дзверы ўвайшоў, праз другія — выйшаў... Хацеў касцюм купіць на смерць, дак лавашніца сказала: трэба даведка, што я хутка памру. От іду ў сельсавет...»

На гэтай горкай дзялянцы суседнічаюць дабро і зло, вера ў лепшае і адцуранне ад горшага, спагада і раўнадушша. Не дарма ж іншы раз у адчаі выракнеш: жыццё — як той анекдот!

Другая частка аб'ядноўвае так званыя анекдоты бытавыя, звычайныя, яны і займаюць асноўнае месца ў аповесці. «Самагоншчык», «Чаму сумны», «Прынцыповы лекар», «Дрэсіраваныя парасяты», «Па часе разбяромся», «Апоўначы», «Развод з-за цыбулі», «Паказанні ў судзе», «Схаваў бутэльку» — і яшчэ, яшчэ, яшчэ... Так і хочацца запыніцца хоць на адным, падзяліцца з ім чытачом. Ну, вось хоць бы гэты — «Атрымаў, што прасіў».

«...П'яны аўцюк зайшоў на фельчарскі пункт, крычыць:

— А-у, хто-небудзь ёсць?

А быў позні час, выходзіць тэхнічка:

— Што вы хацелі?

— Захварэў, калінка... Дай бюлетэнь...

Тэхнічка пачала тлумачыць, што доктара ўжо няма. А п'янтос і слухаць не хоча, патрабуе:

— Дай, калінка, бюлетэнь, ушчэнт хворы...

Села тэхнічка за стол, вырвала з вучнёўскага сшытка сінюю вокладку, пад колер бюлетэня, і напісала: «Міша Качалкін можа выйсці на працу толькі як праспіцца».

Прыемна, што і дзеці аўцюкоўцаў растуць аўцюкоўцамі, хвацка пераймаюць ад старэйшых уменне ў звычайным, будзённым жыцці бачыць незвычайнае, адметнае — тое, ад чаго вочы ў іншых загараюцца. І сыплюць сабе гумаркам. Хоць і дробненькім, але густа. За словам у кішэню не палезуць — яно, слова тое, у іх заўсёды на языку.

Звяртаюць на сябе ўвагу таксама праклёцці, што прыдуманы аўцюкоўцамі: а каб ты маіх гадоў не дажыў; хай табе баба не дае выпіць; каб твае дзеці лянівымі зрабіліся; каб табе чыста, каб табе гола было...

Пры канцы хочацца выказаць адну перасцярогу: па прыкладзе Уладзіміра Ліпскага — добрая справа крылы мае! — пачнуць, магчыма, адкрывацца, як мацерыкі, новыя Аўцюкі, новыя планеты народных жартаўнікоў, і таму не хацелася б, каб асобныя анекдоты — з тых, што процьма ўжо надрукавана — падганяліся пад тую ці іншую мясцовасць. А такое можа здарыцца. Калі чэрпаць — то з чыстай крыніцы. Калі няма чаго — то няма. Лепш не апускаць вядро...

Такое вось напісалася ў мяне пасля прачытання аповесці У. Ліпскага «Аўцюкоўцы». Можа, напісалася крыху з гумарком, залішне лёгка, але, як кажуць, з кім павядзешся, ад таго і набярэшся...

Так што вышэй нос, Аўцюкі і аўцюкоўцы!

**Васіль ТКАЧОЎ**

Віншуем!

# ПАЯДНАНЫ З БЕЛАРУССЮ

## Эдуарду МЕЖЭЛАЙЦІСУ — 75

Народны паэт Літвы Эдуардас Межэлайціс з тых, хто мае стасункі з беларускай зямлёю. Ён неаднаразова наведваў Беларусь. Яго творы перакладалі П. Броўка, А. Куляшоў, П. Панчанка, М. Танк, Р. Барадулін, А. Вольскі, А. Вялюгін, Я. Сіпакоў і іншыя. Яны змяшчаліся і ў перыёдыцы, і ў калектыўных зборніках. Такіх, напрыклад, як «Паэты Савецкай Літвы» (1954), «Галасы сяброў» (1958) і іншыя. Па-беларуску асобнай кнігай, у прыватнасці, выдадзена паэма Э. Межэлайціса «Паэма братэрства», за якую ён адзначаны рэспубліканскай прэміяй Літвы. У гэтым творы расказваецца пра ГЭС, узведзеную на мяжы трох рэспублік.

Віншуем спадара Межэлайціса з юбілеем, зычым яму новых поспехаў!

# НАШ КАЛЯНДАР

2 кастрычніка — 175 гадоў з дня нараджэння польскага і беларускага пісьменніка, філосафа, гісторыка Аляксандра НЕЗАБЫТОЎСКАГА (1819—1849). Аўтар мемуарнай кнігі «Мае запіскі» (Парыж, 1845), прысвечанай паўстанню 1830—1831 года, у якой называе сябе літвінам. Пра жыццё і дзейнасць нашага знакамітага земляка падрабязна расказваецца ў кнізе С. Аляксандровіча «Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі» (1975).

2 кастрычніка — 120 гадоў з дня нараджэння гісторыка культуры, краязнаўцы, даследчыка замкаў Міхала Яўстафія БРАНШТЭЙНА (1874—1938). Асабліва поўна апісаў Лідскі замак. На польскай мове выйшлі кнігі «Універсітэцкая бібліятэка ў Вільні» (1922) і «Адам Ганоры Кіркор» (1930). Усяго напісаў 200 навуковых прац па этнаграфіі, культуры, краязнаўстве Польшчы, Літвы і Беларусі.

4 кастрычніка — 250 гадоў з дня нараджэння беларускага асветніка, публіцыста, рэлігійнага, палітычнага дзеяча, удзельніка паўстання 1794 года Міхала КАРПОВІЧА (1744—1803). Прапагандаваў ідэі французскіх асветнікаў, адзін з першых крытыкаваў прыгон, жорсткае абыходжанне з сялянамі.

10 кастрычніка — 105 гадоў з дня нараджэння ўкраінскага паэта і літаратуразнаўцы Міхайлы ДРАЙ-ХМАРЫ (1899—1939). Аўтар даследаванняў па гісторыі ўкраінскай, беларускай і польскай літаратур, артыкула па гісторыі беларускай мовы «фрагменты Мінскага пергаментнага апракаса XIX ст.» (1931). Першы ў былым Савецкім Саюзе перакладчык «Вянка» М. Багдановіча. Кніга па-ўкраінску выйшла ў 1929 годзе. Аўтар артыкулаў «Паэт беларускага народа Максім Багдановіч» (1928) і «Жыццё і творчасць Максіма Багдановіча» (1929). Адзін з ініцыятараў выдання альманаха «Нова Білорусь» (1929).

11 кастрычніка — 85 гадоў з дня нараджэння Зінаіды БАНДАРЫНАЙ (1909—1959). Аўтар мастацка-дакументальнай аповесці пра дзіцячыя і юнацкія гады Янкі Купалы, якая вытрымала некалькі выданняў — «Ой, рана на Івана», зборніка апавяданняў для дзяцей «Лясныя госці» (1960).

13 кастрычніка — 95 гадоў з дня нараджэння Дзмітрыя КУРДЗІНА (1899—1937). Ахвяра сталінізму. Аўтар п'ес «Міжбур'е», «Контратака», «Чалавек вырашае», «Азеляненне цэха».

15 кастрычніка — 95 гадоў з дня нараджэння Адама БАБАРЭКІ (1899—1938). Ахвяра сталінізму. Пісаў апавяданні, найбольш вядомы як крытык і літаратуразнавец. У 1976 годзе выйшаў крытыка-біяграфічны нарыс Уладзіміра Конана «Адам Бабарэка».

15 кастрычніка — 85 гадоў з дня нараджэння Сяргея РАКІТЫ (Законнікава) (1909—1942). Ахвяра сталінізму, родны дзядзька паэта Сяргея Законнікава. Нізка яго вершаў змешчана ў калектыўным зборніку «Разгон» (Гомель, 1930). Аўтар кнігі «Я агітую за пяцігодку» (1934).

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ХОЧАШ БЫЦЬ ЗДАРОВЫМ? БУДЗЬ ІМ!

**У рамках штомесячнай выстаўкі «Кніга-94» у Мінску ў Доме кнігі прайшла прэзентацыя даведніка «Здароўе без лекаў», выпушчанага выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.**

**Перад будучымі чытачамі выступілі куратар выдання Я. Малашэвіч, загадчык рэдакцыі прыродазнаўства А. Фядосаў, навуковыя рэдактары А. Купцова і Л. Шастакова. Гэта — унікальны даведнік, у якім закранаюцца розныя аспекты фізічнага, псіхічнага і сацыяльнага здароўя. Упершыню ўзнімаюцца і праблемы сексуальнага здароўя. Кніга ўтрымлівае шмат матэрыялаў, што могуць дапамагчы ў захаванні здароўя ў складанай абстаноўцы ў сувязі з наступствамі чарнобыльскай катастрофы.**

**Г. ПЕТРУСЁЎ**

# ПРАПАНУЕ «РОДНАЕ СЛОВА»

**Атрымаўшы падвоены сёмы-восьмы нумар часопіса «Роднае слова», міжволі падумаў: як бы добра было, калі б ён такім памерам выходзіў штомесячна! Магчыма, калі-небудзь да гэтага і дажывём, а пакуль што — дзякуй Богу і за тое, што маем.**

**Змястоўным атрымаўся раздзел «Філалогія». Змешчаны артыкулы А. Пашкевіча «Кроў з крыві беларуса...» (легенда і лёс Каруся Каганца), М. Тычыны «Алесь Адамовіч: здалёк і зблізку», В. Максімовіча «Каб не страціць святое штосьці...» (нацыянальны космас у творчасці Р. Барадуліна), Г. Сінілы «Спецыфіка літаратурнага вобраза», У. Ламекі «Мова твораў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча», А. Радзевіча «Што жывём, то вучымся» (па старонках дарэвалюцыйных беларускіх перыядычных выданняў), Н. Салдаценкі «На шляху да вобраза», заканчэнне артыкула І. Чыгрына «У пошуку саміх сябе, альбо Хто такі Ігнат Абдзіраловіч?». Пад рубрыкай «Літаратура беларускага замежжа» У. Арлоў прадстаўляе некалькі твораў К. Акулы.**

**Ёсць і раздзелы «Культура Беларусі», «На ростанях», «Філалогія» і іншыя.**

# СВЯТЛО «ПАХОДНІ»

**У свята вылілася першае пасяджэнне Гродзенскага гісторыка-культурнага клуба «Паходня» пасля летніх канікул. Больш за дзвесце чалавек сталі ўдзельнікамі адкрыцця дзевятага творчага сезона клуба. Пасля афіцыйных урачыстасцей прысутныя змаглі праслухаць канцэртную праграму эстрадных выканаўцаў Гарадзеншчыны, паўдзельнічаць у танцавальным марафоне, які вёў вядомы на Беларусі гурт «Тэатр». Усё гэта стала магчымым дзякуючы фундатарскай дзейнасці культурна-асветніцкага фонду «Бацькаўшчына» і яго старшыні народнага дэпутата Беларусі Міколы Маркевіча.**

**Была аднадушна падтрымана ідэя аб неабходнасці тэрміновага правядзення канферэнцыі ўсіх непартыйных нацыянальна-дэмакратычных рухаў, аб'яднанняў, клубаў і г. д. з мэтай удасканалення адраджэнскай справы на Беларусі і каардынацыі дзеянняў напярэдадні надыходзячых выбараў у вышэйшыя органы ўлады.**

**Зацікаўленым асобам просьба накіроўваць свае меркаванні і прапановы на адрас: 230023 г. Гродна-23, п/с 37, ГКК «Паходня».**

**Віктар ВАРАНЕЦ,**
старшыня клуба «Паходня»

# ПАЧАКАЕМ... ЗАЦВЯРДЖЭННЯ

**Валерый Сарока, вядомы як аўтар шасці дакументальных аповесцяў з серыі «Віцебская справа», на канферэнцыі Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Беларусі выбраны намеснікам старшыні гэтай палітычнай арганізацыі. А старшынёй Саюза стаў граф Аляксандр Прушынскі. Праўда, рашэнні канферэнцыі яшчэ павінны быць зацверджаны на з'ездзе ХДС, што пройдзе ў пачатку лютага наступнага года.**

**М. КРЫЎЧЫК**

Паэзія

Мікола ПРАКАПОВІЧ



# РАДЗІМА — АДЗІНЫ БОГ!

## ГАНЧАР

**Белая гліна, чырвоная гліна... —**
**Песціцца ў пальцах гады,**
**І вырастае над кругам імкліва**
**Свет, як усход малады.**

**Светла ўздымаецца бусел кругамі,**
**Цёмна віруе Гарынь,**
**А над ракой, над зямлёй,**
**над буслямі**
**Горача Горан гарыць.**

**І расхінаецца ў сонечным гуле**
**Бездань нямая віроў, —**
**Ева збянтэжана грудзі атуліць**
**Хваляю валасоў.**

**Белая гліна, чырвоная гліна... —**
**Час, як між пальцаў вада.**
**Слова праклюнецца**
**з вуснаў маўклівых, —**
**Здзіўлена гляне Адам.**

**І разальецца паводкай вясновай**
**Тайна ў блакітных вачах.**
**Першае Слова, галоўнае Слова...**
**І — усміхнецца Ганчар.**

## МОЙ БОГ

*На Беларусі Бог жыве...*
*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ*

**Я вернік — бусліных белых кругоў,**
**Купалля, жніва, снягоў...**
**У беларусаў многа багоў, —**
**Ніводнага з іх свайго.**

**А княжыў некалі мудры Род...**
**У шуме яго галін**
**Згубіўся недзе наш радавод, —**
**Забыўся пра бацьку сын.**

**Аслеп і аглух мой бедны народ,**
**Зракліся яго багі:**
**Адзін павярнуўся тварам на Ўсход,**
**На Захад глядзіць другі.**

**А трэцяга гушкаў вірлівы Буг,**
**Мой родны горад хрысціў,**
**Ды быў ён нялюбым**
**для першых двух,**
**Бо вельмі свой край любіў.**

**Раскрыліш душы ў новай сяўбе!**
**На ростанях трох дарог**
**Вернем кожны Бога ў сабе:**
**Радзіма — адзіны Бог!**

•

**Дзьмухавец на далоні сусвету, —**
**адцвіту, адгарчу,**
**і з адзінаю мэтай**
**у наступныя леты —**
**зноў цвісці і гарчыць —**
**палячу.**

**Дык няўжо толькі ў гэтым**
**сэнс зямнога жыцця? —**
**Промнем сонца сагрэты**
**на далоні сусвету,**
**ніадкуль, у нішто,**
**як іскрынка, як znічка,**
**я з'яўлюся і знікну...**
**У мяне ані «ўчора»,**
**у мяне ані «заўтра», —**
**толькі дрогкае «зараз»...**
**Я прыйшоў і пайшоў,**
**я — працяг.**

•

**На зямлі не было нікога,**
**Зорны пыл гайдалі вятры...**
**Я сышоў — і вярнуўся Богам,**
**І Багіняй цябе стварыў.**

**Ты звінела ў сусвеце арфай,**
**Я зямныя суды вяршыў.**
**У буянні свіальных фарбаў**
**Не сустрэліся дзве душы.**

**Пралятаі, як век за векам,**
**Два анёлы, двое святых...**
**І тады я стаў Чалавекам,**
**І Жанчынаю стала ты.**

•

**Паміж мной і табой,**
**як паміж Сцылай і Харыбдай,**
**Дрэмле русалка-каханне...**
**Выпадковым спадарожнікам здаецца,**
**што яна скамянела,**
**і дарэмная наша варта.**
**Але ж мы выдатна ведаем**
**не нораў,**
**і варта ёй варухнуць хвастом,**
**моцна сціскаем абдымкі.**
**Русалка-каханне**
**горача б'ецца між намі,**
**пакуль, знясіленая, не сціхае.**
**І зноў мы на вечнай варце,**
**як Сцыла і Харыбда.**

## ГРАМНІЦЫ

**Ці то душа, ці ты сама**
**Плыла над светам,**
**Дзе сустракалася зіма**
**З паганскім летам.**

**Вясна стаяла ля вакна**
**Нязбытнай стратай,**
**І так хацела стаць яна**
**Як ты — крылатай.**

**І так хацела быць яна**
**Як неба — вечнай.**
**Злятала ворліцай вясна**
**Табе на плечы.**

**А на адным крыле ў яе,**
**Як абяцанак,**
**Барвовым сонцам зіхацеў**
**Дрыготкі ранак.**

**А на другім крыле — Пярун**
**Маланкі крыжыў.**
**І ў тых маланках я згару,**
**Мне ў іх не выжыць.**

**Чаму ж ад дрогкага святла,**
**Ад сноў-заранак,**
**Я прагну чорнага крыла,**
**Дзе злом маланак?**

**Чаму, суцішаныя, мы**
**Плывём над светам**
**На свята стрэчання зімы**
**З паганскім летам?..**



Проза

Сонца б'е сваімі промнямі проста ў вочы. Ёзь Сапач заплюшчваецца ад гэтага яркага, зусім не паўночнага святла. Цёпла так, як даўно тут, кажуць, не было. Аднак вада ў плыткаватай і вузенькай рачулцы, што агінае пасёлак, ажно сцюдзёная, моцна апякае ногі. Здаецца, з іх здзіраюць скуру. Горача, душна, а ў ваду лезці не хочацца. Толькі ўвечары ён памыецца ў гасцініцы пад душам альбо ў ванне, калі будзе незанята на той час. Лепш, канечне, памыцца пад душам. Ёзь нібы адчуў, як цякуць па ім струмені прахалоднай вады, ачышчаючы стомленае цела ад бруду. Уздыхнуў і паспрабаваў расплюшчыць вочы, але ад невыноснага бляску, як пры электрычнай зварцы, паплылі слёзы, рэдкія, нібы ад болю. Прыклаўшы да твару руку, Ёзь глянуў управа, дзе на бела-шэрым з-пад мукі мяшку ляжаў, уткнуўшы галаву ў амаль высушаную сонцам траву, Мінавіч. Ён не варушыўся, быццам спаў.

Іх ніхто не шукаў і не клікаў, і яны толькі чакалі, каб хутчэй мінуў гэты нудны і спякотны дзень. Ёзь ужо ўсе свае грошы тут зарабіў і трэба было толькі даседзець у пасёлку некалькі дзён: білет на самалёт быў даўно ў кішэні. А Мінавічу наогул не было куды спяшацца, яго грошы не цікавілі. На гэтай гандлёвай базе ён адбываў пакаранне грузчыкам. Быў Мінавіч, альбо, як у ягоным пашпарце напісана, Альфонс Мінавіч Кішкур, найлепшы кравец у пасёлку і жонкам усіх тутэйшых уплывовых людзей шыў сукні. Апошні месяц ён амаль нічога не рабіў, толькі піў таннае віно «Ізабэла» з вялізных цёмных бутэлек. Хоць гэтым, зрэшты, у пасёлку нікога не здзівіш. Ягонае начальства ўгневалася не таму, што Мінавіч піў і не прыходзіў у прамтаварны магазін, дзе было ягонае месца працы. Ён стаў грузчыкам на два месяцы, бо раптам здурнеў і не захацеў шыць сукенку жонцы інжынера па капітальным будаўніцтве Самсонава.

— Ляціш у Мінск?.. — чуе Ёзь, і з травы ўзнімаецца пакамечаны, у чырвоных плямах твар Мінавіча. На сівой шчаціне прыляпіліся сухія травінкі. Вочы ў дзядка чырвоныя, бы з крывёю, вейкі падрыгваюць, адчуванне такое, што зараз заплача. На вуснах — ліслівая ўсмешка. Мінавіч мо ў дзесяты раз пытаецца ў Ёзя:

— Потым паедзеш у вёску да бацькоў?

Ёзь Сапач спярша маўчыць, нібы не чуе, але не можа глядзець у гэтыя чырвоныя вочы, на па-сабачы пакорліва ўгнутую ў шыю галаву, і ціха вымаўляе:

— А як жа ж, паеду...

Ён пакуль не можа зразумець старога краўца-п'яніцу Мінавіча, бо той нешта хавае ад яго, не дагаворвае. Яшчэ як толькі іхняя брыгада прыехала ў пасёлак, стары прыбег быў знаёміцца. Як жа ж — землякі, колькі гадоў сваіх землякоў не бачыў!.. Быў і тады ўжо зранку нападпітку і ўсё ўскідваў рукамі, як птушка крыламі, здзіўляўся, узіраўся ў іхнія твары. Ёзя Сапача цмокнуў мокрымі вуснамі ў шчаку, нечым упадабаў яго, вызначыў сярод астатніх дзесяцёх хлопцаў. Усё гаварыў, паўшаптаў: «Беларусь, Беларусь... Жыве Беларусь...» Яны пасля смяяліся з падпітага старога і, убачыўшы калі-нікалі на вуліцы, успаміналі, як ён цалаваў Ёзя.

Мінавіч ужо зусім падняўся з травы і сеў. Вецер гуляў з яго разбэрсанымі валасамі, якія ледзь-ледзь прыкрывалі шырокую з цёмнымі плямамі ружовую лысіну. Па ягоных вачах, якія няспынна міргалі, Ёзь зразумеў, што стары нешта хоча папрасіць ці запытацца, але яго штосьці стрымлівае, як бы баіцца чагосьці.

Ёзь зноў заплюшчыў вочы, бы адгарадзіўся ад усяго свету, бы яму было ўсё роўна, што думае зараз дзядок. Хоць так, зрэшты, і было. Абрыдла змрочная тайга, якая, быццам вялікая кітайская сцяна, ахоплівала пасёлак з усіх бакоў. Дый сам пасёлак нечым для яго страшны...

— Ну што, Мінавіч? — прымусіў ён сказаць сабе перасмяглым ротам.

— А, Ёзік, я думаў, ты заснуў, — неяк замітусіўся, закашляўся стары і, нібы фокуснік, раптам выхапіў з бяздоннай кішэні свайго зашмальцаванага, некалі шэра-блакітнага, каптана жоўтую грушу і, пакруціўшы за таўставаты хвост, асцярожна паклаў яе на калена Ёзю.

— Учора разгружаў садавіну ў дзесяты склад. Трохі ўкраў груш. Дай, думаю, пачастую землячка. Тут, гэта, не Беларусь, садоў няма... — цягнучы словы і чыста па-беларуску, сказаў Мінавіч. Як на нейкі цуд гледзячы на гэтую, бы залатую ад яркага святла, грушу, Ёзь забыў пра спякоту, гарачыню. Сярод мноства пахаў лесу, траў, бензіну, людзей узнік духмяны пах грушы, якую шкада нават

Віктар СУПРУНЧУК

# «АБАРЫГЕНЫ» ПОЎНАЧЫ

АПАВЯДАННЕ

лю. І словы старога калыхаліся ў паветры, бы павуцінне, то аддзяталі пад націскам ветру, то вярталіся да самага твару.

— Быў некалі ў нас на Беларусі ксёндз-канонік айцец Фердынант Сенчыкоўскі. Ён змагаўся яшчэ ў тым стагоддзі за распапляванне касцёла. Хацеў, каб у гэтым храме гучала наша, беларуская мова, — голас старога ўзмацняецца, а пасля прыціхае, але Ёзь ужо вочы не заплюшчвае. Ён спрабуе ўважліва слухаць, што Мінавіч кажа: — Айцец Сенчыкоўскі быў дэканам у Менску, візітатарам...

— Ну і што?

— Яго дзейнасць не надта падабалася і палякам і рускай уладзе. Сенчыкоўскага спярша вытурылі з Менска ў Бабруйск, а потым — у ссылку ў Ташкент. Адтуль хутка адаслалі ў Вомск, дзе ён памёр ад сухотаў... Такі быў ксёндз... Калі б яго не знішчылі, мо зараз на Беларусі была б свая нацыянальная царква. Не руская і не польская...

— Ну і што? — зноў пытаецца Ёзь, але стары маўчыць, толькі чуваць яго хрыплае дыханне, кашаль і шоргат запалкі па карабку. Праз якую хвілю запахне цыгарэтным дымам.

Ля склада прамысловых тавараў крычыць-лаецца дырэктарка базы пані Сакалова. Некаму, відаць, дае прачуханца. Аднак Ёзь яе не баіцца. Ён чалавек незалежны, грошы ўжо ў кішэні. У іхняй брыгадзе было дзесяць чалавек. З кожнага пані Сакалова ўзяла па пяцьсот рублёў. За тое, што яны за месяц зарабілі на гэтай базе па паўтары тысячы. Усім добра: і пані Сакаловай, і іхняй брыгадзе, з якой застаўся тут адзін Ёзь. Дарабляў у шостым складзе дах і атрымаў за гэта яшчэ тры сотні. Нічога страшнага, калі прыляціць дамоў на тыдзень пазней. Ён купіць сабе гарнітур-тройку, два альбо тры гальштукі, паліто, плашч. Боты на зіму ў яго ёсць, не нашыя, а японскія, з тонкай скуры і на белай мяккай футры. На год Ёзь забяспечаны вопраткай і абуткам, а там, як кажуць, бог — бацька...

Сціхла пані Сакалова, няйнакш пайшла ў трэці склад да Геніка. Ёзь уяўляе, што там хутка будзе: адкаркуюць пляшку кан'яку і будуць піць яго, заядаючы шпротамі і мандарынамі. Усе далікатэсы ў Генікавым складзе. Пані Сакалова выйдзе адтуль вельмі задаволеная праз гадзіны дзве, сядзе ў свайго «Жыгуля» і паедзе да мужа, старшыні пасялковага Савета. Калі знойдзе яго на месцы. А мо ён у тайзе з кім-небудзь?.. З кім у тайзе можа быць старшыня пасялковага Савета, Ёзь не хоча думаць ужо.

— Ёзік, а Ёзік, — штурхае яго стары, — а гэная лярва нешта сёння хутка выскачыла ад Геніка. І крычыць.

— Няхай крычыць. Цьфу! — плюецца

— Пайшлі, — выпроствае плечы, моцна пазяхае і ляпае па плячы Мінавіча. Той войкае і ад нечаканасці ажно прысядае на паўсагнутых нагах.

— Сіла ў цябе, ого! — узнімае вялікі палец і паважна ўзіраецца ласкавымі вочкамі ў твар Ёзю. — І я быў некалі такі, і я...

— Ты... Мінавіч! — рагоча Ёзь, бо ніколі не паверыць, што стары мог некалі быць такім жа, як і ён: амаль метр восемдзесят пяць ростам і пяцьдзесят чацвёрты памер вопраткі ў плячах. — Няўжо? — абрывае свой смех, бо нарэшце заўважае, што смех непрыемны Мінавічу, і вочы старога робяцца калючымі.

— Шмат аб сабе ўяўляеш, — кожнае слова аддзяляючы паўзаю, прамаўляе ён, паварочваецца і ідзе ад Ёзя, невялічкі, сагнуты, у старой зашмальцаванай ватоўцы, картовых штанах, забраных у кірзавыя боты. Уся ягоная постаць, здаецца, пакрыўджана і зняважана.

— Мінавіч! — крычыць Ёзь, аднак стары не азіраецца і яшчэ праз хвіліну знікне за даўжэзным цагляна-шыферным гароднінасховішчам. Тады хлопец вялізнымі скачкамі шугае наўздагон. Хутка даганяе і, ухапіўшы старога за руку, просіць: — Прабач, Мінавіч! Не хацеў пакрыўдзіць. Ну, прабач!

Яны спыняюцца, і стары, адводзячы позірк убок, кажа, што ён і не злаваў і не крыўдзіўся. Проста яму вось патрэбна на склад... Які склад, навошта склад, калі сабраліся ў лазню да Жмінды, ці выбачайце, Жмыйды.

— Што брындаеце без справы? — чуюць яны абодва ззаду, і ад гэтага пытання стары робіцца яшчэ меншы, не па сабе і Ёзю. Ён толькі паварочвае крыху ўлева галаву: на ганку склада — пані Сакалова. «Скуль яна тут? Здаецца ж, сам бачыў, як ад'ехала з базы на машыне. Ах, каб цябе халера!..»

— Вас пытаюся? Ты, старая зараза, якога ражна поўзаеш, а не працуеш? І ты, студэнт... Нечага, як біч, хадзіць па базе.

Гэта ўсё пані Сакалова выпальвае на адным дыханні, нырае ў свайго «Жыгуля», і ледзь прыкметны сівенькі дымок ды глухаваты гуд яшчэ напамінаюць аб тым, што толькі вось-вось стаяла перад імі. Дырэктара базы пачалі зваць паняй Сакаловай не вельмі даўно. Неяк Ёзь па загадзе свайго брыгадзіра пайшоў да яе падпісваць паперы і звярнуўся: таварыш Сакалова, а, таварыш Сакалова... Яна ажно ўзвілася: якая табе таварыш, якая табе, гіцаль, таварыш?!

— А што, мо пані? — вырвалася тады ў Ёзя. — Пані Сакалова?

— Ага, пані, пані Сакалова! — гыркнула яна.

было ёсці, так і глядзеў бы, глядзеў на яе...

— Як там цяпер, на Беларусі? — прамовіў Мінавіч. — Мусіць, таксама цёпла? Праўда?

— Эгы, так... — толькі і выціснуў з сябе Ёзь. Яму ўжо абрыдла расказваць старому пра Беларусь. Дый што тут казаць. Будуюць фабрыкі, заводы, рэчкі і лясы знішчаюць, а самі людзі звярэюць. Няма таго, што раньш было...

— Я некалі быў, даўно ўжо, у Вомску, — ласкава, нібы стараючыся падлабуніцца да Ёзя, казаў Мінавіч. — Заходзіў на магілкі. Дык там бачыў... Бачыў там помнік... Невялічкі. Як і не помнік, а проста камень... На магіле айца Сенчыкоўскага.

— Якога шчэ Сенчыкоўскага? — ленавата расплюшчыў вочы Ёзь, рукі і ногі, усё цела, бы з воску, няма сіл паварушыць і пальцам. Даўно ён не быў у такім бязмежным гультайстве. Здавалася, стома, якая назбіралася ва ўсіх ягоных жылах за гэтае лета, па крапельцы спякала ў зям- Сапач і пераварочваецца са спіны на жывот.

— А ты ведаеш гэну песню, — нечакана зацягвае Мінавіч: — І з-пад каменя, і з-пад бе-лага, цячэ рэчанька, цячэ... Альбо такую: Ад веку мы спалі і нас разбудзілі...

— Я не сплю, — пазяхае Ёзь, а ў галаве ажывае, пульсуе думка: колькі тут можна ляжаць, час дамоў, дамоў... Але ж да самалёта яшчэ два дні. Два дні ляжаць на гэтай абрыдлай зямлі. Як гэта яшчэ доўга...

— Ёзік, пайшлі ў лазню да Жмыйды, — нашэптвае, ніяк не сціхне стары, і Сапач здзіўляючыся самому сабе, адразу згаджаецца, хоць і не ведае, хто такі Жмыйда ці Жмінда. У лазню варта схадзіць, ён любіць лазню.

Мінавіч, крэкчучы і прыгаворваючы пра старасць і хваробы, устае з зямлі і нават спрабуе дапамагчы падняцца Ёзю. Але навошта яму гэта дапамога, ён лёгенька, быццам на спружынах, ускоквае, адчуваючы ў сабе маладую сілу. І як не было ні млявасці, ні слабасці.

Адразу за складам на карычневых ад іржы металічных слупах плот з парванай у многіх месцах алюмініевай сеткі. Мінавіч з Ёзем лезуць у дзірку і па вузенькай, амаль непрыкметнай у кустах сцежцы — да лазні, зробленай з пачарнелых ад часу круглякоў лістоўніцы. На парозе сядзіць і сцізорыкам абстругвае паленца, штосьці майструе дзед, з тых, хто выглядае і на шэсцьдзесят і на восемдзесят: маршчыністы, у сівой шчаціне. Ён радасна вітаецца з Мінавічам, і тады Ёзь разумее, што гэта той самы Жмыйда. Але ён ведае яго як Агдама і не раз бачыў ля віннай крамы.

— Унь, едзе паслязаўтра ў Менск, — хітае галавой на Ёзя Мінавіч.

— А... — Жмыйда-Агдам адкладае паленца, выцірае лязо сцізорыка аб кашулю і хавае яго ў кішэні. — Так... Да... — уздыхае і маўчыць.

— Едзе ў Менск, — некалькі разоў паўтарае Мінавіч. — А я пазаўчора атрымаў адтуль ліст...

— А-а-а... — здзіўляецца Жмыйда-Агдам.

— Атрымаў ліст... — і на твары ў Мінавіча здзіўленне. — На, пачытай! — раптам просіць ён Ёзя. У яго рудэ аркуш паперы са школьнага сшытка з акуратнымі, літара да літары, радкамі. І, надзіва, напісаны па-беларуску. Ад ліста — тонкі пах жаночых духоў.

«Добры дзень, дарагі наш бацька. Дарагі наш бацька, — чытае Сапач. — Нарэшце, я даведалася, што ты жывы і жывеш у гэтым пасёлку. Чаму ты маўчыш, я ўвесь час цябе чакаю. Мо ў цябе другая сям'я? Але той чалавек казаў, што ты адзін. Прыязджай да нас у Мінск. Жывём мы добра. У нас свая хата. Сыночку Васілю ўжо трыццаць пяць гадоў. Ён шчэ нежанаты. Хочацца перад смерцю хоць пабачыць цябе. Бог яго ведае, колькі адведзена нам быць гасцямі на гэтай зямлі. Прыязджай, бацька. І сынок цябе просіць. Ты ж яго і не бачыў. Ён нарадзіўся праз месяц, як цябе забралі... Забралі... — глынуў Ёзь даўкі камяк, які неспадзеўкі ўзнік у горле. — Калі ты жывы, дык трэба ж пабачыцца шчэ на гэтым свеце. Моцна цябе абдымаем і цалуем. Твая жонка Марыся і сынок Васіль. Прыязджай, і мо сына тады разам ажэнім...»

Мінавіч, угнуўшы спіну і нізка нахіліўшы галаву, вадзіў трэсачкай па пяску. Твар схаваў за крысом расшпіленага каптана. Жмыйда-Агдам сядзеў з заплюшчанымі вачыма і варушыў вуснамі, бы запамінаючы тое, што чытаў Ёзь. Маўчанне як навісла між імі. Ёзь згарнуў ліст, паклаў у канверт. Так, ад яго пахла жаночымі духамі. Што гэта — «Белы бэз», «Чырвоная Масква» ці «Ландыш»? Зрэшты, якая розніца? Мінавіч схаваў пісьмо ў кішэню і ўсё нешта маляваў, маляваў трэсачкай.

— Колькі табе засталося? — у Жмыйды-Агдама ля чырвонага носа ў зморшчыне ляжала слязінка. І ад вока паўзла яшчэ адна.

— Ссылкі? Тры гады і два месяцы і пятнаццаць дзён. Без сённяшняга чатырнаццаць.

— Ты шчаслівы, — сказаў Жмыйда-Агдам. — Ты лічыш дні, а мяне ўжо тут і закапаюць. У Сыктыўкар нават не выпускаюць да ўнукаў. Сын, панімаеш, пракурор, а бацьку нічым не можа дапамагчы. Ух, яці-пераяці іх маць, — ён нахіліў галаву, і другая слязінка дагнала першую, і яны разам упалі на зямлю, пакінуўшы на шчацэ мокры след.

— Вы што, родам з Сыктыўкара? — асцярожна спытаўся Ёзь. Значыць, і Жмыйда-Агдам з былых зэкаў? Як і Мінавіч... Сапач і раней пасля прыезду сюды чуў, што мясцовае насельніцтва пасёлка амаль усё з былых зэкаў. Яму паказвалі хлопцы на таго ці іншага дзядзьку, маўляў, гэты быў паліцаем, а гэты — уласаўцам, а гэты — уласаўцам, а гэты — за палітыку сядзеў. І яшчэ інжынер з аддзела капітальнага будаўніцтва Самсонаў расказваў, што дарога ад пасёлка да ракі Пячоры суцэльна на чалавечых касцях. Іх, зэкаў, палягло ведама-няведама. Інжынеру ўжо было паўвека і якраз у тыя гады, калі будавалася дарога, ён пачынаў сваю кар'еру. Быў тут дзесятнікам.

— З якога Сыктыўкара?! — абураецца Жмыйда-Агдам. — Я з Мугілёўскай губерні, з-пад Касцюковіч. Дзесяць кіламетраў ад іх. — Яго як прарывае і ён ажно захлёбваецца словамі. — Я ў трыццаць трэцім камандаваў ротаю і ў сорак першым камандаваў ротаю. Была жонка і дачка. А з дваццаць шостага чэрвеня ад Картуз-Бярозы я са сваёй ротай: айн-цвай-драй, айн-цвай-драй. І проста — у Фатэрлянд. Да сорак пятага адбыў там у лагеры, а з сорак пятага ў родным — адсюль недалёка... Адзін раз у пяць гадоў маю права з'ездзіць у Сыктыўкар. Прабач, студэнт, смаркачы развесіў, — Жмыйда-Агдам дастае аднекуль, здаецца, з запазухі, бутэльку віна, якое якраз і «Агдам», і цягне, цягне з рыльца. Недапіўшы грамаў трыста, перадае Мінавічу. І пачынае гарланіць:

— Вып'ем за тых, хто камандаваў ротамі, хто замярзаў на снягу... Вып'ем і зноў нальём!..

У яго вельмі адчувальны беларускі акцэнт, дый твар, твар беларускага селяніна. Як Ёзь ніколі не падумаў, што гэта — ягоны зямляк? Але што было б, калі падумаў бы? Анічога. Які з Мінавічам. Ён ведаў, што стары з Мінска. І што?.. Ну, што?.. Ці мог ён вызваліць дзеда з ссылкі ці забраць з сабою? Ён нічым не можа яму дапамагчы, нічым... Ён, Ёзь Сапач, нібы трэсачка ў руках Мінавіча. Раз — і напалам, раз — і на тры часткі, раз — у агонь, і вецер развее попел. І ўсе яны — трэсачкі, і пыл. Усё гэта Ёзь чуе з вуснаў Мінавіча і Жмыйды-Агдама і больш не можа быць ля гэтых старых. Няма больш нерваў слухаць, як спявае адзін, а другі плача. Плача Мінавіч, схіліўшы галаву амаль да самай зямлі.

Ёзь ускаквае і ідзе прэч ад гэтай пачарнелай ад старасці лазні. Не, ён не ідзе, ён ужо бяжыць, бяжыць, нічога не заўважаючы і не бачачы, па кустах, па лесе. Ажно пакуль не спатыкаецца аб паўгнілую сухастоіну і падае з усяго размаху ніцма...

Мінаюць дзень, ноч, і раніцаю Ёзь выходзіць да аўтобуса, што едзе да аэрапорта, адкуль узнімаюцца самалёты і да яго роднага Мінска. Відаць, ён прыходзіць першы на прыпынак. Нікога быццам шчэ няма. Хоць не, нехта прыхіліўся да бруднай ад пылу асіны. Канечне, гэта чалавек, а не цень. Чалавек адыходзіць ад дрэва, але ў яго руках ні чамадана, ні якой сумкі. Аднак гэта і не біч, хоць і пры святле паўночнай раніцы відаць, што апрануты ён як найапошні біч: у запэцканых штанах, у ватоўцы з чужога пляча. Ёзь пазнае чалавека: згорблены і пануры стаіць перад ім Жмыйда-Агдам.

— На, — кажа ён, і Ёзь, бы заведзеная лялька, з недаўменнем бярэ знаёмы канверт, зноў быццам адчуваючы тонкі пах духоў. — Я, можа, не зусім, — пераступае з нагі на нагу Жмыйда-Агдам. — Толькі... Толькі Мінавіч павесіўся... — Адварочваецца і глуха дадае: — Трэ, мусіць, і мне...



## УВАРВАННЕМ ПТУШКІ САРОКІ...

**Увечары 23 верасня, на гадзіну раней за тую, на якую зазвычай прыпадае пачатак спектакля, сцэна Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі зазнала сапраўднае ўварванне: Птушка Сарока, тупаючы нагамі артыста А. Васько, гучна патрабавала ўвагі тэатральных заўсёднікаў і персаналу тэатра лялек. Голасам згаданага акцёра яна спраўна выгукнула свае вітанні і папярэдзіла, што за ёй прыйдуць іншыя!.. Шчыра і вынаходліва віншавалі лялечнікі драматурга і паэта Артура Вольскага з сямідзесяцігоддзем. «Ну і лічба ў вас над сцэнай, — уздыхнуў Артур Вітальевіч. — Не хачу на яе глядзець». Таму ўсёй грамадою глядзелі невялікую праграму з удзелам герояў казак Артура Вольскага і Віталя Вольскага, якіх паслядоўна ўвасаблялі У. Варанкоў, В. Белаш, А. Паўлікаў, В. Пражэва і самыя-самыя маладыя акцёры трупы, якім у казках Вольскіх яшчэ іграць ды іграць.**

## ПЯШЧОТНАЮ ТРАДЫЦЫЙНАСЦЮ

**«Кацяня Гаў» Р. Осцера ў пастаноўцы Аляксея Ляляўскага распачне прэм'еры новага сезона Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі 8 кастрычніка. На традыцыйных шырмах з вясёлымі выявамі дамкоў зладзяць свае дачыненні Кацяня з дзіўнаю мянушкаю Гаў (Дзіна Іванова) і Шчаня, якое, захапіўшыся новымі знаёмствамі ды гульнямі, забылася сваё імя... У выкананні Валянціны Белаш гэтая роля выдае на самую абаяльную ў спектаклі. Неадназначныя сімпатыі выклікае і Кот Уладзіміра Варанкова, дарослы хітраван адмысловага свету, у якім ідзе бясконцая грамадзянская вайна катоў з сабакамі. Праўда, ягоная ўласная вайна з Сабакам (Аляксандр Паўлікаў) канчаецца перамір'ем на абед...**

**Не новая п'еса, магчыма, не самая найлепшая з тых, якія могуць быць прадстаўлены нашай дзіцячай аўдыторыі. Але суладдзе мастака Аліны Фаміной і рэжысёра Аляксея Ляляўскага паспрыяла ўзнікненню невялікай павучальнай гісторыі ў дзвюх дзеях, асноўнаю думкаю якой сталася думка пра магчымую дружбу катоў з сабакамі — ім, па вялікім рахунку, няма чаго дзяліць. Гісторыя па-свойму прывабная пяшчотнаю лялечнаю традыцыйнасцю, — тою, якую не так лёгка спавядаць і даводзіць без «жывых планаў», авангардных прыёмаў ды арыентавання на самую дасведчаную аўдыторыю. Гісторыя Кацяня ці Гава, здаецца, знойдзе вельмі і вельмі дакладны ўзроставы адрасат. У другім складзе яе будуць увасабляць Яна Агеенка, Людміла Немагай, Аляксандр Васько і Уладзімір Грамовіч. Самы маленькі спектакль вымагае самай магутнай падтрымкі!**

## ...І ПЯЦЁРА ДА ПЯЦЬДЗЕСЯТ ПЯТАГА

**Падобна, што п'еса А. Дударава «Купала» (для цікаўных удакладняем: не пра Янку Купалу ў ёй гаворка ідзе, а пра Купалу або Купалку так званых паганскіх часоў) заваявала не адно рэжысёрскае сэрца. Услед за Валерыем Раеўскім (Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы) і Сяргеем Еўдашэнкам (Брэсцкі абласны драматычны тэатр) яе выпраўляецца ставіць і Валерый Мазынскі, — мастацкі кіраўнік «Вольнай сцэны», тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі — у Гомельскім абласным драматычным тэатры, мастаком пастаноўкі выступіць Дзмітрый Мохаў.**

**Паведамляючы пра гэта, кіраўнік тэатра Уладзімір Караткевіч дадаў, што, на ягоную думку, трупа Гомельскага тэатра добра падрыхтавалася да ўвасаблення сюжэтных паваротак і нетрадыцыйна, як па сённяшніх меркаваннях, пададзенага тэксту. Не лішне нагадаць, што колішнія студыйцы, студэнты-завочнікі Беларускай акадэміі мастацтваў, нядаўна зрабіліся правамоцнымі чальцамі гомельскай трупы, — істотная падтрымка для мастацкіх задум пастаноўшчыкаў любых спектакляў! Іх пяцёра: Таццяна Зміцюра, Алена Шагава, Сяргей Лагуценка, Радзівон Радзькін і Аляксандр Старчанка. Іх галоўнай дыпломнаю работаю стаўся спектакль паводле твораў М. Гогаля «Боты наўзьмяч» у пастаноўцы У. Караткевіча. Кожны з выканаўцаў мае адначасова па пяць-шэсць роляў і, адпаведна, магчымасць як мага паказаць сваё майстэрства ў гэтым спектаклі.**

**Найноўшым з самых новых, а менавіта — «Прыгажуном-мужчынаю» А. Астроўскага (на сваёй радзіме ў Расіі драматург перажывае цяпер чарговы ўздым папулярнасці) рэжысёр Уладзімір Караткевіч распачаў новы, пяцьдзесят пяты сезон Гомельскага абласнога драматычнага тэатра. Мастак спектакля — Георгій Чубукоў. У галоўнай ролі — Алег Караткевіч.**

*На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь*

# БЫ ЖЫВОЕ ДРЭВА МАСТАЦТВА

Сярод вылучаных карцін — цыкл музычна-этнаграфічных фільмаў, створаных на «Беларусьфільме». Фільмы прадстаўлены Саюзам музычных дзеячаў, праўленнем Саюза кампазітараў і праўленнем Саюза кінематаграфістаў Беларусі. Гэтых стужак шэсць, яны аб'яднаны ў цыкл імем этнамузыколага і аўтара-сцэнарыста Зінаіды Мажэйкі. Разам з ёй больш за дзесяць гадоў працавалі розныя кінематаграфісты, што ўвасаблялі на экране яе фальклорна-музыказнаўчыя ў сацыяльна-псіхалагічныя ідэі: «Палескія калядкі» (1972, рэжысёр Н. Сава, аператары М. Бераў, У. Цяслюк), «Галасы вякоў» (1979, рэжысёр Н. Сава, аператар А. Шклярэўскі), «Памяць стагоддзяў» (1982, рэжысёр Н. Сава, рэжысёр-аператар Ю. Ялхоў), «Палескія вяселлі» (1986, рэжысёр Ю. Лысятаў, аператар М. Сідорчанка), «Пранясі, Божа, хмару» (1990, рэжысёр-аператар А. Шклярэўскі), «Крывыя вечары» (1993, рэжысёр Ю. Лысятаў, аператар М. Сідорчанка).

Цыкл атрымаў вялікае прызнанне ў Беларусі і за яе межамі. Невыпадкова Расійскі навукова-даследчы інстытут культурнай і прыроднай спадчыны, падтрымліваючы вылучэнне гэтага цыкла фільмаў на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прыгадаў, што з'яўленне гэтых фільмаў на фестывалях заўсёды было цэнтральнай падзеяй: бездакорная прафесійнасць, глыбіня спасціжэння нацыянальнай культуры і драматызм падзей... зрабілі гэты цыкл сапраўдным помнікам фальклору беларускага народа. Цыкл, безумоўна, зойме належнае месца не толькі ў нацыянальнай, але і ў агульначалавечай культурнай спадчыне. Такая ж думка выказана і ў водгуку Цэнтра візуальнай антрапалогіі МДУ імя М. Ламаносава.

Варта ўспомніць і ўзнагароды, атрыманыя фільмамі цыкла. 1979 год — за лепшы сцэнарый і за лепшую рэжысуру адзначаны фільм «Галасы вякоў» на аглядзе-конкурсе кінастудыі «Беларусьфільм». 1987 год — на I Міжнародным фестывалі аўдыёвізуальнай культуры ў Пярну (Эстонія) карціны «Галасы вякоў» і «Памяць стагоддзяў» узнагароджаны «за чысціню і паэтычнасць». У 1991 годзе на V Міжнародным кінафестывалі ў Пярну прыз «За лепшы фільм аб нацыянальным музычным фальклоры» атрымлівае карціна «Пранясі, Божа, хмару». У 1993 годзе гэты ж фільм адзначаны на Міжнародным аглядзе экалагічных, спартыўных і турыстычных фільмаў у Злаціборы (Югаславія) і на II Міжнародным кінафестывалі славянскіх і праваслаўных земляў у Югаславіі («Бронзавы віцязь» у катэгорыі дакументальных фільмаў). Карціны цыкла ўключаны ў вучэбна-культурную праграму Калумбійскага ўніверсітэта.

Цыкл ствараўся і спраўджваўся, развіваўся ў прасторы і часе, дзякуючы Зінаідзе Мажэйцы. Яе любоў да народнага меласу, музычнага фальклору Беларусі перадавалася ўдзельнікам здымкаў. Стварэнне гэтых стужак — адметная і нязвыклая з'ява ў кінамастацтве. Тут аб'яднаны розныя віды і жанры кіно — дакументальнага, мастацкага, навукова-папулярнага. У натуральным асяроддзі зняты таленавітыя народныя мастакі, выдатныя носьбіты музычнай культуры народа, старадаўнія народныя абрады, рытуалы, што дайшлі да нас праз стагоддзі. Самае ж нешараговае, самае выдатнае тое, што мастацтва паказана існуючым не на сцэнічнай пляцоўцы (як прафесійнае ці самадзейнае), а ў плыні жыцця, як сапраўдны аўтэнтычны фальклор. Цыкл даводзіць, што і ён, аўтэнтычны фальклор, сёння існуе (а не толькі яго сцэнічныя варыянты, апрацоўкі)! Больш за тое, ён развіваецца!

Зафіксаваць у кіно аўтэнтычны фальклор — вельмі складаная задача. Некаторыя гледачы думаюць, што на экране — інсцэніраваныя, зрэжысіраваныя сцэны. Другія, наадварот,

# КАМПРАМІС МІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫМ

## НЕЗЛАСЛІВА-ЗЫЧЛІВЫЯ КАМЕНТАРЫІ ДА ОПЕРЫ «ЛЭДЗІ МАКБЕТ МЦЭНСКАГА ПАВЕТА» Ў ПАСТАНОЎЦЫ ДАВТА БЕЛАРУСІ

Кампраміс... Слова гэта — амаль ганебнае: «НАШ» чалавек не павінен быў ведаць кампрамісаў. Толькі белае і чорнае, толькі «за» ці «супраць» — і ніякіх адценняў, а тым больш уступак у той ці іншы бок.

Аднак, ці не з'яўляецца кампрамісам — нават шэрагам кампрамісаў — сама гісторыя пастановак другой (і адначасова апошняй) оперы Д. Шастаковіча? Упершыню з'явіўшыся на сцэне ў 1934 годзе (у Пецярбурзе і праз дзень у Маскве), за два гады яна абышла некалькі замежных тэатраў, мела грандыёзны поспех — і была забаронена. А вярнулася да гледача амаль праз трыццаць гадоў, у адлігу 60-ых. І засталася, трэба спадзявацца, назаўсёды. Але засталася ўжо ў іншай рэдакцыі!

Ці не было кампрамісам само рэдагаванне оперы? Пастаноўшчыкі спектакля ў беларускім Акадэмічным Вялікім тэатры адказваюць на гэтае пытанне прынцыпова станоўча, падкрэсліваючы апору на першую рэдакцыю нават у назве — «Лэдзі Макбет Мцэнскага павета» (спачатку менавіта так, паводле М. Ляскова, назваў сваю оперу сам кампазітар, назва ж «Кацярына Ізмайлава» з'явілася ў маскоўскай пастаноўцы і потым замацавалася за 2-ой рэдакцыяй). Аднаўленне геніяльнай аўтарскай задумы, пазбаўленне яе былых ідэалагічных напластаванняў — што ж, гучыць з імпэтам. Насцярожвае толькі адна фраза, у якой пастаноўшчыкі дадаюць пра выкарыстанне таксама й лепшых элементаў 2-*ой* рэдакцыі.

Што ж гэта за сімбіёз такі? Ці не з'яўляецца наша пастановачная версія яшчэ адным кампрамісам? Нават не ведаючы музыкі гэтай оперы, можна задацца пытаннем: ці мог аўтар, гранічна смелы ў 25 гадоў, на шостым дзесятку ўласнымі рукамі сапсаваць сваё любімае тварэнне — дзеля таго, каб дагадзіць цэнзуры? І настойваць — ды яшчэ як! — менавіта на гэтым варыянце? Пісаў жа ён у асабістых лістах сябрам за мяжу, дзе рыхтавалася пастаноўка: «Перадайце маю просьбу ставіць маю оперу абавязкова ў новай рэдакцыі ці зусім не ставіць».

Вось чаму, перш чым раздорваць эпітэты накшталт «той спявае цудоўна, а той не зусім», я прапаную звярнуцца да тэмы: ШТО яны спяваюць? Версію маладога Шастаковіча? Ці сталага? Ці наогул дырыжора А. Анісімава? І ў шэрагу маіх каментарыяў да оперы першы — непасрэдна пра матэрыял, што пакладзены ў аснову пастаноўкі. Скарочана гэты каментарый можна назваць —



*Сцэна са спектакля.*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

### КАМ. ПРА МАТ.

Скарачэнне выклікае пэўныя асацыяцыі? Што ж, менавіта гэта я мела на ўвазе, параўноўваючы оперныя версіі прыдзірлівым позіркам музыказнаўцы-тэкстолага. Таму калі вы прагнеце хуткай сенсацыі — вось яна: можна, можна пры жаданні знайсці эпізод, дзе прыстасавана нават не нота — слова, якога няма ні ў першым ні ў другім варыянце твора Шастаковіча. Але галоўнае зусім не ў гэтым. Параўнальны аналіз рэдакцый упэўніў мяне, што музычны кіраўнік пастаноўкі Анісімаў змешваў іх не дзеля летуценных фантазій ці лаўровага вянка пераможцы-першаадкрывальніка. Ім рухала цікавасць даследчыка, жаданне разгадаць загадку, якую кампазітар панёс з сабой.

Што ж у выніку атрымалася? Усе запэўніванні, што ў аснове ляжыць першая рэдакцыя — не болей, чым завоблачная мара. Ці добра адпрацаваная рэклама. У аснове музычнай драматургіі (хто не верыць, хай праверыць) — менавіта позняя аўтарская версія. Як чулы музыкант, Анісімаў не змог адмовіцца (і дзякуй Богу!) ні ад новых сімфанічных антрактаў, ні ад больш рэльефнай аркестравай характарыстыкі Барыса Цімафеевіча, ні ад дробных інтанацыйных паправак, удакладнення фразіроўкі і г. д. Але ён слушна ігнараваў тыя змены, што датычыліся неапраўданага спрошчвання партый — асабліва ў сэнсе звужвання вакальных дыяпазонаў. І такое ўмяшанне ў канчатковую аўтарскую волю, занатаваную 2-ой рэдакцыяй, не можа лічыцца «злачынствам стагоддзя»: сам Шастаковіч у некаторых эпізодах пакідаў вакалістам права выбару, выпісваючы два розныя варыянты партыі. А калі здымаўся на аснове оперы фільм з удзелам Галіны Вішнеўскай, дык, паводле яе ж успамінаў, кампазітар выпісваў ёй фразы з першай рэдакцыі. Ну як не ўбачыць у дырыжоры Анісімаве даследчыка, калі ён рупліва і пільна класіфікаваў усе аўтарскія змены: пакінуў

схіляюцца да думкі, што аўтары зафіксавалі абрады, рытуалы, якія дзеіліся перад камерай... самі па сабе! Спецыфіка ж цыкла — у надзвычайным майстэрстве аўтара-этнамузыколага, у ягоным мастацтве. Як выбраць найбольш таленавітых народных мастакоў? Як па-добраму «справакаваць» іх на раскрыццё, поўнае самавыяўленне падчас здымак? Як зняць стыхію жыцця, гэтыя цудоўныя абрады, гэтыя народныя святы, каб не перашкодзіць людзям спяваць і танцаваць «для сябе», а не «для камеры»? Цяжка пераацаніць ролю спецыяліста-этнамузыколага. Ён не толькі вызначае вартасці народнага меласу як вучоны-музыказнаўца, але і ведае псіхалогію сваіх герояў (бо ён народазнаўца, прадстаўнік «культурнай антрапалогіі»).

Аўтар-этнамузыколаг — цэнтральная фігура на здымках фільма. Гэтаму садзейнічае тое, што З. Мажэйка, па сутнасці, працуе над фільмамі задоўга да здымак, адбіраючы сваіх герояў. У час кінаэкспедыцый аўтар-этнамузыколаг таксама знаходзіцца ў пастаянным кантакце з імі, заахвочвае, падтрымлівае любоўю, энергіяй, тэмпераментам. Таму гэтыя фільмы — не музейныя экспанаты. І разам з тым яны не пазбаўлены дакладнага навуковага аналізу.

З. Мажэйка — незвычайная асоба. Яна спалучае высокую эмацыйнасць з вясёлым і жвавым «авантурызмам» характару; уваходзіць, як свая, у хаду музычна-фальклорнага абраду, і разам з тым — трымае пэўную дыстанцыю для яго навуковага асэнсавання. Мастак і даследчык шчасліва спалучаны ў асобе З. Мажэйкі.

Часам высокія кінематаграфічныя ўзнагароды, напрыклад, «Оскары», даюцца за ўсю творчасць непаўторнага мастака. Ці не такі самы выпадак з Зінаідай Мажэйкай? Яна развіла ў беларускім кіно новую галіну — аўдыёвізуальнай антрапалогіі. Культура народа пры гэтым фіксуецца на экране як жывая з'ява музычнага народнага мастацтва і самога жыцця, у спалучэнні архаічнага, кананічнага і сучаснага. Менавіта таму гэты цыкл увайшоў у каштоўны фонд і нашай музычнай, этнаграфічнай культуры, і нашай мастацкай экраннай культуры. Яго, на маю думку, трэба было б увесці ў вучэбныя праграмы розных навучальных устаноў Беларусі.

Першы фільм цыкла — «Палескія калядкі» — асабліва мажорны і светлы, амаль па-дзіцячаму непасрэдны і кранальны. Ён быў зняты падчас калядных свят у легендарных ужо палескіх вёсках Тонеж, Моталь, Клятная, Тышкавічы. Асноўная яго танальнасць — радасць жыцця, прыгажосць прыроды і чалавечых твараў, пастаў, народнай вопраткі, звычаяў, абрадаў. Фільм набывае асаблівую каштоўнасць як пэўны эталон жыццесцвярджальнага настрою, як экранны партрэт прыгажосці народа і яго музычных спеваў, абрадаў. «Кацюхна ў маткі», што сваёй прыгажосцю ўвесь двор красіла, а калі ў хату ўвайшла — паны ўставалі, шапкі здымалі — гэта і песенны вобраз і рэальная маладая беларуская жанчына, якую мы бачым на экране. Самае вясёлае, карнавальнае свята ў годзе — калядкі — паказаны ў фільме як праява жыццёвай сілы народа, што жыве ў сугучнасці з рытмамі прыроды.

Калі фільм «Палескія калядкі» паказвае адно са свят каляндарна-абрадавага кола, звязанага з біярытмамі прыроды, дык фільм «Палескія вяселлі» заснаваны на сямейна-радзіннай паэзіі. Галоўная тэма тут — чалавек і род, чалавек у цыклах, біярытмах свайго жыцця. Кульмінацыя гэтага жыцця — вяселле, момант, калі аб'ядноўваюцца два чалавекі і два роды. Цэнтральны вобраз фільма, вобраз сонечны і зямны — каравай. Хлеб, агонь, абрадавая песня — вобразы-лейтматывы фільма. Пяць натуральных вяселляў, знятых на Палессі, аўтары аб'ядналі ў адно прыгожае, поўнае ўзнёсласці і гумару відовішча. Скразны лірычны лейтматыў — песня-жальба нявесты: «Ой, я плачу, вы не чуеце за скрыпкамі ды бубнамі».

Фільмы «Галасы вякоў» і «Памяць стагоддзяў» ствараюць у цыкле пэўны «дуэт», бо яны пашыраюць геаграфію дзеяння, ахопліваюць розныя пpастopавыя арэалы Беларусі. Аб'ядноўваюць гэтыя дзве стужкі і маштабы аўтарскага мыслення — тут вымярэнне часу ідзе на стагоддзі. Вёскі Паазер'я, Палесся, Магілёўшчыны зняты ў час святкавання ўсяго каляндарна-земляробчага цыкла. Вось масленічныя гулянні, вось рытуальнае заклікание вясны, вось дзяўчына-«куст» — красуня, упрыгожаная галінкамі і кветкамі, песенныя карагоды дзяўчат. Вось летнія купальскія ночы, поўныя цудаў. Вось «добрыя» і «злыя» істоты ў прыродзе, жартаўлівыя расказы пра вядзьмарак, пра «купалку», што «ажанілася з чортам».

У гэтых фільмах паняцці «род», «народ» спалучаны з паняццямі «чалавек», «народны талент». Памяць стагоддзяў народ нясе сёння праз канкрэтных мастакоў-самародкаў, што збіраюцца ў «гурты», спяваюць «для сябе». Адметныя майстры галасных спеваў спяваюць на вольным паветры, на шырокай прасторы. Гэта леснікі, пастухі, раней — плытагоны, жнеі. Для З. Мажэйкі фальклор — ананімны, і не ананімны. Як музыказнаўца з асабліва тонкім слыхам, яна ацэньвае талент незвычайных, выдатных спевакоў, такіх, напрыклад, як Сцяпан Дубейка, Ганна Вянгура. Спаборніцтва на кірмашах розных музыкантаў паказана ў фільмах без усялякага афіцыйнага журы. Гэта праява высокай патрабавальнасці музыкі да сябе. Тут ёсць і схаваная творчая рэўнасць, жаданне быць прызнаным першым.

Апошнія два фільмы цыкла — «Пранясі, Божа, хмару» і «Крывыя вечары» пераносяць нас з «памяці стагоддзяў» у наша сённяшняе, сучаснае. Музычны фальклор не толькі генетычна кадзіруе мастацкі вопыт народа, але і развіваецца ў кантэксце падзей сённяшняга жыцця. Фільм «Пранясі, Божа, хмару» трагічны па танальнасці: Чарнобыль наслаў чорную хмару і на зямлю Беларусі, і на музычны фальклор народа. На нашых вачах у фільме нараджаецца жаласны плач-прычэт. Жанчына аплаквае сваю зямельку, якая чарным-чарна, дзе зязюлі не куваюць, салавейка не спявае, дзе песень не чутно.

Згубіць песню — згубіць душу. І народ спявае, смяецца (хай часта гэта смех скрозь слёзы). Фільм «Крывыя вечары» — апошні (пакуль што) фільм цыкла — пра энергію жыццялюбства народа, які не траціць здольнасці смяяцца і спяваць, перамагаючы беды. Гумар, смех — праява народнай энергіі, надзеі на лепшае. Сама назва карціны «Крывыя вечары» гаворыць аб трагіфарсавай танальнасці фільма. Народная «смехавая культура» праяўляецца ў гэтых «крывых вечарах» з іх амбівалентнасцю, жартамі, розыгрышамі, барацьбой дабра і зла ў мастацкай форме. Карнавальная «жаніцьба Цярэшкі», жартаўлівыя расказы і пра «ліха нядобрае», і пра сучасных дэпутатаў, і пра мужыка, якога «сам чорт не бярэ», бо ён «несалёную капусту жарэ» — усе гэта жывы водгук на наша сёння.

Смехавая культура народа — жывы струмень, сродак для выхаду з крызісу, для пераходу ў новую якасць. Народ, які смяецца ў горкую хвіліну, у самыя «крывыя вечары» здольны дапамагчы дабру. «Ліха-нядобрае, разагнісь!» — гэтыя словы з «Крывых вечароў» — бы ключ да сённяшніх дзён і да спадзяванняў на заўтра.

Танальнасць фільмаў цыкла мяняецца разам са зменамі ў нашым жыцці. Гэты цыкл музычна-этнаграфічных фільмаў — бы жывое дрэва мастацтва, што расце на нашых вачах...

**Вольгай НЯЧАЙ**

---

творчыя знаходкі і адмовіўся ад паправак іншага характару.

Што ж засталося ў спектаклі ад ранняй рэдакцыі? Першае, што кідаецца ў вочы, — сюжэтная канва 3-яй карціны. Ці ж маглі пастаноўшчыкі не выкарыстаць эратычную сцэну, якой можна прывабіць гледача! Цікава, што нават у гэтым выпадку простай арыентацыі на першапачатковы варыянт, Анісімаў захоўвае музычнае вырашэнне 2-ой рэдакцыі. Гэта яшчэ адзін доказ на карысць таго, што ў позняй версіі Шастаковіч ні ад чаго прынцыпова не адмовіўся — ён проста перавёў гэта (у тым ліку й эротыку) на музычную мову.

Што датычыцца непасрэдна лібрэта — тут патрэбны асобны каментарый, які мне так і карцела, крыху гіпербалізуючы, назваць

## ПРА МАТ

Толькі ўжо без выратавальнай кропкі скарачэння ў канцы. Сапраўды, у 2-ой рэдакцыі тэкст старанна «прычасаны», з яго выскублі ўсе больш ці менш грубыя словы. І пакінулі толькі высакародныя, добрапрыстойныя, дастойныя савецкага чалавека выразы. Зразумела, пастаноўшчыкі не маглі з гэтым пагадзіцца. Яны парушылі кніжную мову герояў, наблізілі яе, згодна з ранняй версіяй, да рэчаіснасці. Параўнайце, дзе прагучыць больш выразна — нават у сэнсе дыкцыі:

«Муравей таскает соломинку, корова дает молоко, батраки крупчатку ссыпают, только мне одной делать нечего». (1-ая рэд.) — і гэта: «Воздух на дворе весенний. Природа кругом расцвела. Всех людей весна оживила. Только мне одной делать нечего». (2-ая рэд.)

Што ж да «сенсацыйнага» пастаноўчага свавольства — з'яўляецца ў свёкра перад смерцю адно моцнае слоўца ў адрас Кацярыны. Дык з кім не бывае! Асабліва калі вельмі ўжо хочацца спадабацца гледачам. А ці спадабалася б Шастаковічу? Не ведаю. Толькі мне падаецца, што прынцыповы кірунак, які ён абраў пры ўвогуле вельмі сціплым, амаль «касметычным» рэдагаванні, — гэта ўзмацненне сімфанічнага боку оперы. І адмаўленне ад усяго, што можа хоць неяк адцягнуць ад музыкі ўвагу.

У спектаклі ДАВТа кірунак іншы — узмацніць як мага больш відовішчны момант. Але гэта ўжо — наступны каментарый, у якім размова пойдзе пра недахопы пастаноўкі. Іншымі словамі,

## ПРА MISS І MIS-

Miss у перакладзе з англійскай — брак, адсутнасць чаго-небудзь. Але, калі шчыра, дык у адносінах да рэжысуры і сцэнаграфіі «Лэдзі Макбет» трэба гаварыць не столькі пра адсутнасць, колькі пра занадта ўжо надакучлівую іх прысутнасць. Асабліва на пачатку оперы.

Павольна плыве заслона, пачынае гучаць першая арыя Кацярыны, але саму гераіню не адразу і заўважаеш: па сцэне рухаюцца артысты, скачуць дзеці. Міжволі пачынаеш разглядаць мноства бытавых дробязей жыцця купецкай сям'і — і амаль не чуеш музыкі.

Напэўна, гэта заўважыла і рэжысёр М. Ізворска-Елізар'ева: на трэцім спектаклі было куды меней мітусні на сцэне. Але ж сутнасць прыёму не змянілася! Супярэчнасць паміж «зрокавым» і «слыхавым» засталася.

Адпаведна тэорыі рашэння вынаходніцкіх задач, асноўнымі прынцыпамі вырашэння супярэчнасцей з'яўляюцца раздзяленне іх у прасторы і часе. Так, у прасторы відовішча і гук раздзелены: Кацярына знаходзіцца на другім паверсе сцэнічнай канструкцыі, работнікі — на першым. Але гэта мала што дае. Можа, паспрабаваць раздзяліць іх у часе?

І тады замест звычайнай уверцюры, калі аркестр дае эмацыянальную настройку гледачу пры закрытай заслоне (дарэчы, такой уверцюры ў «Лэдзі Макбет» няма), паспрабаваць зрабіць нешта накшталт «відэа-уверцюры»? Уявіце, ніводнага гуку — толькі рухі на сцэне, на ніжнім паверсе (верхняга пакуль не відаць). Раптам усё замірае, нібыта ў прыпыненай кінастужцы, гасне святло — і ўсё пачынаецца нанова: ізноў тыя ж хатнія клопаты, якія цякуць побач з Кацярынай, але яе не закранаюць. Сцэнічны паўтор малюе штодзённае жыццё сядзібы — і адначасова робіць відавочнай нуду, самоту маладой кабеты, прымушае гледача апынуцца ў адным з ёй эмацыянальным стане: кожны дзень адно і тое ж. Да таго ж, глядач, што прыйшоў на оперу, чакае музыкі. Збянтэжаны яе адсутнасцю, усё болей яе прагне. Таму, калі яна, нарэшце, загучыць, ён не проста яе пачуе, а будзе ў яе ўслухоўвацца. Гэтаму можа добра дапамагчы і тэатральнае асвятленне: на працягу арыі паглыблены ў цемру ніжні паверх і крыху асветлены верхні, з Кацярынай у цэнтры ўвагі. Толькі потым, спакваля, калі Кацярына пераходзіць да люстэрка, стала і буфета, можна прадэманстраваць і багатае «мэблевае асяроддзе» Ізмайлавых. Аднак, вернемся ў рэальны спектакль. Сцэнічная канструкцыя, якая ўяўляе сабой купецкі дом «у разрэзе», а ў апошняй дзеі ператвараецца ў паром, што перавозіць катаржнікаў, — цудоўная знаходка мастака В. Окунева. Але можна было б яшчэ болей абыграць саму ідэю двухпавярховасці, больш відавочна пераключаючы дзеянне з аднай пляцоўкі на другую. І такая спроба ўзнікла на трэцім спектаклі, калі 2-ая карціна II дзеі (Кацярына з Сяргеем, потым Задрыпаны Мужычок перад склепам) ішла пры напалову ўзнятай заслоне і быў бачны толькі ніжні паверх.

Далейшай распрацоўкі вымагае светлавая партытура. На мой погляд, да інтымных сцэн пасуе і больш інтымнае асвятленне — ажно да момантаў поўнага выключэння святла. Калі гэтага не адбываецца, усе дзеянні герояў прачытваюцца не па-тэатральнаму натуралістычна. Адпаведна «прачытваецца» і сцэнічны час. Пры адсутнасці антракту паміж 3-яй і 4-ай карцінамі, як гэта прадугледжвалася Шастаковічам, па зале ляціць зласлівы шэпт: маўляў, нешта мала яны там «каханнем займаліся» — толькі дзесяць тактаў.

Не зусім спраўджанымі мне падаліся элементы стылістыкі прымітывізму ў мастацкім вырашэнні заслоны. Увасабленне віру, у які ляціць Кацярына (больш дакладна, дзве Кацярыны: адна па-анёльску залатая, другая па-д'ябальску чорная), дзяленне свету на святло і цемру, — усё гэта ўздзейнічае вокамгненна. Але ж занадта ўжо адкрыта, прасталінейна, амаль як у дыдактычна-маралізуючай гісторыі для дзяцей. Другая заслона, на якой адлюстравана ноч над вясковымі хатамі, і зусім, як гаворыцца, нібыта з іншай оперы — хутчэй паводле Гогаля. Невыпадкова на трэцім спектаклі яна была аднойчы заменена «вірам» — напрыканцы І дзеі: пасля смерці Барыса Цімафеевіча, падчас гучання славутай пасакаліі.

Не вельмі ўражвае мяне і «русалчы матыў» у афармленні сцэны — з катамі-скарбонкамі і аляпаватымі кветкамі. Магчыма, гэта намёк на купецка-мяшчанскую безгустоўнасць, але ўсе гэтыя атрыбуты ганьбаванага Маякоўскім побыту з'явяцца значна пазней за Ляскова. Ёсць і іншыя недарэчныя дэталі — накшталт, прабачце, тых курэй, што ўсё сядзяць ды сядзяць спакойна на сваіх жэрдачках: і ў сцэне здзекаў з Аксінні, і ў эпізодзе лупцоўкі Сяргея. Калі нельга іх адтуль зняць, дык навошта яны зусім? Яны ж не прэтэндуюць на «вечны сімвал»?

Згаджуся, усё гэта крышачку дробязі, якія не могуць канчаткова сапсаваць агульнае ўражанне ад спектакля. Але ў той жа англійскай мове, калі miss-адсутнасць, згубіўшы апошнюю літару, далучаецца да нейкага слова, яна ператвараецца ў чарадзея-прэфікса і надае ўсяму слову супрацьлеглы сэнс. Згуртаваўшыся, маленечкія miss-хібы, miss-асечкі спектакля таксама рызыкуюць прыклеіцца да яго назаўсёды. А так хацелася б верыць у адваротнае!

На жаль, на ўсіх прэм'ерных паказах і абодвух прагонах оперы я так і не пачула сапраўднай, Шастаковічавай Пасакаліі. Гэта тым больш прыкра, што ўражаннем менавіта ад гэтай музыкі завяршаецца ў нашым тэатры І дзея. Не, аркестр не фальшывіць, гучыць досыць годна. У кульмінацыі, як і патрэбна, набірае гучнасць і моц. Ды толькі некуды знікае адчуванне няўмольнага паступу, як гэта задумана кампазітарам. З цэнтра музычнай драматургіі Пасакалія ператвараецца проста ў нейкае дапаўненне напрыканцы. Можа, віной таму больш хуткі, чым звычайна, тэмп? Ці перашкаджаюць постаці музыкаў-прывідаў, вестуноў Страшнага Суда?

Кагосьці іх з'яўленне абурае, кагосьці ўражвае: нарэшце, і ў нашым тэатры авангард! Нехта сумна пазяхае: маўляў, такое я ўжо бачыў — толькі ў іншых спектаклях, у іншых тэатрах. Што да мяне, дык я шчыра ўдзячная пастаноўшчыкам за гэтыя чорныя постаці з дзікавата-белымі галовамі і бліскучай меддзю духавых. Каб не яны, уся музычная грамадскасць наўрад ці ўтаропілася б у партытуру: а ці ёсць сцэнічная «банда» ў Шастаковіча? Дакладваю: ёсць, але знаходзіцца ў аркестравай яме. І склад яе крыху іншы. Пастаноўшчыкі не проста вывелі музыкантаў на сцэну, яны ператварылі іх у дзейных асоб спектакля, якія чым далей, тым больш вольна адчуваюць сябе побач з рэальнымі персанажамі, пра якіх, нарэшце, таксама прыйшоў час пагаварыць. Такім чынам,

## ПРА МІС

Прабачце, місіс. Ці, больш дакладна, лэдзі — пра Кацярыну і яе асяроддзе.

Першыя два спектаклі зрабілі ўражанне, што акцёрскаму ансамблю не хапае цэнтра, што выканаўцы невялічкіх роляў перасягаюць галоўных герояў у распрацаванасці вобразаў, псіхалагічнай дакладнасці, інтанацыйнай адточанасці вакалу. Яркія, запамінальныя характары стварылі ў спектаклі Н. Галеева, В. Кавальчук, А. Мельнікаў, Л. Крывёнак, А. Гардынец — спіс гэты можна працягваць, бо абсалютна ўсе выканаўцы ставяцца да сваіх роляў з вялікай творчай самаадданасцю.

У партыі Кацярыны на двух прэм'ерных паказах была Н. Залатарова — спявачка, якой у любых ролях уласціва стрыманасць пачуццяў, далікатнасць паводзін, высокая культура выканання і асаблівы дух інтэлігентнасці. Зразумела, яе Кацярына не будзе дэманстратыўна лузгаць семкі ці паплёўваць на падлогу — яна куды болей, чым гэта ёсць нават у Шастаковіча, нагадвала крыху халаднаваты «прамень святла ў цёмным царстве». У процілегласць ёй, У. Экнадзіёсаў шчыра маляваў свайго Сяргея гэткім звышпалымяным д'яблам-спакуснікам — нават прымусіў групу гледачоў-іншаземцаў здзіўлена цокаць языкамі, паўтараючы: «Рашэн сэкс». Артыст А. Тузлукоў глядзеўся ў гэтай ролі ніякавата, хоць і спяваў інтанацыйна больш дакладна.

Ад трэцяга паказу оперы, які адбыўся праз чатыры (!) месяцы пасля першых двух, я не чакала нічога асаблівага. Больш за гэта, хвалявалася, ці не страцілі выканаўцы за такі працяглы час знойдзенае раней. Пасля ж спектакля мне было шкада тых, хто яго не ўбачыў, а меркаваў пра пастаноўку паводле ўражанняў ад ранейшых праглядаў. Бо менавіта на гэты раз у спектаклі з'явіліся сапраўдныя Кацярына і Сяргей. У сакавіку Т. Цівунова мела толькі адзін з адкрытых прагонаў (разам з У. Экнадзіёсавым) і ўжо тады звярнула на сябе ўвагу. І вось — у яе атрымаўся цудоўны па ўзаемаразуменні ансамбль з А. Тузлуковым, паглыбіліся трагедыйныя рысы, з'явілася больш устойлівасці ў інтанацыйнай сферы. А. Тузлукова ж і зусім было не пазнаць! Калі раней у мяне нават узнікала думка, што гэтая партыя ўсё ж не для яго, спрактыкаванага на ролях «пяшчотных прынцаў», дык цяпер складалася іншае ўражанне: нібыта роля Сяргея спецыяльна для гэтага артыста пісалася. Колькі з'явілася тонкіх псіхалагічных градацый, інтанацыйных нюансаў, дэталёвай прадуманасці ў кожным руху, позірку, колькі непадробленага артыстызму! Узрасло майстэрства Г. Чэпікава ў выкананні найскладанай партыі Задрыпанага Мужычонкі. Цудоўна раскрыўся талент А. Кеды (у сакавіку ягоны Барыс Цімафеевіч у сцэне смерці крыху нагадваў Барыса Гадунова).

Адно псавала настрой: ці не стане чарговы спектакль апошнім? Бо ў кулуарах лёталі чуткі, нібыта спектакль збіраюцца зняць на тэлебачанні — і... зняць з рэпертуару. Я разумею хваляванне артыстаў: падобныя выпадкі ўжо былі. Ці не стане гэта знццё яшчэ адным кампрамісам на шляху геніяльнай оперы сучаснасці да гледача?

Калі шчыра, дык уся цяперашняя пастаноўка «Кацярыны» ўяўляецца мне таксама своеасаблівым кампрамісам — дзіцём жадання дагадзіць усім: і меламанам, і «не вельмі». У ёй нібы сутыкнуліся адразу некалькі розных прачытанняў, ніводнае з якіх не прэтэндуе на зззяючую бляскам дасканаласць. Што ж, гэта толькі першы, які ніяк не назавеш няўдалым, крок. Спроба і артыстаў і, асабліва, гледачоў дарасці да Шастаковіча. Да ягонай музыкі, а не толькі да разглядання шыкоўнага ложка ў доме Ізмайлавых. Дарасцём?..

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

***«ЛіМ» неаднаразова пісаў пра лёс царкоўнай уніі на Беларусі. Аўтары выказвалі самыя розныя — часам супрацьлеглыя — погляды на яе сутнасць і ролю ў станаўленні нацыі. Усе акцэнты, а тым больш кропкі над і расставіць, бадай, немагчыма. І артыкул Уладзіміра Кароткага — толькі працягам гаворкі, на сёння, бадай, і актуальнай, і карыснай у сэнсе высвятлення ісціны.***

# «УСТОЙЛІВАСЦЬ АЙЧЫНЫ... ЗАСНОЎВАЕМ НА ЦЭЛАСНАСЦІ АДЗІНАЙ РЭЛІГІІ»

## УНІЯ. АД ПЯТРА СКАРГІ ДА МЯЛЕЦІЯ СМАТРЫЦКАГА

Уладзімір КАРОТКІ

Амаль 400 гадоў аддзяляе нас ад падзеі, якая пасля хрышчэння Русі стала своеасаблівым рубяжом у гісторыі ўсходнеславянскіх народаў, і найперш — народаў Беларусі і Украіны — Брэсцкая царкоўная унія 1596 года. Усялякая унія, саюз толькі ў ідэале маюць на ўвазе адзінства народаў, нацый, дзяржаў, рэлігій. На самой жа справе працэс аб'яднання куды больш складаны, які вельмі часта параджае супрацьпастаўленне: непрыняцце, а часам і доўгатэрміновую канфрантацыю ў грамадскім жыцці. У такой сітуацыі непазбежна раздваенне ў сферы ідэй, рознае разуменне і ацэнкі старога і новага, мінулага і сучаснасці, а таксама ўяўленне пра будучае. Двайніцтва становіцца эпахальнаю рысаю, і, як правіла, раздваенне пачынаецца зверху. Родавае, сямейнае, культурнае раздваенне, на полюсах якога праведнік і адшчапенец, у плане стваральнага мае на ўвазе пошукі «залатой сярэдзіны», гармоніі.

У сувязі з гэтым узнікае праблема кампрамісных рашэнняў, ад якіх у немалой ступені залежаць сацыяльныя гарантыі, прававая абарона. Адшчапенец, у сілу сваёй прыналежнасці да апазіцыі, усяго гэтага мець не можа, ён — ізгой. Такім чынам, адшчапенец набывае якасць грамадскай з'явы. З пункту гледжання афіцыйнага (дзяржаўнага ці рэлігійнага) ён — адступнік, яго ідэі шкодныя для грамадства, таму заслугоўваюць публічнага асуджэння, а ён сам — праследавання ці выгнання.

Для талерантнага ў многіх адносінах Вялікага княства Літоўскага сама ідэя праследавання ў агульнадзяржаўным маштабе была новаю, а таму ў XVI—XVII ст.не мела выразнага механізма яе ўвасаблення.

Паколькі Вялікае княства Літоўскае, у склад якога ўваходзіла тагачасная Беларусь, знаходзілася паміж Польскай каронай і Маскоўскім царствам, то яно непазбежна адчувала на сабе ўздзеянне дзвюх рознаарыентаваных культур. Разам з тым, дзеячы Вялікага княства Літоўскага мелі цесныя сувязі з многімі краінамі заходняй Еўропы — Італіяй, Германіяй, Швейцарыяй, Францыяй, Іспаніяй. Такім чынам, Вялікае княства Літоўскае не было пабочным назіральнікам падзей, што адбываліся ў Еўропе, а некаторыя з іх аказалі прамое ўздзеянне на нашу дзяржаву.

Такою неардынарнаю падзеяю XVI ст. быў Трыдэнцкі сабор (1543—1563), скліканы па настаянні многіх прэлатаў і імператара Карла V. Каталіцызм не мог змірыцца са стратаю свайго ўплыву ў Германіі, Швейцарыі, Галандыі, Англіі і іншых дзяржавах. Контррэфармацыя стала непазбежнаю рэакцыяй на нацыянальна-рэлігійны рух — Рэфармацыю. Больш таго, з сярэдзіны XVI ст. місіянерскія погляды Рыма пераарыентоўваюцца на Усход, і перш за ўсё на Вялікае княства Літоўскае і на Маскву.

Рэч Паспалітая адна з першых краін Еўропы прызнала пастановы Трыдэнцкага сабору (1577), адкрыўшы тым самым прамы доступ каталіцкім эмісарам у дзяржаву для барацьбы з Рэфармацыяй. У 1564 г. езуіты з'явіліся ў Каронных землях, а ў 1570-ым — у Вільні, адразу ж пасля Люблінскай дзяржаўнай уніі 1569 г. Нагадаем і такі факт: у 70-80 гг. XVI ст. папскія паслы ад імя Грыгорыя XIII і Клемента VIII накіроўваліся і ў Маскоўскую дзяржаву з місіянерскімі мэтамі да Івана IV і Фёдара Іаанавіча. Як вядома, гэтыя місіі былі безвыніковымі.

У Вялікім княстве Літоўскім, наадварот, езуіты праніклі ва ўсе важнейшыя сферы духоўнага жыцця. Не прайшло і дзесяці гадоў з моманту іх з'яўлення ў Вільні, як адкрылася Віленская езуіцкая калегія, пазней акадэмія (1578) — першая вышэйшая навучальная ўстанова на тэрыторыі нашай дзяржавы. Хутка езуіцкія калегіі адкрыліся ў Полацку (1580) і ў Нясвіжы (1584). Полацкая езуіцкая калегія была заснавана Пятром Скаргаю, а Нясвіжская — Мікалаем Радзівілам Сіроткаю. У першай палове XVII ст. езуіцкія калегіі адкрыліся ў Гродне, Оршы, Бабруйску, Пінску, Віцебску і інш. Рым разумеў, што без сцвярджэння ідэй уніі ў Вялікім княстве Літоўскім не можа быць і гаворкі пра рэлігійнае адзінства з Масквою.

Выйшаўшая да Люблінскай дзяржаўнай уніі брашура Бенядзікта Гербеста «Указанне дарогі» (Кракаў, 1566), у якой сцвярджалася неабходнасць аб'яднання веравызнанняў, не атрымала шырокага рэзанансу ў Вялікім княстве Літоўскім. Аднак з'яўленне даволі аб'ёмнай кнігі Пятра Скаргі «Пра еднасць касцёла божага пад адным пастырам і пра грэчаскае ад таго адзінства адступленне» (1577, 1590), прысвечанай буйному магнату Канстанціну Астрожскаму, была ўспрынята праваслаўем як непасрэднае пасягальніцтва на веру, на самабытнасць беларускага і ўкраінскага народаў.

З Люблінскай дзяржаўнай уніяй паўстала праблема не толькі дзяржаўнага аб'яднання, але і рэлігійнага. Рэч Паспалітая як дзяржаўнае ўтварэнне паставіла задачу гармоніі палітычнай і канфесійнай. Вось чаму ў сваёй кнізе Пётр Скарга імкнецца прыстасаваць рашэнні Трыдэнцкага сабору да палітычнай сітуацыі ў дзяржаве. Трыдэнцкі сабор, па сутнасці, разбурыў імкненні і надзеі папства на ўсясветнае кіраванне, і на першы план становіцца праблема духоўнага падначалення каталіцкіх і некаталіцкіх дзяржаў Рыму. У духу Трыдэнцкіх пастаноў Пётр Скарга сцвярджае: «Не павінны хрысціянскія каралі і іншыя дзяржавы мець над сабою аднаго цэзара і аддаваць яму свецкую паслухмянасць і аднолькава кіраваць сваёй дзяржавай, але аднолькава верыць, аднаго найвышэйшага духоўнага пастыра мець і быць у касцёльным адзінстве — гэта ўсе павінны і без гэтага ніхто не будзе мець выратавання». Такое разуменне рэлігійна-палітычнай сітуацыі ў дзяржаве ішло насуперак склаўшымся традыцыям талерантнасці ў Вялікім княстве Літоўскім. У 5 раздзеле I часткі кнігі Скаргі так і адзначаецца: «Касцёл святы справядлівы — адзін, а не два і не тры». У гэтым раздзеле Пётр Скарга адвяргае самую ідэю існавання (у дадзеным выпадку ў Вільні) на раўнапраўных пачатках каталіцкіх касцёлаў, цвінгліянскіх, лютаранскіх, кальвінісцкіх збораў і рускіх або грэцкіх цэркваў. Несумненна, каталіцкая вера не была чужою частцы беларусаў, аднак тут вымалёўваецца праблема іншага плану — гаворка ідзе пра насаджэнне не толькі адзінай веры, але і культуры ў цэлым. Сама па сабе прагрэсіўная на той час ідэя моцнай манархічнай улады пад прызмай адзінавер'я ператваралася ў бесперспектыўны план рэалізацыі гэтай ідэі. Канвергенцыя дзвюх традыцый на нераўнапраўных асновах, вядома ж, не магла прынесці плёну. Больш таго, «выкрываючы» схізматычнасць праваслаўнага веравызнання ў Рэчы Паспалітай, Пётр Скарга закранае пытанні, якія выходзяць далёка за рамкі палітычна-тэалагічных спрэчак. Сама прыналежнасць да праваслаўнай веры, з пункту гледжання вучонага-езуіта, лічыцца адзнакай некультурнасці. З каталіцкай верай, з польскай і лацінскай мовамі Скарга звязвае паняцце культурнасці, адукаванасці. Так, ён сцвярджае: «Бо былі толькі дзве мовы — грэчаская і лацінская, дзякуючы якім святая вера па ўсім свеце распаўсюджана і прывіта, акрамя якіх ніхто ні ў воднай навуцы, а асабліва ў духоўнай, у святой веры дасканалым быць не можа... І не было яшчэ ў свеце і не будзе ні адной акадэміі, ні адной калегіі, дзе б тэалогія, філасофія і іншыя свабодныя навукі вывучаліся б на іншай мове і былі зразумелымі. Ніхто і нідзе той, хто карыстаецца славянскаю моваю, вучоным быць не можа. І ўжо цяпер яе ў дасканаласці ніхто не разумее. Бо няма на свеце нацыі, якая б на ёй так гаварыла, як у кнігах сказана, а сваіх правілаў, граматык і калепінаў для тлумачэння таксама не мае і ў хуткім часе мець не можа. І адсюль папы вашы, калі штонебудзь на славянскай мове хочуць зразумець, да польскай павінны звяртацца за тлумачэннем... І іншай, відаць, школы для чытання ў іх няма. І гэта ўся ў іх навуцы дасканаласць на ўсе духоўныя званні! Адсюль без канца ўзнікаюць памылкі і аблуды, калі сляпыя сляпых водзяць».

Аднак для сярэдніх і ніжэйшых слаёў насельніцтва Вялікага княства Літоўскага вера бацькоў з'яўлялася іх жыццём (мова, быт і інш. субстанцыі). Народ, як вядома, не прызнае ніякіх кампрамісаў, калі справа датычыцца ўстояў яго жыцця, традыцый, веры. Вера для іх становіцца сімвалам народнасці. У перыяд Контррэфармацыі гуманістычнае разуменне еднасці народа «па крыві», як разумеў яе, скажам, М. Сматрыцкі, траціць сваю сілу. Вядомы тэзіс Сматрыцкага: «Не вера, бо, русіна русінам, паляка палякам, ліцвіна ліцвінам робіць, але нараджэнне і кроў руская, польская і літоўская» — кануў у вечнасць. Вераю вызначалася нацыя, паводле веры — культура.

Для Пятра Скаргі праблема адзінства выступае ў іншым ракурсе. Некатолікі падзяляюцца на дзве катэгорыі — схізматыкаў і ерэтыкоў. На яго думку, схізматыкі маюць з католікамі-хрысціянамі адзіную веру, але не прызнаюць архіпастыра і адзінства ў паслушэнстве. У сувязі з гэтым Пётр Скарга робіць вывад: «А таму кожны ерэтык з'яўляецца адшчапенцам, бо ад еднасці і ад галавы адшчапляецца. Але не кожны адшчапенец — ерэтык: бо добрай каталіцкай верай, акрамя ўсяго, надзею выратавання (паколькі акрамя касцёльнага адзінства няма выратавання) можа мець».

Такое разуменне схізматызму і ерэтызму перспектывы яднання толькі з адной часткаю «адступнікаў» — праваслаўнымі схізматыкамі. Пётр Скарга вельмі тонка падыходзіць да гэтага пытання: прычыну схізмы ён бачыць у тым, што праваслаўныя беларусы і ўкраінцы знаходзяцца ў духоўнай залежнасці ад канстанцінопальскага патрыярха, «бо Грэчаскі касцёл ніколі не быў роўны Рымскаму». Такім чынам, на першы план высоўваецца ідэя неабходнасці разрыву з Канстанцінопалем і падпарадкаванню Рыму — гэта неабходная ўмова выратавання. Пётр Скарга падрабязна разглядае чатыры прычыны «адступніцтва» Канстанцінопаля ад Рыма, першая і галоўная з якіх — імкненне Канстанцінопальскіх патрыярхаў стаць на чале ўсёй свецкай дзяржавы з падначаленнем ёй усходніх патрыярхій — Александрыйскай, Антыахійскай, Ерусалімскай і інш. Тут жа езуіт прыводзіць і сведчанне, што да 858 г. ні адзін Канстанцінопальскі патрыярх не пасвячаўся без падцвярджэння папы.

На думку Пятра Скаргі, іерархія касцёльнай улады на зямлі будуецца па ўзоры касцёла нябеснага. Вось чаму намеснік Бога на зямлі можа быць толькі адзін — відавочна Рымскі папа з падпарадкаваннем яму іншых біскупстваў і патрыярхій. Свецкая ўлада мае іншую прыроду — кожны народ у ідэале павінен падпарадкоўвацца свайму манарху, а ад сілы яго ўлады залежыць парадак у дзяржаве. Вера, на думку Пятра Скаргі, якраз тая субстанцыя, што з'ядноўвае народ. Аднак такое палажэнне мае яшчэ адзін бок праблемы. Для дзяржаў, у якіх большасць насельніцтва складае які-небудзь адзін монаэтнас, праблема веры і мовы не паўстае так востра, як у дзяржавах-федэрацыях. Тут цэнтралізацыя ўлады ў руках манарха непазбежна сутыкаецца з пэўным супраціўленнем дэцэнтралізатарскіх сіл, якія выражаюць інтарэсы членаў федэрацыі, не заўсёды згодных з палітыкай пануючых вярхоў. І апазіцыя тым мацнейшая, чым больш прадстаўнікоў эліты падтрымлівае народнасныя пачаткі, абараняе мову, культуру, традыцыі свайго этнасу, яго спрадвечную веру. Вось чаму менавіта вера і стала прадметам найбольшай увагі каралёў Рэчы Паспалітай і асабліва Жыгімонта III Вазы.

Доўгі час дарэвалюцыйная руская і савецкая гістарычная і філасофская навукі даказвалі, што асноўнымі ініцыятарамі Брэсцкай царкоўнай уніі былі католікі, рымская курыя. Гэта будзе справядліва толькі тады, калі абсалютна не ўлічваць стан веравызнання ў Рэчы Паспалітай у XVI—XVII ст. Між тым, усё XVI ст., асабліва яго другая палова адзначаны дэградацыяй праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім. Так, мітрапаліт Сільвестр Вялькевіч, будучы свецкім, стаў ігуменам Траецкага манастыра ў Вільні. Як адзначае Леў Крэўза ў творы «Пра адзінства» (1617), «... чалавек быў багаты, але ледзьве ўмеў чытаць». Падобнымі да яго былі Іона Пратасовіч (1568), Ілля Руча (1577), Анісіфор Дзевачка (1578) і інш. Сіманія з боку канстанцінопальскага патрыярхату перакрывала ўсе магчымасці для заняцця гэтых пасад людзьмі, годнымі звання пастыра. Зачыняліся праваслаўныя школы, літургіі чыталіся на незразумелай простаму люду царкоўнаславянскай мове, была забаронена вусная пропаведзь. Нездарма не толькі езуіты, але і рэфарматары Сымон Будны і Васіль Цяпінскі ў сваіх прадмовах да кніг выкрывалі невуцтва і абыякавасць духавенства ў справах пашырэння ведаў. Таму, відаць, Рэфармацыя пры падтрымцы магнатаў Вялікага княства Літоўскага, асабліва Мікалая Радзівіла Чорнага, лёгка запанавала ў духоўным жыцці беларусаў на працягу дзесяцігоддзяў.

Брэсцкая царкоўная унія 1596 г. з'явілася пошукам выхаду з заняпаду праваслаўя ў Вялікім княстве Літоўскім. Яе ініцыятарамі сталі важнейшыя праваслаўныя іерархі на чале з Міхаілам Рагозам. Невядомы нам аўтар кнігі «Святое адзінства царквы Усходняй і Заходняй» (1632) сцвярджае, што «святое адзінства пачало аднаўляцца ў 1590 годзе без выразнага ўдзелу ўсіх свецкіх станаў». Менавіта тады на правінцыйным Брэсцкім сінодзе 24 чэрвеня 1590 года мітрапаліт Міхаіл Рагоза і чатыры епіскапы — Кірыла Цярлецкі Луцкі, Лявонцій Пяльчыцкі Пінскі, Дыянісій Збіруйскі Хелмскі, Гедыон Балабан Львоўскі, які пазней адышоў ад уніі, шырокамаштабна абмяркоўвалі ідэі уніі.

З абгрунтаваннем неабходнасці падпарадкавання праваслаўя Рыму ад імя іерархаў выступіў Іпацій Пацей, які 2 мая 1594 г. з патрыяршым экзархам, епіскапам луцкім Кірылам Цярлецкім быў вылучаны ўладаю для «завяршэння» уніі з рымскім касцёлам. У сваёй кнізе «Унія» (1596), напісанай на старабеларускай мове, Пацей адыходзіць ад традыцыі выкрыцця адрознасцей Усходняй і Заходняй царквы. Калі кракаўскі канонік Ян Сакран у трактаце «Тлумачэнне аблудаў рускага абраду» (1500) налічвае 40 «аблуд» у праваслаўным веравызнанні, Пётр Скарга — 19, то Іпацій Пацей — толькі 4. Мэта Пацея была іншаю — паказаць не рознасць, а блізкасць дагматыкі і абрадаў двух касцёлаў. Ён лічыць, што унія не з'яўляецца якойнебудзь выдумкаю іерархаў, наадварот, прыводзіць хрысціян да той згоды, у якой жылі продкі. У сувязі з гэтым выкарыстоўваецца і своеасаблівы інструментарый доказнасці — Іпацій Пацей апелюе толькі да сведчанняў айцоў Усходняй царквы, што, на думку палеміста, павінна было надаць яго трактату большую веру ў вачах праваслаўных. У «Гармоніі» (1608) уніяцкі пісьменнік праводзіць свае ідэі больш выразна. Пасля праваслаўна-рэфарматарскай канфедэрацыі 1599, калі пачалося палітычнае збліжэнне гэтых канфесій, галоўнае, на думку палеміста, было даказаць, што рэфарматары ў аднолькавай ступені з'яўляюцца і ворагамі каталіцызму, і ворагамі праваслаўя. У прадмове да «Гармоніі» Іпацій Пацей пісаў: «А, нарэшце, смеюць некаторыя і тое гаварыць, што зборы евангеліцкія больш блізкія па веры і цырымоніях Усходняй царкве з сваімі цырымоніямі, чым рымляны... А наша мілая Русь таго не бачыць і імкнецца з імі братацца, а не з рымлянамі, не гавару пра палітыку, якая не забаронена, — але ў веры і ў набажэнстве». Уніяцкі пісьменнік-палеміст гаворыць, што пратэстанты былі б радыя вынішчыць і праваслаўныя і каталіцкія касцёлы і «набожество наше з грунту й з памяти людское выкоренити». Толькі рымляне, бароначы сваёй рэлігіі, бароняць і праваслаўную.

На справе, аднак, гэта абарона выглядае інакш. У снежні 1608 г. уніяты ўводзяць у Святатроіцкі манастыр езуітаў і кармелітаў. 29 снежня архімандрыт Сянчыла падаў скар-

*(Працяг на стар. 14-15)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ЖУРБОТНЫ ЮБІЛЕЙ

**Таццяна Каламійцава — гэта Імя. І гэта — эпоха ў гісторыі нашага музычнага мастацтва. Яна стаяла за пультам Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра Беларусі. Без яе немажліва ўявіць сабе жыццё Акадэмічнага тэатра оперы і балета некалькіх дзесяцігоддзяў. Унікальная асоба. Сумленны, бескампрамісны Музыкант, якога ведалі й шанавалі не толькі на Беларусі. Самаадданая ў працы і над сусветна прызнанымі класічнымі партытурамі, і над новымі творамі беларускіх аўтараў. Завадатар і музычны кіраўнік такіх найскладаных спектакляў, як «Арэстэя», «Лаэнгрын», «Казкі Гофмана»... «Казкі Гофмана» Ж. Афенбаха да нядаўняга часу ўпрыгожвалі рэпертуар нашага опернага, і Таццяна Міхайлаўна апекавалася гэтым адзіным сваім спектаклем, спяшалася ў тэатр, за дырыжорскі пульт, хаця ўжо лічылася «на заслужаным адпачынку»... Народная артыстка Беларусі, дырыжор, Т. Каламійцава пайшла з жыцця, недачакаўшыся свайго 80-га дня нараджэння, і яе апошні шлях не быў адзначаны ні афіцыйным рытуалам, ні афіцыйным словам развітання. Людзі дазнаваліся — і дасюль дазнаюцца — пра жалобную навіну выпадкова (як, дарэчы, і лімаўцы)... Дык мо хоць 80-годдзе Т. Каламійцавай стане нагодай для ўшанавання памяці народнай артысткі? Зрэшты, юбілейная дата таксама мінула. У жніўні...**

**Н. К.**

# З КАГОРТЫ ПАБРАЦІМАЎ

**зямлі беларускай і вядомы ўкраінскі паэт, перакладчык, а да ўсяго грамадскі дзеяч Мікола Бажан. Нарадзіўся Мікалай Платонавіч 9 кастрычніка 1904 года ў горадзе Камянец-Падольскі. Памёр 23 лістапада 1983 года. Усё жыццё падтрымліваў сувязі з Беларуссю, наведваўся да нас, меў нямала добрых сяброў сярод беларускіх пісьменнікаў.**

**М. Бажан пераклаў на ўкраінскую мову вершы Я. Купалы «Дзень Канстытуцыі» і «Песня будаўніцтву», кнігу П. Броўкі «Выбранае» (1957), вершы А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, А. Зарыцкага... З'яўляецца аўтарам артыкула «Слова пра беларускіх сяброў» (1953), прадмовы да зборніка М. Танка «Выбранае» (Кіеў, 1959). Выступіў з артыкулам у сувязі з выхадам першага тома Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.**

**З 1958 года М. Бажан працаваў галоўным рэдактарам Украінскай Савецкай Энцыклапедыі. Дзякуючы яму на старонках гэтага аўтарытэтнага выдання шырока прадстаўлены матэрыял, што тычыцца шматграннага жыцця Беларусі, сувязі двух нашых народаў.**

**На беларускай мове выйшлі кнігі М. Бажана «Бяссмерце» (1939), «Выбраныя творы» (1954). Часта яго творы публікаваліся ў рэспубліканскай перыёдыцы. Шырока прадстаўлена творчасць М. Бажана і ў анталогіі «Украінская савецкая паэзія» (Т. 1, 1975). Яго творы перакладалі П. Броўка, А. Бялевіч, В. Вітка, П. Глебка, А. Зарыцкі, М. Калачынскі, А. Куляшоў, М. Танк, Я. Семяжон і іншыя.**

# УНУКАМ НА ПАМЯЦЬ



**Колькі казак ды прыказак, самой складзеных прыпевак можа расказаць бабуля Алена! Унукі так і цягнуцца да яе, гатовыя слухаць без стомы.**

**А яшчэ Алена Раманаўна Арэшка славіцца ў наваколлі як выдатная майстрыха па вырабе тканых паясоў. Кожны яе выраб — унікальны. Алена Раманаўна — удзельніца многіх выставак работ народных умельцаў. Вучыцца яе майстэрству прыязджаюць у вёску Асташына Навагрудскага раёна майстры з усёй рэспублікі.**

**На здымку: Алена Раманаўна Арэшка з унукамі Юляй і Сашам.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

# «УСТОЙЛІВАСЦЬ АЙЧЫНЫ... ЗАСНОЎВАЕМ НА ЦЭЛАСНАСЦІ АДЗІНАЙ РЭЛІГІІ»

*(Пачатак на стар. 13)*

гу ў Віленскую ратушу. Гэтая скарга прыцягвае асаблівую ўвагу, дзе гаворыцца: «...ужо і школ сваіх для навукі мовы нашай славянскай не маем... Айцец Іпацій з добр царкоўных золата, срэбра, партугалаў, чырвоных залатых і ўсяго для аздобы сваёй вялікі дастатак мае, а вераю нашаю і намі ўбогімі святарамі пагардзеў».

2 студзеня 1609 г. Пацей напісаў зварот да віленскіх мяшчан, у якім загадвалася адабраць у праваслаўных іх цэрквы. І, сапраўды, у час знаходжання каралеўскіх войск Жыгімонта III у Вільні 11 жніўня 1609 г. у праваслаўных былі адабраны амаль усе святыні: Святая Прачыстая, Перанясення св. Міколы, Уваскрэсення Спаса, Пакрова, Пятніцкая, св. Юрыя, св. Кузьмы і Дзям'яна, Ражства Хрыстова, св. Міколы, св. Яна.

Праваслаўная апазіцыя аб'яднала свае сілы ў Віленскім манастыры Святога Духа, архімандрытам якога быў Лявонцій Карповіч. Сюды каля 1607 года прыходзіць Мялецій (Максім Герасімовіч) Смятрыцкі. Атрымаўшы праваслаўную адукацыю ў Астрожскай калегіі, каталіцкую ў Віленскай езуіцкай акадэміі, пратэстанцкую ва універсітэтах Лейпцыга і Вітэмберга, Мялецій стаў на чале інтэлектуальнай барацьбы з уніяй.

Абароне падлягалі ў першую чаргу дзве важнейшыя субстанцыі культуры — мова і вера. Перад праваслаўнымі вучонымі Рэчы Паспалітай паўстала задача — стварыць стройную, навукова абгрунтаваную лінгвістычную сістэму. Першыя спробы ў гэтым накірунку былі зроблены ў канцы XVI ст. — «Адель фотес». Граматіка доброглаголивого еллинославенскаго языка» (1591) і «Граматіка словенска» (1596 г.) Лаўрэнція Зізанія. Аднак толькі «Грамматіка» (1618—1619 гг.) Мялеція Смятрыцкага змагла даць вычарпальны звод правілаў на еўрапейскім узроўні развіцця мовазнаўчай навукі.

Смятрыцкі — чалавек пострэнесансны, барочны, культура для яго, а з ёю і слава — самадастатковая каштоўнасць. Ідэалам аўтара становіцца норма, арыстоцелеўская мера, г. значыць, чалавечы розум. Моваю культуры не можа быць мова, якая не фармалізуецца правіламі граматыкі. Мэта Смятрыцкага — паказаць, што ў распараджэнні беларусаў і ўкраінцаў ёсць не толькі сродак зносін, простанародная мова, але ў іх ёсць рэгулярная, падпарадкаваная правілам граматыкі мова, годная для навуковага пазнання свету. Чаму супрацьпастаўляюцца гэтыя ідэі? Лепш за ўсё пра папярэднюю аксіяматыку могуць даць уяўленні тэксты Іаана Вішанскага. «Па діавольскому навожденію, — пісаў ён у «Пасланні да князя Астрожскага і да ўсіх праваслаўных хрысціян», — славянскій язык обмерзъл многім: его не любят і хулят, но он есть плодоноснъйшій богом язык человъческій іменно за то, что нет на нем ні грамматікі, ні ріторікі, ні діалектікі, ні прочіх коварств діавольского тщеславія: это язык пріводіт к богу простым прілежным чтеніем безо всякіх ухіщреній: он созидает в нас простоту и смирение... Не лучше ли тебе изучить Часословец, Псалтирь, Октоих, Апостол, Евангеліе і быть простым богоугодником и преобресть въчную жизнь, чем постигнуть Аристотеля, Платона и прослыть в сей жизни мудрым философом, а потом отойти в гиену? Разсуди сам: лучше ни аза ни знать да к Христу достигнуть». Калі не браць пад увагу сярэдневяковую праваслаўную аксіяматыку, то з гэтай інвектывы лягчэй за ўсё зрабіць вывад пра так званую адсталасць сярэдневяковых праваслаўных кніжнікаў, хаця цяпер агульнапрызнана іх высокая адукаванасць. З пункту гледжання Іаана Вішанскага (ён цалкам стасуецца з сярэдневяковай праваслаўнай аксіяматыкай) інтэлект і маральныя заслугі — розныя з'явы. Веды, адукаванасць самі па сабе нічога не значаць, паколькі ад іх не залежыць выратаванне душы.

Мялецій Смятрыцкі глядзіць на рэчы інакш, у духу ідэй пострэнесанскіх, барочных. Ён прызнае самакаштоўнасць культуры, ставіць чалавека адукаванага вышэй «прастака». Свет усходніх славян — гэта свет «прастакоў», гэта хаос, які трэба падпарадкаваць сістэме і парадку. Галоўная задача працы Мялеція — зрабіць славянскую мову мовай культуры, раўнапраўнай з латынню і грэчаскай і даць такім чынам імпульс развіццю беларускай і ўкраінскай літаратуры. Прапаганда мовы, лічыў Мялецій Смятрыцкі, — гэта не толькі ўменне «спажываць», але і ўменне тварыць. Менавіта гэты аспект граматыкі Смятрыцкага зрабіў яе ўзорам для распрацоўкі рускай, сербскай, балгарскай, румынскай граматык, краевугольным каменем славесных навук на славянскай мове.

Для пісьменніка барока ўжо недастаткова, каб яго тварэнні чыталіся «абранымі», таму ён аб'ектыўна і суб'ектыўна імкнецца да расшырэння камунікатыўнай сферы, кола адрасатаў, якія хаця б умелі чытаць кнігі і разумець іх. З гэтаю мэтаю ў 1616 г. было ажыццёўлена першае выданне на роднай мове «Евангелля» вучыцельнага патрыярха Каліста, якое пераклаў М. Смятрыцкі.

Палемічная творчасць Мялеція Смятрыцкага дае шырокі дыяпазон разумення уніі адразу з двух бакоў — праваслаўнага і уніяцкага, паколькі два перыяды яго творчасці (праваслаўны і уніяцкі) якраз і даюць адказы на многія складаныя пытанні эвалюцыі уніі. Да пераходу ва уніяцтва Мялеціем напісаны шэраг палемічных трактатаў — «Антыграфі» (1608), «Трэнас» (1610), «Апраўданне нявінаватасці» (1621), «Абарона апраўдання» (1621), «Збор з'едлівых лістоў» (1622) і інш. Усе гэтыя творы, акрамя «Трэнаса», выдадзены ад імя братчыкаў Віленскага Святадухаўскага манастыра. Звычайна мы звяртаем увагу на ананімнасць твораў і тлумачым яе неабходнасцю скрыцця імя аўтара ад магчымых праследаванняў. Аднак падобная ананімнасць — гэта не толькі факт так званай канспірацыі. Многія брацтвы на Беларусі, сярод якіх было і Віленскае Святадухаўскае, мелі стаўрапігійныя правы, а значыць, духоўная ўлада поўнасцю падпарадкоўвалася свецкім асобам. Паколькі членамі Віленскага брацтва былі ў асноўным гараджане, то, зразумела, пісьменнікі гэтага брацтва, хацелі яны гэтага ці не, адстойвалі ідэі брацтва. Нават такі твор, як шырокавядомы «Трэнас», падвяргаўся брацкай цэнзуры. У «Экзатэзісе» (1629) Мялецій успамінае: «... той ляментавы скрыпт («Трэнас». — **У. К.**) больш чым год быў на цэнзуры Віленскага брацтва і меў не абы-якога цэнзара. Аднак, хто такі быў Арталог, які гэта напісаў, ніхто на той час, апроч некаторых найвышэйшых асоб з Віленскага брацтва, не ведаў». Далей Мялецій не без падстаў заяўляе, што Арталог (псеўданім Смятрыцкага) толькі выказваў ідэі брацтва.

Такое прызнанне пісьменніка-палеміста дазваляе ў іншым плане разглядаць творчасць Мялеція віленскага перыяду. У «Трэнасе», калі не браць пад увагу яго першых двух раздзелаў, Мялецій, па сутнасці, раскрывае пазіцыю Віленскіх братчыкаў-мяшчан адносна уніі. Раздзелы трэці—дзявяты прысвечаны традыцыйным момантам праваслаўна-каталіцкай палемікі: пра адзінаўладства рымскага біскупа, трактат пра рымскі касцёл і святую ўсходнюю царкву, пра зыходжанне Святога Духа, пра праснак і кіслы хлеб, пра чысцец, пра адмаўленне рымскім касцёлам кубка Новага Запавету, пра прызнанне святых. Гэта традыцыйныя раздзелы праваслаўна-уніяцкай палемікі. Аднак Мялецій Смятрыцкі па-новаму падышоў да іх інтэрпрэтацыі. Ён не толькі «выкрывае» каталіцкую дагматыку, але і паказвае тыя перспектывы, якія чакаюць праваслаўных з прыняццем уніі.

Так, Мялецій Смятрыцкі адзін з першых па Беларусі даў ацэнку езуітызму як з'яве сацыяльнай. Праваслаўныя пісьменнікі, цалкам занятыя барацьбою з уніятамі, абыходзілі ў сваіх трактатах пытанне пра езуітаў і іх уздзеянне на ўнутраную і знешнюю палітыку дзяржавы. У праваслаўі езуіты ўспрымаліся як насаджальнікі «лаціны», «богомерзкой і богопротивной» філасофіі Арыстоцеля. Смятрыцкі раскрывае генетычную сувязь паміж папскім дваром і езуітамі. У «Трэнасе» ён піша: «Якімі дзіўнымі і рознымі спосабамі вялебныя айцы маёнткі іх (жыхароў Вялікага княства Літоўскага. — **У. К.**) часткова драпежнасцю, часткова гвалтам, пад прыкрыццём, аднак, права, вырываюць і, як гаворыцца, гэтую свабодную і вольную шляхту на самой справе здзіўляюча прыцясняюць і пазбаўляюць іх хлеба, здабытага крывавым потам. Усюды поўна на іх слёзных скаргаў, поўныя земствы, поўныя гарады, поўныя, нарэшце, і надворныя суды, і сеймавыя паказы, не гаворачы пра трыбунал. Сведчаць выгнаныя з дамоў шляхціцы, сведчаць пазбаўленыя маёнткаў удовы, сведчаць абманутыя ў сваёй спадчыне сіроты. Гэта — на касцёл, а вы, сынок і дачка, за катомку; гэта — на калегію, а вы, маці і бацька, паклапаціцеся пра сябе, гэта на вызувіты (езуіты, гавару), а вы, браты, сёстры і сваякі, у чужынцаў хлеб выпрошвайце, гэта — на святых айцоў, а ты сам з жонкаю і дзецьмі, пазбавіўшыся ўласнага хлеба, дражні чужых сабак. Так гэтыя вынаходлівыя татачкі ўсё забіраюць, так усё пажыраюць і без усялякай небяспечнасці, бо ў Рыме ў іх суд, у Рыме — разбіральніцтва, у Рыме — закон. Прадай жа, шляхціц, зямлю, аддай пад заклад жонку і едзь у Рым на разбіральніцтва, дзе калі не ўласнага цела, дык, напэўна, пазбавішся душы і застанешся без усяго. Бо Рым — усяму галава, а іезуіт-вызувіт, што пазбаўляе людзей маёмасці. А ты, хто быў некалі вольным шляхцічам, павінен будзеш служыць наймітам».

Уніяцкі лагер на чале з Іпаціем Пацеем не раз абвінавачваў праваслаўных у тым, што яны знаходзяцца ў турэцкай няволі, адсюль не толькі іх «ерэтызм», але і прадажлівасць «нехрысцям». Мялецій Смятрыцкі ставіць упоравень турэцкую і папскую тыраніі. На думку пісьменніка, яны нічым не адрозніваюцца. Турак, у сілу сваёй недасведчанасці ў тайнах хрысціянства, ходзіць у цемры, таму яго цікавяць перш за ўсё «знешнія» багацці. Рымскі першасвятар, наадварот, спазнаўшы свет евангеліцкага вучэння, адкінуў яго, згасіў, і пасягае не толькі на мірскія дабрачыннасці, але і на душы людзей. Больш таго, калі турак меў на ўвазе толькі Азію, то папа, у адрозненне ад яго, хоча завалодаць усім светам, у тым ліку і землямі ўсходніх славян.

Для таго, каб падкрэсліць незалежнасць праваслаўнай царквы, Смятрыцкі адкрыта заяўляў, што ніхто з праваслаўных не кланяўся і не будзе кланяцца «ні туфлям, ні башмакам і ніякім шараварам, тым больш іх цалаваць», што ўзаконена ў цырыманіяльнай этыцы рымска-каталіцкага касцёла.

Пасля ўзнаўлення вышэйшай праваслаўнай іерархіі ў 1620 г. Мялецій Смятрыцкі становіцца полацкім архіепіскапам, епіскапам Віцебскім і Мсціслаўскім. Цяпер перад ім стаяла задача не столькі абвінавачваць уніятаў, колькі даказаць правамернасць існавання праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай як спадкаемцы той царквы, што была да 1596 г. У палеміцы 20-х гг. XVII ст. быў і яшчэ адзін аспект. Грэчаская царква была тым ланцужком, што звязвала праваслаўе Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы. Вось чаму уніяты імкнуліся адасобіць гістарычны лёс праваслаўя тэрыторый Рэчы Паспалітай ад Масквы.

Адразу ж пасля пасвячэння мітрапаліта Іова Барэцкага і праваслаўных іерархаў ерусалімскі патрыярх Феафан быў аб'яўлены турэцкім шпіёнам, а разам з ім і новапасвечаныя іерархі. Каралеўскаю граматаю ад 1 лютага 1621 г. загадвалася схапіць Іова Барэцкага і Мялеція Смятрыцкага як саўдзельнікаў шпіянажу. Вядомы і так званыя «позвы» на мітраполічы суд трэцяга уніяцкага мітрапаліта Іосіфа Руцкага да Мялеція Смятрыцкага.

У творы «Апраўданне нявінаватасці» Мялецій звярнуўся да новага тыпу палемікі — дакументальнай. Аперыруючы звесткамі са Стрыйкоўскага, Гвагніні, прыводзячы шматлікія пастановы сеймаў і каралеўскія граматы, палеміст даказваў, што Русь ніколі не была пад уладаю рымскага папы, і цяпер ён не бачыць ніякіх падстаў змяньваць старыя звычаі, адмаўляцца ад прывілеяў, што былі нададзены праваслаўю папярэднімі каралямі.

Адной з асноўных праблем палемічнай публіцыстыкі 20-х гг. XVII ст. была праблема суадносін духоўнай і свецкай улады. Палеміст адзначае, што большасць уніяцкіх святароў з'яўляецца не толькі духоўнымі настаўнікамі, але і займаюць высокія службовыя свецкія месцы, адкуль і самыя розныя бенефіцыі. Многія праваслаўныя магнаты, што адыходзілі ад праваслаўя, адбіралі ў іх цэрквы і манастыры, дараваныя раней маёнткі, чым даводзілі прыходы да ўпадку.

Што ж уяўляюць сабою уніяты і уніяцкія цэрквы ў дзяржаве? Смятрыцкі лічыць, што уніяты — гэта «ні птушка, ні звер, гэта значыць людзі ні грэчаскай, ні рымскай рэлігіі... яны паміж намі і рымлянамі нешта..., нешта няшчырае, але фіктыўнае, нешта выдуманае, ні тое, ні сёе». Пісьменнік малюе страшную карціну дэградацыі уніятаў, ён канстатуе, што многія праваслаўныя цэрквы і храмы ператвараюцца уніятамі ў кухні і корчмы, што бяздзейнічаюць школы, у пагардзе славянская мова і ў асмяянні руская (маецца на ўвазе беларуская і ўкраінская. — **У. К.**).

У першай чвэрці XVII ст. адбылося фактычнае раздваенне беларуска-украінскага

насельніцтва на вераспаведным грунце і ў плане сацыяльным. Уніяты, шляхціцы і магнаты, ужо не лічаць сябе роўнымі, «кроўнымі» з тымі, хто прытрымліваецца праваслаўя. У адкрытым лісце да Святадухаўскіх манахаў Януш Скумін, Адам Храптовіч, Мікалай Трызна і Ежы Мялешка лічылі ганебным упамінаць іх імёны побач з «хлопамі»: «Бо што гэта за адна кроў наша шляхецкая з плебеямі? Што за адзінакроўнасць з хлопствам?» Такім чынам, унія фактычна вяла да дэнацыяналізацыі верхніх слаёў грамадства, і эліта перастала падтрымліваць праваслаўную веру, культуру.

Для праваслаўных дзеячаў вера становіцца сімвалам жыцця, сімвалам самазахавання нацыі. «У «Суплікацыі» (1623) падкрэсліваецца, што рускі народ (беларусы і ўкраінцы) былі далучаны да Польскай Кароны як роўны да роўнага, як вольны да вольнага: «Вольнасці гэтыя, свабоды і правы народ наш рускі набыўшы сваёю крывёю, грудзьмі іх сваімі ад кожнага непрыяцеля-чужынца абараняе, крыві сваёй не шкадуе... Не хоча таго ніхто ведаць, што адступнікі нашы на тым стаяць, каб Русі не засталося на Русі... святая вера не была ў рускай царкве, якая не перш можа быць знішчана, аж разам са знішчаным народам рускім... лепш з дапамогаю Божаю ўсе памром, чым Богам дараваную нам веру дапусцім да таго, каб адступнікі нашы вырвалі яе з грудзей нашых».

Ва уніяцкіх творах Мялеція Сматрыцкага зусім іншая мера каштоўнасцей. Цяпер ён больш акрэслена завастрае ўвагу на пытаннях узаемасувязі культуры і веры. Вера становіцца для яго вызначальным фактарам духоўнай культуры. З-за таго, што праваслаўная вера ерэтычная, у цэрквах Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы просты люд у вёсках, гарадах і мястэчках не ведае, што такое вера Хрыста, «ойча наш», дзесяць запаветаў, таму жыве, як «быдла», а пралогі, якія чытаюць у цэрквах, не разумеюць ні той, хто чытае, ні той, хто слухае. Такім чынам, праваслаўная вера, на думку пісьменніка, не толькі ерэтычная, але і культурна безнадзейная.

У «Парэнезісе» ён абгрунтоўвае даволі прадуктыўную думку — стварэнне беларуска-ўкраінскага патрыярхату накшталт маскоўскага, але гэты патрыярхат павінен быў уключыць і праваслаўных, і уніятаў з абавязковым падпарадкаваннем Рымскаму папе. Падобная ідэя не магла быць ажыццёўлена з-за вострай непрымірымасці абодвух бакоў.

Сматрыцкі-уніят выразна раздзяляў «старое» і «новае». Старое — гэта традыцыі праваслаўнай царквы, звычаі народа і адначасова — эстэтычныя і маральныя нормы, ідэалы беларусаў і ўкраінцаў. Яны не толькі «не падыходзяць» для сучаснага жыцця, але і аказваюцца шкоднымі ў перспектыўных адносінах. Праваслаўная вера і адукаванасць становяцца для Мялеція, аўтара «Экзэтэзіса», несумяшчальнымі паняццямі. Новае, прынесенае — больш «культурнае» і «адукаванае». Традыцыі рымска-каталіцкага касцёла, заходняй культуры, па Мялецію, павінны падтрымлівацца і стаць прадметам наследавання, уся папярэдняя гісторыя Беларусі і Украіны — гэта шлях бясконцых аблуд. Праваслаўная царква не стала дзяржаваю, таму не садзейнічала ні адукацыі, ні ўстанаўленню царкоўнага парадку: усё засталося па-старому.

Каталіцкая вера аказалася мацнейшаю, яна была замацавана дзяржаўным правам, таму мела многія практычныя выгады. Дысгармонія веравызнанняў у дзяржаве нясе з сабою разбуральныя пачаткі, нараджае бунты і праліццё крыві. Каталіцкая вера і звязаная з ёю культура — вышэйшая, яна заключае ў сабе ўвесь комплекс каштоўнасцей. Праваслаўная, наадварот, — ерэтычная, «хлопская», значыць і культура праваслаўя — культура «подлых» людзей. Вось чаму ў «Экзэтэзісе» Мялецій Сматрыцкі прыходзіць да высновы, што самы лепшы лад — адзінаўладства. Механізм адзінаўладства ў дзяржаве ён імкнецца перанесці і ў сферу духоўную. Такім арганізуючым пачаткам для Мялеція з'яўляецца ўлада Рымскага папы. Аднак без моцнай улады свецкай, лічыць палеміст, немагчыма адзінства веры і выкараненне схізмы. У лісце да папы Урбана VIII ад 16 лютага 1630 года пісьменнік-палеміст зазначае, што схізма больш жывучая ва ўмовах свабоднай дзяржавы (такою ён лічыць Русь у складзе Рэчы Паспалітай), а пры тыранічнай уладзе яна недаўгавечная.

У 1632 годзе кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV пайшоў на некаторыя ўступкі праваслаўным. Былі прыняты так званыя «Статьи для успакоения народа русского греческой религии, живущего в царстве Польском и Великом княжестве Литовском». Аднак ужо ў снежні 1633 г. каронны казначэй Г. Асалінскі ў Рыме дэкларадаваў іншае: «...устойлівасць айчыны і нашых правоў засноўваем на цэласнасці адзінай рэлігіі».

## Георгій Сямёнавіч ГЛУШЧАНКА



Беларуская музычная культура панесла вялікую страту. 22 верасня на 73-м годзе жыцця памёр выдатны музыказнаўца, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы Георгій Сямёнавіч Глушчанка.

Георгій Сямёнавіч Глушчанка нарадзіўся 5 мая 1922 г. у Растове-на-Доне. Вучоба ў музычным вучылішчы была спынена Вялікай Айчыннай вайной, на франтах якой ён правёў чатыры гады, удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі. Пасля заканчэння Музычна-педагагічнага інстытута імя Гнесіных і аспірантуры пры ім у 1957 годзе ён быў запрошаны на педагагічную працу ў Белдзяржкансерваторыю. З гэтага часу яго лёс цесна звязаны з Беларуссю.

Значны ўклад Г.С. Глушчанкі ў развіццё нацыянальнай музычнай адукацыі. Доўгі час ён узначальваў у Белдзяржкансерваторыі кафедру гісторыі музыкі, арганізатарам якой з'яўляўся. Па яго ініцыятыве была створана кафедра беларускай музыкі. Пад ягоным кіраўніцтвам і пры ягоным удзеле былі створаны даследаванні і падручнікі па нацыянальнай музыцы для ўсіх звенняў музычна-навучальных устаноў рэспублікі. Сярод ягоных вучняў шмат знакамітых музыкантаў.

Вядомы навуковец, ён стварыў манаграфіі «Н.Д. Кашкин и русская опера», «В. Ф. Одоевский и русская народная песня», «Очерки по истории русской музыкальной критики конца XIX — начала XX века», надрукаваў шмат навуковых артыкулаў па праблемах беларускай музычнай культуры.

Музычна-грамадская дзейнасць Г. С. Глушчанкі была звязана з Саюзам кампазітараў Беларусі, дзе ён неаднаразова абіраўся членам праўлення, узначальваў камісію па музыказнаўстве. Быў узнагароджаны ордэнамі Айчыннай вайны II ступені, Чырвонай Зоркі, медалямі, ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савета Беларусі.

У нашых сэрцах заўсёды застанецца светлы воблік гэтага сціплага, добразычлівага, інтэлігентнага чалавека — выдатнага дзеяча беларускай музычнай культуры.

**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**САЮЗ КАМПАЗІТАРАЎ БЕЛАРУСІ,**

**БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ**

**Калектыў навуковых супрацоўнікаў аддзела музычнага мастацтва Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі глыбока смуткуе з прычыны раптоўнай смерці вядомага музыказнаўцы, доктара мастацтвазнаўства, прафесара Беларускай акадэміі музыкі Георгія Сямёнавіча ГЛУШЧАНКІ і выказвае спачуванне яго родным і блізкім.**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Кажуць так: на Беларусі ціха, ветрык змен не варухне галінкі. Гэта праўда, ціха судзяць кнігі, на канцэртах ціха б'юць пласцінкі... Відавочная неразбярыха: у Вандэі ліха, калі ціха.

•

Прыехаў дзед у Мінск. «Як трапіць на Маскоўскую?» — спытаўся ў міліцыянера. «Езжайте к молокозаводу», — пачуў у адказ. Не знайшоў дзед таго, што шукаў. «Может, возле метро Московское», — параіў другі міліцыянер. «А не на Московском ли кладбище?» — пажартаваў трэці. «Ну як там Мінск?» — пацікавіліся ў дзеда. «Парадку мала: маскоўскага шмат», — засмучана адказаў дзед.

•

Пра гімн. Ён, можа, некалі і грымне, ды толькі словы скласці як, каб пра адно запелі ў гімне і Лукашэнка і Пазняк.

•

З яўрэйскай. «Рэбе, у Расіі перамог Жырыноўскі, што будзе?» — «Што будзе? А народ застаўся?» — «Застаўся». — «Ён і будзе».

•

Аб'яднацца пажадалі музы. Кончылася чым? А як здавён, старшыня садружнасці саюзаў атрымаў вышэйшы пенсіён.

•

З біблейскіх выслоўяў. Не таму вецер, што дрэвы качаюцца, а таму дрэвы качаюцца, што вецер. Не таму чалавек лянуецца, што жыве дрэнна, а таму жыве дрэнна, што лянуецца. Няма нічога вечнага, акрамя бессмяротнага, але як ты спазнаеш вечнае, калі не жывеш?

•

Аўтобусы на прыпынках звычайна спыняюцца не там, дзе чакаюць людзі, а ля бліжэйшага слупа з таблічкаю. Слупы ж з таблічкамі ў нас чамусьці заўсёды не там, дзе чакаюць людзі. «Так патрабуецца», — тлумачаць шафёры... Я не за тое, каб пераносіць слупы, я — за пасажыраў.

•

— Вынаходзіце калючкі, — сказаў мне крытык, — навошта яны? Засмучаны, я зусім ужо сабраўся кідаць свае штукарствы, калі ў вакно ўсунулася ветка шыпшыны.

— Нельга без калючак, — прашамацела яна, — жвачныя з'ядуць.

— А маё семя, — адазваўся дзядоўнік з дарогі, — па свету ж не панясуць.

У тэлевізары паказалася галава вярблюда:

— Калючкі наша ежа, на нас вунь колькі вязуць.

Крытык мармытаў нешта пра селекцыйныя гатункі шыпшыны без калючак, пра тое, што ў дзядоўніку галоўнае не шышкі, а лісты, што пустыні ў нас ужо абвадняюць, а напрыканцы параіў быць падобным да вожыка: той хоць і калючы, а круглы.

На тым і развіталіся. Ніяк не хацелася пазбаўляцца калючак, а тым больш — рабіцца круглым.

— А ўсё-такі жанр у вас немаштабны, — сказаў крытык пры наступнай сустрэчы.

Тут ён меў рацыю.

•

Адранку ціск? А самі мы нашто? Хай лічбы не пужаюць нас, а цешаць. Зайшоў у магазін — дзялю ўсё на сто, прынеслі пенсію — дзялю ўсё на дзесяць. Урад распісвае чарговую праграму — улічваю працэнт падману і рэкламы. І з ціскам так — бывалы пацыент, у ціск уношу свой каэфіцыент.

•

Здаёмся на літасць Масквы, не дбаючы аб прыстойнасці. У памяць аб самастойнасці пакідаюць нам сімвал адзіны — розніцу ў гадзіну між Мінскам і Масквою. Затое за тую гадзіну стаяць будзем як за Радзіму.

•

На экскурсіі ў Вярхоўны Савет. Наш герб цяпер, дзеткі, не молат і серп, а вершнік, што б'ецца за шчасце і долю. Дзе б'ецца той вершнік з адданым канём? На Чырвоным полі, на Чырвоным полі.

•

У адной краіне пры раскопках знайшлі «Кнігу скаргаў». «Шкода, што не захаваліся запісы, — сказаў малодшы археолаг, — зналі б, як жылі людзі». — «І так ясна, — сказаў старэйшы. — Прадаўцы абражалі пакупнікоў, тавараў нехапала, прадукцыя паступала нізкай якасці, прамысловасць адставала, сельская гаспадарка была ў заняпадзе, грамадства хварэла, кіраўнікі не маглі вывесці краіну з крызісу. Будзь яно інакш, нашто спатрэбіліся б «Кнігі скаргаў».

•

Песенька (з чэшскай). У цябе нічога, у мяне нічога, скінемся, хай будзе больш таго нічога. Нашае нічога, іхняе нічога, Божачка, як многа гэтага нічога.

•

Не спіш, за свет трывога ці не праела плеш? А ты захутай ногі, адразу захрапеш. І можа, там, між снамі, у сіняве, здаля, мільгне — на карце пляма — радзімая зямля.

•

— Далёка бачыць, — кажуць пра дзеда Міхеда. — Снег выпаў, а ён: «Вясна ідзе». Вясна сапраўды наступае, але аўтарытэт дзеда год ад году падае. «Паўтараецца», — наракаюць землякі.

**Усебеларускі жаночы Фонд Еўфрасінні Полацкай глыбока спачувае народнай артыстцы Беларусі Марыі Захарэвіч з прычыны вялікага гора — смерці маці.**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

**Галоўны рэдактар**
**Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Андрэй ГАНЧАРОЎ**
***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась ЗАЛОСКА**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ**
***намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі *332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі *332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі *331-985***
**літаратурнага жыцця *332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі *332-204***
**паэзіі і прозы *332-204***
**музыкі *332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання *332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462***
**навін *332-462***
**мастацкага афармлення *332-204***
**фотакарэспандэнт *332-462***
**бухгалтэрыя *268-640***





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 6.10.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

